Р. КІПЛІНГ

# МАЎГЛІ

Пераклад з рускага Я. Маўра

Малюнкі Ватагіна





1 9 3 4
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — ЮНДЗЕТСЕКТАР



# БРАТЫ МАЎГЛІ

> На крыллях Чыля ноч прыйшла,
> лятаюць кажаны.
> Жывёлы ў хлеве—мы адны да ранішняй зары...
> Удар кіпцёў і стук зубоў злілісь
> ў крывавы стогн...
> Увага! Добра будзе ўсім, шануе
> хто закон.
>
> Начная песня Джунгляў.

Надыходзіла сёмая гадзіна гарачага вечара на ўзвышшах Сіанійскіх, калі Бацька Воўк прачнуўся ад дзённага сну, пачухаўся, зяхнуў і выцягнуў адну за адной лапы, якія здрантвелі да кіпцюроў у соннай млявасці. Маці Ваўчыца ляжала, утыркнуўшыся вялізным шэрым носам у чацвёра сваіх шчанят, якія дурэлі на падлозе, а месяц ззяў праз шчыліну пячоры, дзе ўсе яны жылі.

— Огрр!—прабурчэў Бацька Воўк.—Час ужо ісці на паляванне.

І ён ужо хацеў быў кінуцца ўніз з узгорка, як раптам маленькая постаць з пушыстым хвастом загарадзіла ўваход і наверашчала:

— Хай будзе табе ўдача, о, Галоўны над ваўкамі! Шчасце і моцныя белыя зубы хай заўсёды будуць у тваіх шляхетных дзяцей, і хай не забываюцца яны на тых, хто галадуе на гэтым свеце!

Гэта быў шакал Табакі, падліза, а ваўкі індыйскіх лясоў глядзяць на Табакі з пагардай, бо ён заўсёды шнырае ўсюды, робіць паскудствы, разносіць плёткі і жарэ рыззё і кавалкі скуры, што знаходзіць на вясковых сметніках. Але яны-ж і баяцца Табакі, бо ён больш як хто ў джунглях, паддаецца шаленству; і тады ўжо ён не баіцца нікога, імчыцца па лесе і кусае ўсіх, хто толькі трапіцца на яго шляху. Нават тыгр бяжыць і хаваецца, калі шалее маленькі Табакі; шаленства жахлівей за ўсё ў свеце, што толькі можа пагражаць зверу. Мы, людзі, завем гэтую хваробу водабаязню, а зверы завуць яе „дэвані“— шаленства—і бягуць без аглядкі.

— Ну, ідзі, шукай,—пахмура прамовіў Бацька Воўк,—ды тут і няма спажыўнага.

— Для Ваўка няма,—адказаў Табакі,—але для такой нікчэмнай асобы, як я, і сухая костка ўжо баль. Дый ці нам, Гідур-логу („шакалавае племя“) выбіраць і быць разборлівымі?

Ён шмыгнуў у глыбіню пячоры і знайшоў аленявую костку, на якой яшчэ засталося крыху мяса; ён прыціснуўся да яе і прагна пачаў грызці.

— Дзякую за сытны абед,—прамовіў ён, аблізваючы губы.—А, якія прыгожыя вашы шляхетныя дзеткі! Якія ў іх вялізныя вочы! А яны-ж яшчэ маладыя зусім. Але выбачайце, я забыўся, што дзеці цароў—дарослыя з першага-ж дня.



Табакі, як і кожны, добра ведаў, што няма нічога горшага як хваліць дзяцей у вочы, але яму прыемна было зрабіць прыкрасць Бацьку і Матцы ваўчанят.

Некаторы час Табакі сядзеў ціха, задаволены сваімі словамі, а потым зласліва сказаў:

— Шэр-Хан, Вялікі, мяняе месца палявання. У будучым месяцы ён будзе паляваць у тутэйшых горах,—так сказаў ён мне.

Шэр-Хан быў тыгр, які жыў ля ракі Вайнгунгі, за дваццаць міль.

— Не мае права!—гнеўна крыкнуў Бацька Воўк.— Паводле закону Джунгляў ён не мае права мяняць месца без належнага паведамлення. Ён распудзіць усю дзічыну на дзесяць міль навакол, а мне... мне трэба лавіць за двух у гэтыя дні.

— Нездарма ягоная матка назвала яго Ленгры („кульгавы“),—спакойна заўважыла Маці Ваўчыха.— Ён ад дня нараджэння кульгае на адну нагу і вось чаму забівае толькі хатнюю жывёлу. Пасяленцы Вайнгунгі востраць на яго зубы—і вось ён ідзе сюды, каб і нашых суседзяў раззлаваць. Праз яго яны пачнуць паліць Джунглі. Яму што,—ён пойдзе сабе куды-небудзь далей, а нам з дзецьмі прыдзецца ўця-

каць адсюль, калі падпаляць траву. Дзякуй, дзякуй Шэр-Хану.

— А можа перадаць яму вашу падзяку?—спытаўся Табакі.

— Вон!—рыкнуў Бацька Воўк.—Вон! Ідзі паляваць да свайго дабрадзея. Досыць ты нарабіў зла для адной ночы.

— Я іду,—спакойна адказаў Табакі.—Вы пачуеце Шэр-Хана ўнізе, у гушчары. Я мог і не выконваць даручэння...

Бацька Воўк прыслухаўся, і з глыбіні даліны, што спускалася да маленькай рачулкі, да яго даляцеў рэў тыгра, сухі, злосны, працягла-вісклівы; выццё, якое сведчыла, што звер упусціў здабычу і што яму ўжо ўсёроўна, ці будуць ведаць пра гэта Джунглі, ці не.

— Дурань!—прамовіў Бацька Воўк.—Начную работу пачынаць з гэткага шуму! Ён, мусіць, думае, што нашы алені тое самае, што тлустыя бычкі Вайнгунгі.

— Тс! Цяпер ён палюе не на бычка і не на аленя,—перапыніла яго Маці Ваўчыха.—Гэта Чалавек!

Выццё ператварылася ў нейкае гудучае мурканне, якое, здавалася, выходзіла з усіх пунктаў ваколіцы. Гэта быў той гук, які прыводзіць у дзікі жах дрывасекаў і цыганаў, што начуюць пад адкрытым небам, і часам прымушае іх кідацца проста ў зубы тыгру.



— Чалавек!—сказаў Бацька Воўк, ашчэрыўшы ўсе свае белыя зубы.—Фуй! Лепш ужо есці жукоў і жаб,

як нападаць на Чалавека, ды яшчэ на нашай зямлі.



Закон Джунгляў, які нічога не вызначае без прычыны, забараняе зверу есці Чалавека, апрача тых выпадкаў, калі навучаюць дзяцей паляванню; але тады ён павінен паляваць не на ўчастку сваёй Зграі, ці Племя.

Сапраўдная-ж прычына гэтай забароны крыецца ў тым, што паляванне на Чалавека раней ці пазней выклікае паход белых людзей на сланах, са стрэльбамі, і некалькі соцень цёмнаскурых з барабанамі, ракетамі і факеламі.

Тады ўжо дастаецца ўсім жыхарам Джунгляў.

Тымчасам мурканне рабілася ўсё мацнейшым і, нарэшце, пачулася грамовае „гарр“, калі тыгр робіць напад. Потым зноў скавытанне.

— Шэр-Хан прамінуўся,—заўважыла Маці Ваўчыха.—Што такое з ім?

Бацька Воўк прабег некалькі крокаў і пачуў дзікі рык і сопат тыгра, які ваўтузіўся ў зарасніку.

— Дурань трапіў у вогнішча дрывасека і абапёк сабе лапы,—рыкнуў Бацька Воўк.—З ім Табакі!

— Нехта ўзбіраецца на гару,—прамовіла Маці Ваўчыха, натапырыўшы вуха.—Рыхтуйся!

У гушчары крыху зашамацелі кусты. Бацька Воўк падагнуў ногі, сціснуўся і падрыхтаваўся скокнуць.

— Чалавек!—крыкнуў ён, ляснуўшы зубамі.—Чалавечае Дзіцянё! Глядзі!



Проста перад ім, трымаючыся за нізкарослую галінку, стаяла голенькае цёмнаскурае дзіця, якое толькі што пачынала хадзіць. Гэта было самое далікатнае, самае прыгожае стварэнне, якое калі-небудзь заглядвала ўначы ў воўчае логава. Яно глядзела ў твар Бацьку Воўку і ўсміхалася.

— Няўжо-ж гэта Чалавечае Дзіцянё?—спыталася Маці Ваўчыха.—Ніколі іх не бачыла. Нясі яго сюды!

Прывыкнуўшы цягаць сваіх уласных дзяцей, воўк можа, калі трэба, перанесці ў роце яйка, не расціснуўшы яго. І хаця сківіцы Бацькі Ваўка шчыльна сашчапіліся над спіной дзіцяці, але ён ніводным зубам не драпануў яму скуры, калі прынёс і паклаў яго сярод сваіх шчанят.

— Які маленькі! Ён зусім голы!.. І які смелы!..— пяшчотна казала Маці Ваўчыха.

Дзіця пачало штурхаць ваўчанят, каб прыціснуцца бліжэй да цёплага бока ваўчыхі.

— Ага! ён смокча разам з нашымі дзецьмі! Дык вось якое гэтае Чалавечае Дзіцянё!

Ну, які воўк мог калі-небудзь пахвастацца, што ў яго сярод ваўчанят ляжыць Чалавечае Дзіцянё?..

— Мне даводзілася чуць нешта падобнае, але гэта было не ў маёй Зграі, і не ў мой час,—казаў Бацька Воўк.—Ён зусім безвалосы, і я мог-бы

забіць яго, абы крыху дакрануўся нагой. Але глянь: ён пазірае проста на мяне—і ні трошкі не баіцца!

Святло месяца, што ззяла ў шчыліне пячоры, зацямнілася: вялізная квадратная галава і плечы Шэр-Хана загарадзіла ўваход. Табакі, хаваючыся за яго спіной, пішчэў:

— Уладар, Уладар! Ён увайшоў сюды!

— Шэр-Хан робіць нам гонар сваім наведваннем,— прамовіў Бацька Воўк, але ў вачах яго свяціўся гнеў.—Што трэба Шэр-Хану?

— Маю здабычу. Тут прайшло Чалавечае Дзіцянё,—сказаў Шэр-Хан.—Яго радня паўцякала. Аддайце яго мне!





Шэр-Хан ускочыў у вогнішча дрывасека, як ужо заўважыў Бацька Воўк; боль у абсмаленых нагах прыводзіў яго ў лютасць.

Але Бацька Воўк ведаў, што шчыліна пячоры занадта вузкая для тыгра і што ён не пралезе.

— Воўк—вольны народ!—сказаў Бацька Воўк.— Яны прымаюць загады ад Правадыра Зграі, а не ад якога-небудзь там паласатага скатабоя. Чалавечае Дзіцянё наша, і мы яго заб'ём, калі захочам.

— Захочаце ці не захочаце? Гэта што за гутарка? Клянуся быком, якога я забіў, што я доўга не буду чакаць тут, утыркнуўшы нос у ваша сабачае логава. Чакаць таго, што належыць мне па праву? Гэта я, Шэр-Хан, гавару з вамі!

Грамовы рык тыгра страсануў пячору. Маці Ваўчыха адштурхнула ад сябе ваўчанят і скокнула на-

перад; вочы яе гарэлі ў цемры, як два зялёныя ліхтары і ўтаропіліся ў палаючыя вочы Шэр-Хана.

— А гэта я, Ракша („Д'ябал“), адказваю табе! Чалавечае Дзіцянё маё,—чуеш, Ленгры—маё і толькі маё! Яно не будзе забіта! Яно застанецца жывое, будзе бегаць і паляваць разам з усёю Зграяй. А нарэшце—сцеражыся ты, паляўнік на голых дзяцей, пажыральнік жаб і рыб!—ён будзе паляваць на цябе! А цяпер ідзі прэч, а то, клянуся Самбгурам, якога я забіла (я-ж не ем хатняй скаціны), ты пойдзеш да сваіх, смалены пёс Джунгляў, больш кульгавы, як з'явіўся на свет. Прэч адсюль!

Бацька Воўк здзіўлена пазіраў на яе.

Ён паспеў ужо забыцца на тыя часы, калі адваяваў Маці Ваўчыху ў жорсткай сутычцы з пяцьма іншымі ваўкамі, калі яна бегала ў Зграі, і яе толькі з далікатнасці не называлі ў вочы Д'яблам. Шэр-Хан мог-бы яшчэ падужацца з Бацькам Ваўком, але не ўстаяў-бы супроць Ваўчыхі, бо бачыў усе перавагі яе пазіцыі і ведаў, што яна будзе біцца на смерць. Таму ён з рыканнем адступіў ад пячоры і, крыху адышоўшы, крыкнуў:

— На сваім двары і сабака пан! Паглядзім, што скажа Зграя на такую абарону чалавечага дзіцяці. Дзіцянё—маё, і раней ці пазней яно трапіць мне на зубы, густахвостыя злодзеі!

Маці Ваўчыха, ледзь дыхаючы, кінулася вобземлю сярод сваіх дзяцей. Бацька Воўк паважна сказаў ёй:

— Шэр-Хан сказаў праўду. Дзіцянё трэба паказаць Зграі. Дасі яму прытулак, Маці?

— Даць прытулак?!—прамовіла яна. Ён прыйшоў уначы адзін, голы, галодны, але ён не баяўся. Глядзі, ён ужо адапхнуў аднаго з маіх дзяцей у бок. Гэты кульгавы мяснік забіў-бы яго і ўцёк на Вайнгунгу, а потым тутэйшыя пасяленцы разбурылі-б за гэта ўсе нашы прытулкі! Даць яму прытулак? Вядома, я прытулю яго. Ляжы ціха, Жабянё! О, Маўглі—бо Маўглі-Жабянё буду я называць цябе,—прыйдзе час, калі ты будзеш паляваць на Шэр-Хана, як Шэр-Хан паляваў на цябе.

— Але што скажа наша Зграя?—прамовіў Бацька Воўк. Закон Джунгляў вельмі выразна кажа, што кожны воўк, калі ажэніцца, можа выйсці з Зграі, да якой ён належыць. Але як толькі яго шчаняты падрастуць настолькі, каб трымацца на нагах, ён павінен прадставіць іх у Племянную Раду, якая збіраецца раз у месяц, на поўнік (поўны месяц на небе), каб усе ваўкі маглі-б азнаёміцца з дзіцём. Пасля агляду шчаняты могуць бегаць, дзе хочуць, а пакуль яны не заб'юць свайго першага аленя, ніякаму даросламу ваўку Зграі не даруецца, калі ён заб'е аднаго з іх. Забойца караецца смерцю на тым самым месцы, дзе яго знойдуць.

Бацька Воўк пачакаў, пакуль яго шчаняты пачалі бегаць, і ўноч Племянной Рады павёў іх усіх, Маўглі і Маці Ваўчыху, на Скалу Рады—камяністы ўзгорак, дзе магло размясціцца да сотні ваўкоў.

Акела, вялізны сівы Адзінокі Воўк, які кіраваў Зграяй сваёй дужасцю і розумам, ляжаў на скале, выцягнуўшыся на ўсю даўжыню. Ніжэй сядзела сорак ці больш ваўкоў усякага выгляду і росту, ад сівых



ветэранаў, якія маглі адзін-на адзін справіцца з аленем, да маладых чорных трохгадавікоў, якія толькі думалі сабе, што могуць зрабіць тое самае. Адзінокі Воўк ужо з год кіраваў Зграяй. У маладосці ён два разы трапляў у воўчую пастку, а аднаго разу яго так пабілі, што кінулі, як мёртвага. Таму ён добра ведаў характар і звычкі людзей.

Ля скалы не чуваць было гутарак. Шчаняты куляліся і гулялі ў сярэдзіне кола, створанага іхнімі бацькамі. Час ад часу які-небудзь дарослы воўк павольна набліжаўся да шчаняці, уважліва аглядаў яго і ціха вяртаўся на сваё месца. Часам маці выштурхоўвала сваё дзіця на святло месяца, каб усе яго добра бачылі.

Акела-ж заклікаў з сваёй скалы:

— Вы ведаеце Закон — вам вядомы Закон. Добра глядзіце, о Ваўкі!.. І маткі трывожна паўтаралі:

— Глядзіце, добра глядзіце, о Ваўкі!...

Нарэшце (і ў гэты момант у Маткі Ваўчыхі поўсць на шыі стала дыбам) Бацька Воўк выпхнуў на сярэдзіну „Маўглі-Жабянё“, як яго называлі. Той усеўся сабе на зямлі і, смяючыся, пачаў гуляць з каменьчыкамі, што блішчэлі ў праменнях месяца.

Акела не падымаў галавы і аднастайна выкрыкваў:

— Добра глядзіце!

Глухі рык пачуўся па-за скаламі—гэта быў голас Шэр-Хана:

— Дзіцянё—маё! Аддайце яго мне! Навошта патрэбна Вольнаму Племю Чалавечае Дзіцянё?

Акела не звярнуў на гэта ўвагі і толькі сказаў:

— Глядзіце добра, о Ваўкі! Якая справа Вольнаму Племю да чыхсь там загадаў, апрача вольнага Племя? Добра глядзіце! Пачулася шматгалосае рыканне, і малады чатырохгадовы воўк кінуў Акелу пытанне Шэр-Хана:

— Якая патрэба Вольнаму Племю ў чалавечым дзіцяці?



Паводле Закону Джунгляў, калі ўзнікнуць спрэчкі, ці прыняць шчаня ў Зграю, за яго павінна быць падана прынамсі два галасы членаў Зграі, але толькі не бацькоў.

— Хто кажа за Дзіцянё?—спытаўся Акела.— З Вольнага Племя хто кажа?

Адказу не было, і Маці Ваўчыха падрыхтавалася да апошняй (яна гэта ведала) сваёй бойкі, калі-б справа да гэтага дайшла.

Тады выступіў стары Балу, санлівы руды мядзведзь, адзіны чужы звер, які быў дапушчаны ў Племянную Раду. Ён навучаў ваўчанят Закону Джунгляў і ўсюды бадзяўся, бо жывіўся толькі арэхамі, карэннямі і мёдам. Балу стаў на заднія лапы і зарыкаў:

— Чалавечае Дзіцянё! Чалавечае Дзіцянё! Я стану за Чалавечае Дзіцянё! Ён не зробіць нам шкоды. Я не ўмею красамоўна казаць, але кажу праўду! Хай ён бегае ў Зграі і ўвойдзе ў яе разам з іншымі. Я сам бяруся яго выхоўваць.

— Нам патрэбен яшчэ адзін голас,—прамовіў Акела. —Гаварыў Балу, а ён настаўнік нашай моладзі. Хто апрача Балу?

Чорны цень лёг сярод кола. Гэта была Багіра, горная пантэра—чорная, як чарніла, з уласцівымі пантэры адценнямі, бліскучымі, як муаравая тканіна. Усе ведалі Багіру і ніхто не адважыўся станавіцца ёй поперак дарогі, бо яна была хітрая, як Табакі, смелая, як дзікі буйвал, і нястрымная, як паранены слон. Але голас яе быў салодкі, як дзікі мёд, што капае з дрэва, а поўсць мякчэй за пух.



— О, Акела, і вы, Вольнае племя!—закурныкала яна.—Я не маю права ўдзельнічаць у вашым сходзе. Але Закон Джунгляў кажа, што калі ўзнікне сумненне аб новым дзіцяці,—калі справа ідзе не аб забойстве,—то жыццё гэтага дзіцяці можа быць куплена за пэўную плату. А Закон не вызначае, хто можа і хто не можа прапанаваць гэтую плату. Ці праўду я кажу?

— Правільна! Верна!—падхапілі маладыя ваўкі, якія заўжды адчуваюць голад.—Слухайце Багіру. Дзіцянё можа быць куплена за плату. Такі Закон!

— Не маю права гаварыць тут, прашу вашага дазволу.

— Кажы!—гаркнула дваццаць галасоў.

— Забіваць голае дзіцянё—ганебна. Апрача таго можа здацца, што ён будзе карысны для вас, калі вырасце. Балу казаў на яго карысць. Да слоў Балу я дадам быка, і вельмі тлустага, толькі што забітага за поўмілі адсюль,—калі толькі вы прыміце Чалавечае Дзіцянё ў Зграю паводле Закону. Ці-ж гэта цяжка?



Дзесяткі галасоў ускрыкнулі:

— Ніякай бяды няма! Усёроўна ён памрэ ад зімовых дажджоў.

Сонца спаліць яго. Якую шкоду можа нам зрабіць голая жаба? Хай сабе бегае ў Зграі! Дзе бык, Багіра? Хай яго прымуць...

Усіх заглушыла выццё Акелы:

— Глядзіце-ж, добра глядзіце, о Ваўкі!

Маўглі так захапіўся сваімі каменьчыкамі, што нават не заўважыў, як ваўкі па чарзе падыходзілі і разглядалі яго. Нарэшце ўсе яны спусціліся з узгорка і падышлі да мёртвага быка.



Засталіся толькі Акела, Багіра, Балу і „бацькі“ Маўглі. А Шэр-Хан рыкаў у цемры ад злосці, што яму не аддалі Маўглі.

— Раві сабе,—прамармытала Багіра ў вусы,— прыйдзе час, калі гэтае голае стварэнне прымусіць цябе раўсці на іншы манер, ці-ж я не ведаю людзей?

— Зроблена добрая справа,—прамовіў Акела,— Людзі і дзеці іхнія вельмі разумныя. Прыйдзе час, калі ён будзе нам у дапамогу!

— Сапраўды ў дапамогу ў цяжкі час; бо ніхто не можа спадзявацца, што ён будзе да смерці кіраваць Зграяй,—сказала Багіра.

Акела не адказаў. Ён думаў пра той час, які прыходзіць для кожнага правадыра Зграі, калі сілы яго вычэрпваюцца, калі ён усё болей слабее, пакуль, нарэшце, яго забіваюць ваўкі і прызначаюць новага правадыра, які ў свой чарод гіне таксама...

— Бярыце яго,—звярнуўся ён да Бацькі Ваўка,— і выхавай так, як належыць сыну Вольнага Племя.

Такім чынам Маўглі быў прыняты ў Сіанійскую Зграю ваўкоў коштам быка Багіры і добрага слова Балу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А цяпер хай чытач прапусціць дзесяць-адзінаццаць гадоў і ўявіць сабе тое дзіўнае жыццё, якое Маўглі вёў сярод ваўкоў. Каб мы захацелі апісаць гэтае жыццё, нам прыйшлося-б запоўніць шмат тамоў.

Ён гадаваўся разам з ваўчанятамі, хаця яны, вядома, паспелі зрабіцца дарослымі ваўкамі яшчэ ў той час, калі ён быў зусім малым дзіцём. Бацька Воўк навучаў яго сваёй справе і тлумачыў яму сэнс кожнай рэчы ў Джунглях,—пакуль шолах кожнай галінкі, кожны подых цёплага начнога паветра, нотка савы наверсе, след ад кіпця кажана, што зачапіўся для адпачынку за дрэва, і кожны плёск рыбкі ў возеры не зрабіліся яму таксама зразумелымі, як канторская работа дзелавому чалавеку.

У тыя хвіліны, калі ён не вучыўся, ён грэўся на сонейку, спаў, еў і зноў ішоў драмаць. Калі яму рабілася горача, ці здаралася запэцкацца, ён плюхаўся ў лясных азёрах. А калі яму хацелася мёду (Балу давёў яму, што мёд і арэхі таксама прыемныя на смак, як і сырое мяса), ён узбіраўся на дрэва, як навучыла яго Багіра. Багіра расцягнецца, бывала, на суку і кліча:

— Хадзі сюды, Браток!

Спачатку Маўглі лазіў нібы ціхаход, але хутка пачаў лётаць між галін бадай таксама, як шэрыя малпы.

Ён прымаў удзел у паседжаннях на Скале Рады, калі збіралася Зграя. Тут ён зрабіў адкрыццё, што варта яму пільна паглядзець у вочы якому хочаш ваўку, як той зараз-жа апускаў іх; для пацехі ён часта рабіў гэтую штуку.

Здаралася, ён вымаў доўгія стрэмкі з лап сваіх сяброў, бо ваўкі часта церпяць ад розных калючак.



Па начах ён любіў спускацца з узвышша на засеяныя палі і з цікавасцю назіраў сялян у іхніх халупах. Але ён не давяраў людзям: Багіра паказала яму квадратную скрынку, так дасціпна схаваную ў Джунглях, што ён ледзь не трапіў у яе, і сказала яму, што гэта пастка.

Больш за ўсё ён любіў хадзіць з Багірай у цёмную цёплую пушчу лесу і спаць там увесь душны дзень, а ўначы наглядаць, як Багіра палюе. Згаладалая Багіра забівала направа і налева; тое самае рабіў і Маўглі, але было адно выключэнне: калі ён падрос



настолькі, што больш мог разумець, Багіра сказала яму, што ён ніколі не павінен чапаць скаціны, бо сам быў прыняты ў Зграю за кошт жыцця быка.

— Усе Джунглі твае,—казала Багіра,—і ты можаш забіваць усё, што здолееш; але дзеля быка, за якога цябе выкупілі, ты ніколі не павінен ні забіваць, ні есці скаціны,—ні маладой, ні старой. Такі Закон Джунгляў.

І Маўглі прыняў да ведама і слухаўся яго.

Ён рос і рос, рабіўся ўсё мацнейшы і дужэйшы, чаго і трэба было чакаць ад хлопчыка, які жыве на свежым паветры і не ведае шкодных умоў хатняга жыцця.

Маці Ваўчыха раз ці два казала яму, што Шэр-Хану нельга давяраць і што раней ці пазней Маўглі павінен будзе забіць Шэр-Хана.

Ваўчанё памятала-б гэтую параду ў кожны момант свайго жыцця, але Маўглі забыўся: ён-жа-ж быў не болей як хлопчык, хоць і назваў-бы сябе ваўком, каб умеў гаварыць на чалавечай мове.

Шэр-Хан часта пераходзіў яму дарогу ў Джунглях. Карыстаючыся тым, што Акела старэецца і слабее, Кульгавы Тыгр пасябраваўся з маладымі ваўкамі Зграі, якія бегалі за ім і падбіралі яго недаедкі. Акела ніколі не дазволіў-бы гэтага, каб яго ўлада крыху не аслабла.

Шэр-Хан ліслівіў перад імі і дзівіўся як гэта такія дасканалыя маладыя паляўнікі церпяць панаванне ледзь жывога ваўка і Чалавечага Дзіця.

— Мне сказалі, што на Радзе вы не адважваецеся зірнуць яму ў вочы.

І маладыя ваўкі злосна рыкалі і натапырваліся.

Багіра, якая ўсё чула і бачыла, аднаго разу сказала Маўглі, што Шэр-Хан заб'е яго калі-небудзь. Але Маўглі засмяяўся і сказаў:





— За мяне ты, за мяне Зграя; ды і Балу, хоць і ляны, але здолее раз-другі за мяне гыркнуць. Чаго-ж мне баяцца?

У другі раз, калі яны былі ў пушчы і Маўглі ляжаў, паклаўшы галаву на дасканалую машастовую скуру Багіры, яна звярнулася да хлопчыка:

— Братка, колькі разоў я казала табе, што Шэр-Хан твой вораг?

— Столькі разоў, колькі на гэтай пальме арэхаў,— адказаў Маўглі, які не ўмеў лічыць.—Але што з таго? Я спаць хачу, Багіра, а ў Шэр-Хана толькі і ёсць, што даўгі хвост ды зычны голас—нібы Мор (пава).

— Але цяпер не час спаць. Балу ведае пра гэта, я ведаю гэта, Зграя ведае і нават дурныя лані ведаюць. Ды і Табакі казаў табе пра тое самае.

— Го! Го!—прамовіў Маўглі.—Табакі прыйшоў да мяне нядаўна і пачаў грубіяніць: нібы я—голас

Чалавечае Дзіцянё і мне не падыходзіць капаць земляныя арэхі. Але я ўхапіў Табакі за хвост і разы са два стукнуў яго аб пальму, как навучыць далікатнасці.

— І зрабіў падурному: хоць Табакі паскуднік, але ён мог паведаміць табе сёе-тое, што блізка тычыцца цябе. Адчыні вочы, Братка! Шэр-Хан не адважыцца забіць цябе ў Джунглях. Але памятай, што Акела вельмі стары; хутка прыйдзе дзень, калі ён не здолее забіць свайго аленя, і тады ён ужо не будзе правадыром. Шмат хто з ваўкоў, што аглядалі цябе калісьці на Скале, таксама састарыліся. Маладыя-ж ваўкі вераць ува ўсё тое, што ім гаворыць Шэр-Хан—што Чалавечаму Дзіцяці няма месца ў Зграі. Яшчэ крыху— і ты ўжо дарослы Чалавек.

— А што такое Чалавек, калі яму нельга бегаць разам са сваімі братамі?—адказаў Маўглі.—Я нарадзіўся ў Джунглях. Я выконваў Законы Джунгляў, і сярод нашых ваўкоў не знойдзецца аніводнага, якому я не вымаў-бы стрэмак з лап. Ужо-ж вядома, яны мае браты.

Багіра выцягнулася на ўсю даўжыню і прыплюшчыла вочы.

— Братка,—прамовіла яна,—памацай мой падбародак!

Маўглі працягнуў сваю моцную смуглую руку і акурат пад шаўкавістым падбародкам Багіры, дзе магутныя круглыя мускулы хаваліся пад глянцавай поўсцю, намацаў невялікую плеш.

— Ніхто ў Джунглях не ведае, што я, Багіра, нашу гэты знак—след ашыйніка. А я-ж, Браток, нара-

дзілася сярод людзей, і ў людзей памёрла мая маці, у клетках каралеўскага палаца ў Удэйпуры. Вось чаму я выкупіла цябе на Радзе, калі ты быў малюсенькім дзіцём. Так, і я нарадзілася сярод людзей! Я пасля нараджэння не бачыла Джungляў. Мяне кармілі за кратамі, з жалезнай патэльні, пакуль аднаго разу я не адчула, што я Багіра—Пантэра, а не цацка для людзей.



Я зламала дурны замок адным ударам лапы і ўцякла! Я ведаю ўсе звычкі людзей, і ў Джунглях лічуся страшней за Шэр-Хана. Ці не так?

— Так,—сказаў Маўглі,—усе Джунглі баяцца Багіры, усе, апрача Маўглі.

— О, ты—Чалавечае Дзіцянё,—ласкава прамовіла Чорная Пантэра,—і як я вярнулася ў свае Джунглі, таксама і ты павінен, нарэшце, пайсці назад, да людзей, да людзей, якія даводзяцца табе братамі. Калі толькі цябе не заб'юць на Радзе...

— Але чаму... завошта хто-небудзь захоча мяне забіваць?—спытаўся Маўглі.

— Зірні на мяне,—сказала Багіра, і Маўглі пільна



паглядзеў ёй у вочы. Праз поўхвіліны вялізная пантэра адвярнула галаву.

— Вось чаму,—прамовіла яна, грабаючы лапам лісце.—Нават я не магу зірнуць табе ў вочы. А я-ж нарадзілася сярод людзей і люблю цябе, Братка! Іншыя ненавідзяць табе за тое, што вочы іх не адважваюцца сустрэцца з тваімі; за тое, што ты мудры; за тое, што ты вынімаў стрэмкі з іхніх лап, за тое, што ты—Чалавек!

— Я гэтага не ведаю,—панура прамовіў Маўглі, пахмурыўшы свае густыя чорныя брыві.

— Што гавора Закон Джунгляў? Спачатку бі, а потым падавай голас! Па адной тваёй бясклопатнасц яны бачаць, што ты—Чалавек. Будзь разважны. Сэрца гаворыць мне, што як толькі Акела прамінецца на паляванні,—а з кожным разам яму ўсё цяжэй даецца алень,—Зграя паўстане супроць яго і супроць цябе. Яны збяруць Раду Джунгляў на скале, а потым... потым... Надумалася!—крыкнула Багіра, ускочыўшы з месца.—Ідзі хутчэй у даліну, да чалавечага жылля і дастань трохі Чырвонай Кветкі, якую яны вырошчваюць. Калі прыйдзе час, у цябе будзе сябра дужэйшы нават за мяне ці Балу, ці тых з Зграі, якія да цябе прыхільныя. Здабудзь Чырвоную Кветку!

Чырвонай Кветкай Багіра называла агонь, бо ніводнае стварэнне ў Джунглях не назаве агонь яго сапраўдным імем. Кожны звер адчувае перад ім смяротны жах і апісвае яго розным манерам, але не адважваецца назваць яго правільна.

— Чырвоную Кветку!—сказаў Маўглі.—Яна расце ў змроку каля хат. Я здабуду яе.

— Вось гэта словы Чалавечага Дзіцяці!—з гонарам прамовіла Багіра.—Памятай, яна расце ў гаршках. Хутчэй прынясі Кветку і трымай яе пакуль спатрэбіцца.

— Добра. Я іду. Але ці ўпэўнена ты, о мая Багіра,—і Маўглі абняў рукою пышную шыю і пільна паглядзеў у вялізныя вочы пантэры,—ці ўпэўнена ты, што ўсе гэты штукі Шэр-Хана?

— Клянуся Зломаным Замком, што вызваліў мяне, я ў гэтым упэўнена, Братка!

— Тады я клянуся Быком, за які мяне выкупілі, што адплачу Шэр-Хану поўнасцю, а можа і з дадаткам!—сказаў Маўглі, скокнуў і знік з вачэй Багіры.

— Вось гэта Чалавек! Гэта ўжо зусім Чалавек!—сказала сама сабе Багіра, кладучыся на зямлю.—О, Шэр-Хан, не было для цябе больш няшчаснага паляванья, як паляванне на Жабяня дзесяць гадоў назад.

Маўглі далёка ўжо паглыбіўся ў лес. Ён бег хутка і сэрца яго палала ў грудзях. Калі падняўся туман, Маўглі быў каля сваёй пячоры і, засопшыся, глядзеў уніз, у даліну. Сям'і не было дома, толькі Маці Ваўчыха ляжала ў глыбіні пячоры. Па дыханню Маўглі яна здагадалася, што нешта хвалюе яе Жабянё.

— Што з табой, Сынок?—спыталася яна.

— Усё балбатня Шэр-Хана,—адказаў ён.—Сёння я палюю на вораных палях!

І ён пусціўся праз кусты ўніз да крыніцы, якая гурчэла ў глыбіні даліны. Тут ён спыніўся: ён пачуў паляўнічае выццё Зграі, якая гналася за аленем. Потым пачуліся злосныя завыванні маладых ваўкоў:

— Акела! Акела! Хай Адзінокі Воўк пакажа сваю моц! Месца правадыру Зграі! Скакай, Акела!

Адзінокі Воўк мабыць скокнуў і прамінуўся, бо Маўглі пачуў лязг зубоў і сковыт: алень ударыў яго заднімі нагамі.

Далейшага Маўглі ўжо не чакаў і кінуўся наперад. Завыванні пасгупова сцішыліся ззаду, калі ён бег на палі, дзе жылі сяляне.

— Багіра казала праўду,—засопшыся шаптаў ён, хаваючыся ў кучу сена пад акном адной хаты.—Заўтра наш дзень з Акелай.

Ён прыціснуўся да акна і ўтаропіў вочы ў полымя, што блішчэла на комінку. Ён бачыў, як гаспадыня ўставала ўначы і карміла агонь трэскамі, а калі надышла раніца і туманы пабялелі і пахаладнелі, ён убачыў, як малы хлопчык узяў аплецены гаршок, паклаў туды гарачага, чырвонага вугалю, сунуў пад сваю коўдру і пайшоў у хлеў задаваць корм каровам.

— І гэта ўсё?—падумаў Маўглі.—Калі дзіця можа гэта зрабіць, дык мне няма чаго баяцца!

З гэтымі словамі Маўглі выбег яму насустрач, выхапіў з рук гаршок і знік у тумане, не звяртаючы ўвагі на крык перапалоханага хлопчыка.

— Яны вельмі падобны да мяне,—думаў Маўглі, дзьмухаючы ў гаршок, як гэта рабіла на яго вачах жанчына.—Гэтая штука памрэ, калі я ёй не дам пад'есці.

І ён кідаў галлё і сухую кару на чырвоныя вуголлі. На поўдарозе ён сустрэў Багіру. Адмысловая



скура яе блішчэла ранішняй расой, бы самацветнымі каменнямі.

— Акела прамінуўся,—паведаміла Пантэра.—Яны забілі-б яго ў гэтую ноч, але ім нехапае цябе. Цябе шукалі на ўзвышшы.

— Я быў на палях. Я гатоў! Глядзі!—і Маўглі паказаў гаршок з агнём.

— Вельмі добра! Я бачыла, як людзі ўтыркалі ў гэтую грудку сухі дубец, і на канцы яго распускалася Чырвоная Кветка. Няўжо-ж табе не боязна?

— Не. Чаго мне баяцца? Я цяпер пачынаю ўспамінаць,—калі толькі гэта не сон, што да таго часу,

як я зрабіўся Ваўком, я ляжаў каля Чырвонай Кветкі, і мне было цёпла і прыемна...

Увесь гэты дзень Маўглі сядзеў у пячоры, даглядаў свой агонь і саваў туды сухое галлё, каб перадаканацца, ці загарыцца яно на канцы. Разам з тым ён асобна падрыхтаваў сабе добрую сухую галіну.

Пад вечар з'явіўся ў пячору Табакі і груба перадаў яму, што яго выклікаюць на Скалу Рады. У адказ



Маўглі так зарагатаў, што Табакі кінуліся наўцёкі. Пасля гэтага Маўглі, усміхаючыся, пайшоў на Раду.

Акела, Адзінокі Воўк, ляжаў каля сваёй скалы ў знак таго, што пасада правадыра Зграі вольная, а Шэр-Хан з дружынай ваўкоў, сваіх прыяцеляў, што жывіліся яго недаедкамі, прагульваўся ўзад-уперад, слухаючы бессаромную хвалу. Багіра ляжала, прытуліўшыся да Маўглі, які трымаў гаршок з агнём паміж каленаў.

Калі ўсе сабраліся, Шэр-Хан пачаў гаварыць першы. Гэта была дзёрзкасць, на якую ён не адважваўся-б, калі-б Акела быў малады і дужы.

— Ён не мае права,—шаптала Багіра.—Скажы гэта. Ён сабачы сын. Ен пабаіцца.

Маўглі ўскочыў на ногі.

— Вольнае Племя!—крычаў ён.—Няўжо Шэр-Хан кіруе Зграяй? Якая справа тыгру да нашага правадыра?

— Убачыўшы, што пасада вольная і маючы запрашэнне гаварыць...—пачаў Шэр-Хан.

— Хто запрашаў?—казаў далей Маўглі.—Ці-ж мы ўсе шакалы, каб шукаць ласкі ў гэтага скатабоя? Кіраўніцтва Зграяй належыць самой Зграі.

Пачулася скавытанне:

— Маўчы ты, чалавечае шчанё!

— Хай ён гаворыць. Ён выконваў наш закон!

І нарэшце старэйшыя ў Зграі загрымелі:

— Хай Мёртвы Воўк гаворыць!

Калі правадыр Зграі праміне цца на паляванні, дык яго называюць Мёртвым Ваўком увесь час, пакуль ён жыве (а гэта цягнецца нядоўга).

Акела ледзь падняў сваю старую галаву:

— Вольнае Племя і вы Шэр-Ханавы шакалы! На працягу дваццаці гадоў вадзіў я вас на паляванне і з палявання, і за ўвесь гэты час ніводзін з вас не быў злоўлены ці пакалечаны. Цяпер я прамінуўся. Вы ведаеце, што мяне пусцілі на незагнанага аленя, каб выявіць маю слабасць. Гэта было хітра надумана! Цяпер вы маеце права забіць мяне тут, на Скале Рады. Я пытаюся, хто возьмецца спыніць жыццё Адзінокага Ваўка? Бо, паводле Закону Джунгляў, я маю права патрабаваць, каб вы падыходзілі па адным!

Доўга цягнулася маўчанне, бо ніводзін воўк не хацеў біцца з Акелам насмерць.

Нарэшце Шэр-Хан зароў:

— Ба! Навошта вам гэты бяззубы дурань? Ён асуджаны на смерць. А вось Чалавечае Дзіцянё надта зажылося на свеце! Вольнае Племя, ён быў маёй здабычай з самага пачатку, аддайце яго мне. Мне абрыдла гэтая чалавекавоўчая недарэчнасць. Ён баламуціць Джунглі вось ужо дзесяць гадоў! Аддайце мне чалавечага вырадка, а то я заўсёды буду тут паляваць і не пакіну вам ані косткі. Ён—Чалавек, дзіця Чалавека, і я ненавіжу яго ад шчырага сэрца!

Тут завыла бадай уся зграя:

— Чалавек! Чалавек! Навошта сярод нас Чалавек? Хай ён ідзе да сваіх!

— Каб нацкаваць на нас сялян?—загрымеў Шэр-Хан.—Не, лепш аддайце яго мне! Ён—Чалавек, і ніхто з нас не адважваецца глядзець яму ў вочы!

Акела зноў падняў галаву і прамовіў:

— Ён еў з намі. Ён спаў разам з намі. Ён ганяў дзічыну для нас. Ён не парушыў ні слова з Закону Джунгляў.

— А я заплаціла за яго быка, калі вы яго прымалі. Цана быку грош, але слова Багіры такая дробязь, за якую, мажліва, яна гатова біцца,—дадала Багіра пяшчотным голасам.

— Бык, які проданы дзесяць гадоў назад!—мармытала Зграя.

— Што-ж нам да дзесяцігадовых касцей?

— Або да клятвы?—сказала Багіра, ашчэрыўшы свае белыя зубы.—Нездарма вы называецеся Вольным Племем!...

— Не можа чалавечае шчанё бегаць з Племем Джунгляў,—завыў Шэр-Хан.—Аддайце яго мне!

— Ён наш брат па ўсім, апрача крыві—супярэчыў Акела,—а вы хочаце забіць яго. Праўду вы казалі, я надта зажыўся на свеце. Адны з вас ядуць скаціну, а пра другіх я чуў, што яны, падбухтораныя Шэр-Ханам, ідуць у цёмныя ночы красці дзяцей з парогаў сялян. З гэтага я бачу, што вы трусы, і з трусамі цяпер гавару. Праўда, я павінен памерці і маё жыццё нічога не варта, а то я прапанаваў-бы яго ў абмен на Чалавечае Дзіцянё. Але гонарам Зграі—дробязь, на якую вы забыліся, бегаючы без правадыра!—я клянуся, што калі вы адпусціце Чалавека да сваіх, то я не выскалю супроць вас аніводнага зуба, калі прыйдзе час маёй смерці. Я памру без бою! Гэта выратуе для зграі прынамсі тры жыцця. Большага даць я не магу. Такім чынам, калі хочаце, я выратую вас і ад ганебнага забойства брата, які не мае віны, брата, якога прапанавалі ў Зграю і купілі паводле Закону Джунгляў...

— Ён—Чалавек, Чалавек, Чалавек!—рыкала Зграя; і большая частка ваўкоў пачала збірацца вакол Шэр-Хана, які пляскаў сябе хвастом па баках.

— Цяпер справа ў тваіх руках,—прамовіла Багіра, звяртаючыся да Маўглі.— Мы нічога больш не можам зрабіць... толькі біцца...

Маўглі выпрастаўся ва ўвесь рост, трымаючы гаршок з агнём у руках. Потым ён пацягнуўся і зяхнуў проста ў твар Радзе. Але ён адчуваў вялікую злосць і гора, калі ўбачыў, як ваўкі ненавідзілі яго, хоць па сваёй воўчай манеры і не выказвалі гэтага.

— Эй вы, слухайце!—крыкнуў ён.—Цяпер ужо няма чаго брахаць, як сабакі! Вы сёння столькі разоў казалі мне, што я—Чалавек (а я пэўна застаўся-б з вамі ваўком да канца маіх дзён!), што я мушу прызнаць правільнасць вашых слоў. Таму я ўжо не называю вас сваімі братамі, а „саг“ (сабакі), як належыць Чалавеку! Пра тое, што вы зробіце і чаго не зробіце,—не вам казаць. Гэта тычыцца мяне. А каб вы лепш зразумелі, у чым справа, я, Чалавек, прынёс сюды трохі Чырвонай Кветкі, якой вы так баіцёся.



Ён кінуў гаршок з агнём на зямлю, гарачыя вугалі запалілі сухі мох яркім полымем, і ўся Рада з жахам адскочыла назад перад языкамі полымя, якія заскакалі па зямлі.

Тады Маўглі сунуў нарыхтаваную галіну ў агонь; яна загарэлася, затрашчала, і ён пачаў круціць ёю над сваёй галавой сярод перапалоханых ваўкоў, якія аж прыціснуліся да зямлі ад страху.

— Ты тут гаспадар,—ціха прамовіла Багіра.—Выратуй Акелу ад смерці! Ён заўсёды быў табе прыяцелем.

Акела, люты стары воўк, які ніколі ў жыцці не прасіў літасці, цяпер пакорліва глядзеў на Маўглі. Хлопчык стаяў ва ўвесь рост, голы з раскіданымі па плячах валасамі і асветлены агнём, які адбіваў на ім рухавыя, дрыжачыя цені.

— Добра!—прамовіў Маўглі, грозна пазіраючы

навакол.—Я бачу, што вы сабакі. Я іду ад вас да свайго племя—калі гэта маё племя. Джунглі закрыты для мяне, я павінен забыцца на вас. Але я буду міласэрней за вас. Я быў вашым братам ва ўсім, апрача крыві, і абяцаю, што калі буду Чалавекам сярод людзей, дык не здраджу вам перад людзьмі, як вы здрадзілі мне.—Ён штурхануў нагой вуголлі, і іскры паляцелі ва ўсе бакі. Паміж нас, членаў Зграі, тут не будзе грызні. Але перш як пайсці адсюль, я павінен заплаціць доўг.

Ён ступіў наперад, туды, дзе сядзеў Шэр-Хан, тупа міргаючы і ўтаропіўшыся ў полымя, і ўхапіў яго за кучму валос на падбародку. Багіра на кожны выпадак пайшла за ім.

— Устань, сабака!—крыкнуў Маўглі.—Устань, калі гаворыць Чалавек, а то я абсмалю тваю скуру!

Вушы Шэр-Хана шчыльна прыціснуліся да галавы і ён сплюшчыў вочы, бо палаючая галіна была ўжо вельмі блізка.

— Гэты скатабой выхваляўся, што заб'е мяне на Радзе, калі не ўдалося забіць, як я быў малы! А во як мы, людзі, абыходзімся, з такімі сабакамі. Варухні толькі вусамі, Ленгры, і я прасаджу тваю глотку Чырвонай Кветкай!

І ён пачаў біць Шэр-Хана галінай па галаве, а тыгр скуголіў і енчыў ад смяротнага жаху.

— Цьфу! Смаленая кошка Джунгляў, ідзі цяпер. Але памятай: калі наступны раз я вярнуся на Скалу Рады, як належыць Чалавеку, дык прыду не іначай, як са скурай Шэр-Хана на галаве! А наконт іншага

ведайце, што Акела можа жыць, як сабе хоча. Вы не заб'еце яго, бо я так хачу! І, нарэшце, я думаю, што вам няма чаго тут сядзець, высунуўшы язык, нібы вы нешта прыстойнае, а не сабакі, якіх я праганяю—вось гэтак! Прэч адсюль!

Полымя люта палала на канцы галіны, Маўглі махаў ёю направа і налева, і ваўкі, скавытаючы, уцякалі ад іскраў, якія смалілі ім поўсць.



Нарэшце засталіся толькі Акела, Багіра і з дзесятак ваўкоў, якія былі на баку Маўглі.

Тады Маўглі адчуў, што ў сярэдзіне яго нешта пачало сціскаць, як ніколі раней не сціскала, дыхаць стала цяжка... Ён пачаў плакаць, і слёзы каціліся па яго твары.

— Што гэта? Што гэта такое?—казаў ён.—Я не хачу пакідаць Джунгляў, і не ведаю, што гэта такое. Багіра, ці не паміраю я?

— Не, Братка. Гэта толькі слёзы, якія бываюць у людзей.

Цяпер я бачу, што ты—Чалавек, і ўжо не дзіця. З гэтага часу Джунглі сапраўды закрыты для цябе. Хай яны капаюць, Маўглі. Гэта толькі слёзы.

Маўглі сядзеў і плакаў, нібы сэрца яго разрывалася на часткі. Ён жа-ж ніколі не плакаў за ўсё сваё папярэдняе жыццё.

— Ну,—прамовіў ён,—я іду да людзей. Але спачатку я павінен развітацца з маёй маткай.



І ён пайшоў у пячору, дзе яна жыла з Бацькам Ваўком, і плакаў на яе лахматых грудзях, а чацвёра ваўчанят пры гэтым скавыталі.

— Вы на мяне забудзецеся?—сказаў Маўглі.

— Ніколі, пакуль будзем у стане абнюхаць сляды,—адказалі ваўчаняты.—Калі будзеш Чалавекам, прыходзь да ўзгорка, і мы будзем з табой гутарыць. Па начах мы будзем прыходзіць на палеткі і гуляць з табой.

— Прыходзь хутчэй!—прасіўся Бацька Воўк.—О, мудрае Жабянё, вяртайся хутчэй, бо мы ўжо старыя, твая маці і я!

— Прыходзь хутчэй, мой голы сыночак,—дадала Маці Ваўчыха.—Ведай чалавечае стварэнне, што я люблю цябе нават больш, як сваіх шчанят!

— Прыду абавязкова,—адказаў Маўглі,—прыду дзеля таго, каб палажыць скуру Шэр-Хана на Скалу Рады. Не забывайце мяне! Перадайце і тым, у Джунглі, каб яны мяне не забывалі!..

Пачыналася зара, калі Маўглі адзін спускаўся з узгорка, насустрач таемным стварэнням, якія называюцца людзьмі...





# ПАЛЯВАННЕ КАА

Плямы—аздоба барса; гонар буйвала—рогі.
Будзь ахайны: у бліскучай футры ты больш страшны для ворага.
Калі бык цябе коле рагамі ці б'е нагой—алень, не скуголь: пра гэта мы ведаем шмат гадоў, не першы дзень.
Не ўціскай шчаняці чужога; будзь яму за брата роднага: і мізэрнае медзвянё мае за сабой маці.
— Хто лепшы за мяне?—выхваляецца юны воўк пасля першай здабычы. Памятай, што лес вялікі, а ты—нікчэмны, і маўчы.

Выслоўі Балу.

Усё, пра што гаворыцца далей, адбылося яшчэ да таго, як Маўглі быў выключаны з Сіанійскай Воўчай Зграі. Гэта было ў тыя дні, калі Балу навучыў яго

закону Джунгляў. Вялізны, паважны, стары буры мядзведзь захапляўся здольнасцю вучня. Ваўчаняты вывучаюць з Закону Джунгляў толькі тое, што тычыцца іх уласнай Зграі і Племя, і разыходзяцца, як толькі вывучаць паляўнічы верш:

„Ногі, якія ціха ступаюць; вочы, што бачаць у цемры; вушы, што чуюць лясны ветрык з глыбіні логава; вострыя белыя зубы—усё гэта адзнакі нашых братоў, апрача шакала Табакі і гіены, якіх мы ненавідзім".

Але Маўглі, як Чалавечаму Дзіцяці, давялося вывучаць куды больш. Часам Багіра, Чорная Пантэра, бадзяючыся па Джунглях, заходзіла паглядзець, як маецца яе ўлюбёны, і курныкала, прытуліўшыся да дрэва, пакуль Маўглі адказваў Балу дзённую лекцыю.

Хлопчык лазіў таксама добра, як і плаваў, а плаваў таксама дасканала, як бегаў. Настаўнік закону, Балу, пачаў навучаць яго ўжо Законам Вады і Лесу: як адрозніць трухлявы сук ад здаровага, як звяртацца з далікатнаю прамоваю да дзікіх пчол, калі здарыцца патрапіць на іхні вулей на вышыні пятнаццаці метраў над зямлёй; што сказаць Мангу, Упыру, калі прыдзецца патурбаваць яго на галіне ў дзённы час; як папераджаць Вадзяных Змеяў у сажалцы, што збіраешся скокнуць у ваду. Ніхто з жыхароў Джунгляў не любіць, каб яго турбавалі, і ўсе яны ў кожны момант гатовы кінуцца на таго, хто парушыць іх спакой.

Потым Маўглі вывучыў Паляўнічы Кліч Чужаземца, які трэба гучна паўтараць да таго моманту, пакуль

не атрымаеш на яго адказу,—гэта ў тых выпадках, калі хто-небудзь з жыхароў Джунгляў палюе на чужой зямлі. У перакладзе яно азначае наступнае:

„Дазвольце мне тут папаляваць, бо я галодны“, а на гэта звычайна бывае адказ:

„Палюй, каб падкарміцца, але не для забавы“.

З усяго гэтага можна бачыць, як многа даводзілася Маўглі вучыць напамяць, і яму часам нехапала сілы паўтараць сотні разоў усё тое самае. Аднаго разу, калі Маўглі атрымаў па карку і ўцёк пакрыўджаны, Балу сказаў Багіры:



— Чалавечае Дзіцянё—дзіця Чалавека, і павінна ведаць усе законы Джунгляў!

— Але-ж глянь, які ён малы,—казала Чорная Пантэра, якая пэўна папсавала-б Маўглі, каб ён быў ёй даручаны.—Ці-ж можа яго галава змясціць усе твае даўгія прамовы?

— А ці ёсць тут, у Джунглях, што-небудзь такое малое, каб не рызыкавала жыццём? Не! Вось чаму я навучаю яго ўсім гэтым навукам, вось чаму я крыху пляскаю яго, калі ён забываецца.

— Крыху! Што ты разумееш у гэтым, старая жалезная лапа?—бурчэла Багіра.—У яго ўвесь твар змардаваны тваімі пяшчотамі. Пасаромся!

— Лепш, калі ён будзе падрапаны з галавы да ног мною, тым, хто яго любіць, чымся пацерпіць калі-небудзь ад свайго невуцтва!—сурова адказваў Балу.— Я цяпер навучаю яго Ўладарнаму Слову Джунгляў, якое абароніць яго ад птушак і змяінага роду, і ад усіх чатырохногіх паляўнікоў, апрача ўласнай Зграі. Цяпер ён можа патрабаваць абароны ўсюды ў Джунглях, калі будзе памятаць словы. Няўжо-ж за ўсё гэта не варта крыху тузануць?

— Яно так, але ты глядзі, не забі Чалавечага Дзіцяці. Ён табе не камень, каб вастрыць на ім свае тупыя кіпцюры! Але што такое гэтыя Ўладарныя Словы? Што да мяне, дык я маю больш ахвоты падаць дапамогу, як прасіць!—пры гэтым Багіра выпрастала лапу і пагля-дзела на свае чорныя, бліскучыя, як сталь, і выгну-тыя кіпці.—Але ўсё-ж я хацела-б ведаць гэтыя словы.

— Я клікну Маўглі, і ён табе іх скажа, калі за-хоча. Ідзі сюды, Браток!

— У мяне галава гудзіць, нібы пчаліны вулей,— пачуўся над іх галавамі хмуры голас, і з дрэва слізгануў раззлаваны Маўглі.—Я спусціўся сюды дзеля Багіры, а не дзеля цябе, стары, тоўсты Балу.

— Гэта мне ўсёроўна,—прамовіў спакойна Балу, хоць сапраўды ён быў пакрыўджаны.—Ну, паўтары Багіры Ўладарныя Словы Джунгляў, што я навучыў цябе сёння.

— Для якога племя?—спытаў Маўглі, задаволены тым, што можа паказаць свае веды.—У Джунглях шмат гаворак. Я ведаю іх усе.

— Сёе-тое ты ведаеш, але далёка яшчэ не ўсё. Каб ты ведала, Багіра, якія яны ўсе няўдзячныя! Аніводнае

ваўчанё яшчэ ні разу не прыйшло падзякаваць старому Балу за ягò навуку! Ну, скажы мне слова Паляўнічых Пляменняў, вялікі вучоны!

— „Мы адной крыві, вы і я“,—прамовіў Маўглі, надаўшы сваім словам мядзвежы акцэнт, характэрны для Паляўнічых Пляменняў.



— Добра. Ну, цяпер Птушынае.

Маўглі прамовіў тыя самыя словы, але з прысвістам Коршуна ў канцы сказу.

— Цяпер для Змяінага Племя,— дамагаўся Балу.

У адказ пачулася такое сіпенне, што і апісаць нельга. Потым Маўглі дрыгнуў нагой, запляскаў сам сабе ў далоні і ўскочыў Багіры на спіну; усеўся сабе там бокам і пачаў калашмаціць пяткамі па бліскучай футры ды яшчэ дражніць Балу рознымі смешнымі мінамі.

— Так, так! Гэта варта некалькіх драпінак,—з захапленнем казаў буры мядзведзь.—Калі-небудзь ты будзеш успамінаць мяне з падзякаю.

Потым ён звярнуўся да Багіры і расказаў ёй, як ён выпрасіў Патаемныя словы ў Хаці, Дзікага Слана,

які ўсе гэтыя рэчы добра ведае, і як Хаці згадзіўся павесці Маўглі да сажалкі, каб вывучыць Змяінае Слова ад Вадзяной Змяі, бо Балу не ўмеў вымавіць яго; Маўглі цяпер досыць забяспечаны ад усялякіх выпадковасцей: у Джунглях цяпер ужо ні змяя, ні птушка, ні звер не пакрыўдзяць яго!..

— Значыцца, баяцца няма каго!—з гонарам скончыў Балу, пагладжваючы лапай сваё вялізнае лахматае бруха.

— Апрача ўласнага племя,—прамармытала Багіра, а потым, ужо голасна, звярнулася да Маўглі.—Пашкадуй мае рэбры, Братка! Што за скокі на маёй спіне?

Тымчасам Маўглі яшчэ больш пачаў таўчы нагамі і нават скубсці ёй поўсць на плячах, каб звярнуць да сябе яе ўвагу. Ён крычаў ва ўсё горла:

— У мяне будзе ўласная зграя, і я буду вадзіць яе па дрэвах цэльныя дні!

— Гэта што за новая блазнота, малы свавольнік?—спыталася Багіра.

— Але, і буду кідаць гніллём у старога Балу,—казаў далей Маўглі.—Яны мне гэта абяцалі. Ай!

Вялізная лапа Балу сцягнула Маўглі са спіны Багіры, і хлопчык, сціснуты пярэднімі лапамі, убачыў над сабой гнеўны твар мядзведзя.

— Маўглі,—сказаў Балу,—ты гутарыў з Бандар-Логам—Малпавым Народам?

Маўглі зірнуў на Багіру, ці не злуе таксама і яна, і ўбачыў, што вочы пантэры жорстка свецяцца.

— Ты быў у Малпавага Племя—у шэрых малпаў—у народа без Закону, усяжэрных стварэнняў? Які сорам!

— Калі Балу пабіў мне галаву,—прамовіў Маўглі (усё яшчэ лежачы на спіне),—я ўцёк; шэрыя малпы спусціліся з дрэў і пашкадавалі мяне. І ніхто болей не ўспамінаў пра мяне...

— Жаль Малпавага Племя,—хрыпеў Балу,—гэта спакой горнага ручая! Гэта—холад летняга сонца! Ну, і што-ж далей, Чалавечае Дзіцянё?



— А потым... потым яны мне панадавалі арэхаў і многа надзвычайна смачных рэчаў, панеслі мяне на руках на верхавіны дрэў і сказалі, што я іхні брат па крыві, толькі хваста ў мяне няма, і што ў будучым я буду ў іх правадыром...

— У іх няма правадыра,—сказала Багіра.—Яны хлусяць. Яны заўсёды хлусяць!

— Яны былі са мной вельмі ласкавыя і сказалі, каб зноў прыйшоў. Чаму мяне не пускаюць да малпаў? Яны стаяць на двух нагах, як і я. Яны не б'юць мяне цвёрдымі кіпцямі! Яны ўвесь час гуляюць. Пусціце мяне ўверх! Злы Балу, адпусці мяне ўверх! Я зноў буду гуляць з імі!

— Слухай, Чалавечае Дзіцянё!—прамовіў Мядзведзь, і голас яго быў падобны да грому ў гарачую ноч.—Я навучыў цябе Закону Джунгляў, але без Народу Малпаў, якія жывуць на дрэвах. У іх няма

Закону. Яны адшчапенцы. Яны не маюць сваёй мовы, а карыстаюцца накрадзенымі словамі, якія падслухоўваюць, седзячы на дрэвах і сочачы за намі. Іх шлях—не наш шлях. У іх няма правадыроў. У іх няма памяці. Яны балбочуць і выхваляюцца і выстаўляюць сябе за вялікі народ, які мае зрабіць у Джунглях вялікія справы; але варта толькі ўпасці арэху, каб яны пачалі рагатаць і зараз-жа забыліся на ўсё. Мы, жыхары Джунгляў, не маем з імі спраў. Мы не п'ем там, дзе п'юць малпы, мы не ходзім туды, куды яны ходзяць; мы не палюем там, дзе яны палююць; мы не паміраем там, дзе яны паміраюць. Ці чуў ты ад мяне хоць адно слова пра Бандар-Лог да гэтага часу?

— Не,—прашаптаў Маўглі, і ўвесь лес быў ахоплены цішаю, калі Балу скончыў.

— Народы Джунгляў выключылі іх з сваёй мовы і сваёй памяці. Іх вельмі многа, яны злыя, неахайныя, бессаромныя, і вельмі жадалі-б,—калі толькі ў іх могуць быць пэўныя жаданні,—звярнуць на сябе ўвагу жыхароў Джунгляў. Але мы не заўважаем іх нават тады, калі яны кідаюць нам на галаву бруд і арэхі...

Не паспеў ён скончыць гэтыя словы, як з дрэў пасыпаў дождж арэхаў і галля; высока ў паветры, сярод тонкіх галін пачулася кірханне, скогат і сярдзітыя рухі.

— Малпаў Народ забаронены,—сказаў Балу,—забаронены жыхарамі Джунгляў. Памятай гэта!

— Забаронены,—дадала Багіра,—але я ўсё-ж такі думаю, што Балу павінен быў папярэдзіць цябе...

— Я... я? Але-ж ці магло мне прыйсці ў галаву, што ён будзе пэцкацца з такой брыдотай? Малпавае Племя! Цьфу!..

Новы дождж пасыпаўся ім па галаву, і абодва зверы пайшлі, узяўшы з сабою Маўглі.

Балу сказаў пра малпаў шчырую праўду.

Яны жывуць на верхавінах дрэў, а як зверы вельмі рэдка глядзяць угару, то малпам не здараецца ўваходзіць у дачыненне з жыхарамі Джунгляў. Затое, калі ім даводзіцца знайсці хворага воўка, ці раненага тыгра або мядзведзя, дык малпы мардуюць яго, кідаюць арэхамі і галлём ні то для забавы, ні то дзеля таго, каб звярнуць на сябе ўвагу. Потым яны ўздымаюць вый, пяюць бязглуздыя песні і запрашаюць жыхароў Джунгляў забрацца да іх на дрэвы і падужацца, або з-за глупства пачынаюць між сабой крывавыя бойкі і пакідаюць трупы малпаў у такіх месцах, каб жыхары Джунгляў маглі іх бачыць. Яны спрадвеку збіраюцца мець свайго правадыра, уласныя законы і звычаі, але ніколі гэтага не робяць, бо памяць іх нічога не можа ўтрымаць да наступнага дня; каб усцешыць сябе, яны выдумалі прыказку: „Пра што думае Бандар-Лог сёння, пра тое Джунглі падумаюць заўтра“.

Аніводзін звер не можа дабрацца да іх і разам з тым ніводзін звер іх не заўважае. Вось чаму малпы былі ў захапленні, калі Маўглі гуляў з імі, а Балу злаваў на яго. Пра далейшае яны не думалі: Бандар-Лог ніколі нічога не думаюць. Але адна з іх натрапіла на выдатную, як ёй здавалася, думку, якую яна і падзяліла з сваімі таварышкамі,—гэта тое, што было-б вельмі карысна затрымаць у сябе Маўглі, бо ён умее плесці з галля агарожы для абароны ад ветру: калі яго злавіць, дык можна прымусіць, каб ён і іх наву-

чыў гэтаму. Маўглі, як сын дрывасека, атрымаў у спадчыну некаторыя яго навыкі і часта майстраваў з галля халупы, сам не ведаючы, адкуль у яго гэта бярэцца.

Малпы, пазіраючы за ім з дрэў, зацікавіліся гэтай дзівоснай гульнёй. Цяпер,—казалі яны,—у іх абавязкова будзе правадыр, і яны зробяцца самым разумным народам у Джунглях, такім разумным, што ўсе іншыя іх заўважаць і будуць ім зайздросціць! Яны ціха сачылі па Джунглях за Балу, Багірай і Маўглі ўвесь час, пакуль не падышоў час поўдзённага сну і прысаромлены Маўглі не заснуў між пантэрай і мядзведзем, парашыўшы больш не мець аніякіх спраў з Малпавым Племем.



Праз сон ён адчуў нечыя рукі на сваіх руках і нагах— жорсткія, моцныя, маленькія рукі,—потым галлё засцёбала яго па твары, і ён пачуў унізе страшэнны лямант Балу, потым убачыў, як Багіра, выскаліўшы зубы, кінулася ўверх на дрэва. Бандар-Лог радасна завылі ад свайго поспеху, забраліся на самыя высокія галіны, куды Багіра не магла дабрацца, і адтуль крычалі:

— Яна нас заўважыла! Багіра заўважала нас! Усе Джунглі дзівяцца з нашай спрытнасці і хітрасці!

Потым яны пайшлі наўцёкі, а бег Малпавага Племя па дрэўным царстве—гэта такая рэч, якую

і, апісаць нельга. У іх там добрыя шляхі і сцежкі, спускі і пад'ёмы, пракладзеныя на вышыні ад пятнаццаці да дваццаці ці трыццаці метраў над зямлёй; калі трэба яны могуць вандраваць па іх нават уначы.

Дзве самых дужых малпы ўхапілі Маўглі пад пахі і пусціліся з ім па верхавінах дрэў, пераскокваючы па пяць метраў за адзін раз. Без цяжару яны маглі-б рухацца ў два разы хутчэй, але хлопчык затрымліваў іх сваёй вагой. У Маўглі закружылася галава, але ён усё-ж такі адчуваў нейкую своеасаблівую асалоду ад гэтага шалёнага руху, хоць шпаркае мільганне зямлі, якая чарнелася недзе далёка ўнізе, наводзіла на яго жах, а ад страхатлівых штуршкоў і страсенняў у часе гіганцкіх паветраных пераскокаў у яго зубы ляскалі і сціскала духі.

Спадарожнікі Маўглі ўскоквалі з ім уверх на самыя тонкія галіны так, што яны ўжо пачынал гнуцца і ламацца, і тады з кашлем і гіканнем кідаліся ў паветра да наступнага дрэва і хапаліся рукамі ц нагамі за ніжнія сукі. Часам яму адкрываліся заціхлыя зялёныя Джунглі на многа міль, як мора для чалавека, які ўзлез на мачту: потым галлё зноў пачынала сцёбаць яго па твары, і ён спускаўся з двума сваімі спадарожнікамі бадай што да зямлі. Так пераскокваючы, з трэскам, выем і гіканнем, усё племя Бандар-Лог неслася па дрэўных дарогах са сваім палоннікам Маўглі.

Спачатку ён баяўся, што яго ўпусцяць. Потым пачаў злавацць, але, зразумеўшы, што змагацца няма сэнсу, пачаў разважаць. Першая думка была, якім чынам паведаміць пра сябе Багіру і Балу? Маўглі

ведаў, што яны не здолеюць дагнаць малпаў і далёка застануцца ззаду. Сачыць за зямлёй таксама не было сэнсу, бо яе праз дрэвы не было відаць. Ён зірнуў угару і ўбачыў далёка ў сінім небе каршуна Чыля, які гойдаўся на сваіх крыллях і выглядаў, ці няма дзе ў Джунглях мярцвечыны. Чыль бачыў, што малпы нешта такое цягнуць і спусціўся ніжэй, каб пагля-дзець, ці не спажыўнае яно. Ён засвісцеў ад здзіў-лення, калі ўбачыў, як Маўглі нясуць на верхавіну дрэва, і пачуў ад яго кліч: „Мы аднэй крыві, ты і я". Хвалі лісцяў і галля закрылі хлопчыка, але Чыль пераляцеў на суседняе дрэва, каб зірнуць на твар хлопчыка, калі той з'явіцца зноў.

— Заўваж мой след!—крычаў Маўглі.—Перадай Балу і Сіанійскай Зграі і Багіры з Скалы Ра-ад-ы!..

— Ад імя каго, Братка?—Чыль бачыў Маўглі ўпершыню, хоць, вядома, чуў пра яго.

— Ад Маўглі, Жабяняці. Яны завуць мяне Чала-вечым Дзіцём! Заўваж мой след!!!

Апошнія словы Маўглі крыкнуў ужо ў паветры. Чыль пачуў, матнуў галавой, узняўся на такую вы-шыню, што здаваўся не больш за кропку і спыніўся ў паветры. Сваімі зіркімі вачыма ён сачыў адтуль за калыханнем дрэўных верхавін, па якіх імчаўся Маўглі са сваёй дружынай.

— Яны не пойдуць далёка!—сказаў сабе Чыль, усміхнуўшыся.—Бо яны ніколі не выконваюць таго, што задумалі. Бандар-Лог любяць усё новае. Але на гэты раз, калі зрок мой не хібіць, яны мала знойдуць для сябе цікавага, бо Балу не любіць жартаваць, ды і Багіра, паколькі мне вядома, б'е не адных толькі коз...

Ён гойдаўся на крыллях, падціснуўшы лапы, і чакаў, што будзе далей.

Тымчасам Балу і Багіра вар'явалі ад злосці і гора. Багіра лазіла па дрэвах так, як ніколі да гэтага часу; але тонкія галіны ламаліся пад яе цяжарам і яна саслізгалася ўніз з поўнымі кіпцямі кары.

— Чаму ты не папярэдзіў Дзіцяці?—рыкала яна на беднага Балу, які нязграбным трушком бег за малпамі.—І навошта было біць яго да поўсмерці. калі ты не папярэдзіў яго наконт самага важнага?

— Спяшайся! О, спяшайся! Можа... можа мы іх яшчэ дагонім!—казаў Балу, запыхаўшыся.

— Пры гэтай хуткасці нам не дагнаць і раненай каровы. Ну, настаўнік Джунгляў, які любіць лупцаваць шчанят, яшчэ адна міля такога шалёнага клыпання з боку на бок—і ты выцягнеш ногі! Сядай лепш і падумай! Складзем план. Цяпер ужо няма чаго кідацца. Калі мы падыдзем да іх блізка, яны могуць яго скінуць.

— Аррула! Гуу! Яны ўжо маглі скінуць яго, стаміўшыся цягацца з ім! Ці можна давяраць Бандар-Логу? Хай пасыпяцца трупы кажаноў на маю галаву! Дайце мне грызці чорныя косці! Ахутайце мяне хмарамі дзікіх пчол, хай яны заджгаюць мяне насмерць, і пахавайце мяне з гіенай, о я, няшчаснейшы з мядзведзяў! Арулала! Вагуа! О, Маўглі, Маўглі! Чаму я не перасцярог цябе ад Малпавага Племя, замест таго, каб крышыць табе рэбры!.. Цяпер я, магчыма, выбіў з яго галавы дзённую лекцыю, і ён у Джунглях адзін, без Уладарных слоў!

Балу ахапіў свае вушы лапамі і з енкам пакаціўся на зямлю.

— Прынамсі мне ён верна паўтарыў усе Словы не так даўно,—нецярпліва перапыніла яго Багіра.—Балу, у цябе няма ні памяці, ні павагі да сябе! Што падумалі-б Джунглі, калі-б я, Чорная Пантэра, пачала качацца па зямлі, нібы Сагі-іглак, ды яшчэ скуголіць пры гэтым?

— Што мне да таго, як падумаюць Джунглі? Можа ён ужо загінуў!

— Калі толькі яны не скінулі яго з дрэва дзеля пацехі ці не забілі так сабе, дык я зусім не баюся за Чалавечае Дзіцянё. Ён разумны і добра навучаны, ды апрача таго, у яго вочы, ад якіх дрыжаць усе Джунглі. Але ўся бяда ў тым, што ён у руках Бандар-Лога, а яны, жывучы на дрэвах, не баяцца нікога з нас...

Багіра задумліва лізала пярэднюю лапу.

— І дурны-ж я! Тлусты, буры, карняжэры дурань!—крыкнуў Балу, раптам выпрастаўшыся.—Праўду сказаў Хаці, Дзікі Слон: на кожнага свой страх. Яны, гэтыя Бандар-Лог, баяцца Каа, Каменнага Змея. Ён лазіць не горш ад іх. Ён крадзе ўначы маладых малпянят. Толькі ад аднаго імя яго, сказанага шэптам, халадаюць іх паганыя хвасты. Пойдзем да Каа!

— Што ён зробіць для нас? Ён не нашага племя; без ног, і з такімі д'ябальскімі вачыма,—прамовіла Багіра.

— Ён вельмі стары і вельмі хітры. Апроч таго, ён заўсёды галодны,—з надзеяй казаў Балу.—Наабяцай яму гару коз!



— Пасля сытнага абеда ён спіць цэльны месяц. Можа ён цяпер спіць, а калі прачнецца, дык можа захоча спачатку папаляваць на сваіх коз?

Багіра мала ведала Каа і таму ставілася да яго недаверліва.

— У такім разе мы ўдвух пастараемся ўгаварыць яго!

Тут Балу пашморгаўся аблезлым бурым плячом аб пантэру, і яны адправіліся шукаць Каа, Каменнага Пітона.

Яны знайшлі яго на выступе скалы, дзе ён ляжаў на сонцапёку. Ён пазіраў на сваю новую, адмысловую скуру, якую ён змяніў за апошнія дзесяць дзён, хаваючыся ад чужога вока. Выцягнуўшы вялізную кірпатую морду па зямлі, ён скруціў дзевяць метраў свайго цела ў фантастычныя вузлы і петлі і аблізваў губы, смакуючы будучы абед.





— Ён не еў!—радасна сказаў Балу, убачыўшы прыгожую жоўта-бурую скуру.—Сцеражыся, Багіра! Ён заўсёды слепаваты пасля ліняння і кожны момант гатоў кінуцца.

Каа быў не атрутная змяя—ён нават зневажаў атрутных змей, лічачы іх баязлівымі,—затое быў над-



звычайна дужы, і калі ўжо ён абвінаў каго-небудзь сваімі страшэннымі кольцамі, дык можна было развітацца з усімі надзеямі на вызваленне,

— Добрага Палявання!—крыкнуў Балу, прысядаючы на заднія лапы.

Як усе змеі яго пароды, Каа быў крыху глухі і не адразу пачуў прывітанне. Ён падціснуўся на кожны выпадак і схіліў галаву.

— Добрага Палявання нам усім,—адказаў ён нарэшце.

— Ого, Балу, якім чынам ты тут? Добрага паляваньня, Багіра! Прынамсі адзін з нас пэўна хоча есці. Ці няма чаго цікавага наконт дзічыны? Якую-небудзь гэткую лань ці маладога аленя? У сярэдзіне ў мяне пуста, як у перасохлай студні.

— Мы палюем,—нядбала адказаў Балу.

Ён ведаў, што Каа не варта падганяць. Ён занадта вялікі.

— Дазвольце і мне пайсці з вамі,—сказаў Каа.— Для вас абодвух усёроўна, ці зробіце які лішні ўдар, ці не, а я... а мне даводзіцца чакаць цэльныя дні на лясной сцежцы і поўзаць бадай да паўночы, спадзяючыся, ды і то няпэўна, злавіць якое-небудзь малпянё. Цьфу! Дрэвы цяпер ужо не тыя, што былі ў часы майго юнацтва. Засталося толькі сухое спарахнелае галлё, якое не вытрымлівае цела.

— Можа і вага тут сёе-тое значыць,—заўважыў Балу.

— Яно так, я ўжо досыць доўгі,—з гонарам сказаў Каа,—але ўсё-ж такі ва ўсім вінаваты гэты малады лес. Я ледзь было не зваліўся на апошнім паляваньні, ды паспеў моцна абкруціцца вакол дрэва. Але шум разбудзіў Бандар-Лог, і яны вылаялі мяне самымі паскуднымі словамі...

— Бязногім жоўтым земляным чарвяком,—прамармытала Багіра, нібы прыпамінаючы гэтыя словы.

— Сссс!.. Ці яны мяне і гэтак называлі?—схамянуўся Каа.

— Нешта такое яны нам крычалі ў часе апошняга маладзіку, але мы не звярнулі ўвагі. Ад іх пачуеш, што хочаш: нібы ты страціў усе зубы і не адваж-

заешся паляваць нават на казу, бо ты (сапраўды яны не маюць сораму, гэтыя Бандар-Лог!), ты, бачце, баішся казіных рагоў,—мякка казала Багіра.

Змяя, асабліва такі асцярожны стары пітон, як Каа, рэдка выяўляюць свой гнеў. Але на гэты раз Балу і Багіра маглі бачыць, як дрыжалі і надзьмуваліся вялізныя глытальныя мышцы па абодвух баках глоткі Каа.

— Бандар-Лог змянілі месца свайго жыцця,—спакойна прамовіў ён.—Калі я выпаўз сёння на сонца, я чуў іхняе гіканне на дрэвах.

— Мы цяпер гонімся за Бандар-Логам...—пачаў быў Балу, але словы застралі ў яго горле: за ўсё яго жыццё гэта быў першы выпадак, калі жыхар Джунгляў прызнаваўся, што цікавіцца малпамі.

— І мусіць незадарма два мужныя паляўнічыя—пэўна правадыры ў сябе ў Джунглях—пагналіся па слядах Бандар-Лога?—абыякім тонам сказаў Каа, хоць самому аж карцела ад цікавасці.

— Сапраўды,—пачаў Балу,—я не болей, як стары і часова вельмі дурны Настаўнік Закону ў Сіанійскіх Ваўчанят, а Багіра...

— Не больш, як Багіра,—рэзка сказала Чорная Пантэра і з ляскам стукнула сківіцамі, яна не любіла зневажацца.

— Справа вось у чым, Каа. Гэтыя злодзеі і падбіральнікі пальмавых лісцяў скралі наша Чалавечае Дзіцянё, пра якое ты, мабыць, чуў.

— Я чуў сёе-тое ад Сагі (ён надта задаецца сваімі калючкамі), нібы Чалавек быў прыняты ў Воўчую Зграю, але я не даваў гэтаму веры. Сагі паўнютка

напакованы гісторыямі, якія ён выслухвае толькі напалову і да таго яшчэ вельмі кепска пераказвае.

— Але гэта праўда. Гэта такое Чалавечае Дзіцянё, якіх яшчэ не было ў свеце!—сказаў Балу.—Найлепшы, найразумнейшы і найсмялейшы з Чалавечых Дзіцянят—мой вучань, які ўславіць імя Балу па ўсіх Джунглях. Апрача таго, я... мы любім яго, Каа!

— Тс! тс!—сказаў Каа, ківаючы галавой.—І я ведаў, што такое любоў. Я мог-бы вам парасказаць.

— Гэта будзе добра ў ясную ноч, калі мы ўсе будзем сытыя, каб належным чынам хваліць цябе,— як хутчэй прамовіла Багіра.—Наш хлопчык у руках Бандар-Лога, а мы ведаем, што ва ўсіх Джунглях яны баяцца толькі Каа.

— Яны баяцца мяне аднаго. І маюць прычыны,— сказаў Каа.—Балбатлівыя, дурныя і фанабэрыстыя,— фанабэрыстыя дурныя і балбатлівыя гэтыя малпы. Але Чалавеку ў іх руках добра не будзе. Ім надакучыць падбіраць арэхі і яны іх кідаюць. Яны поўдня носяцца з якім-небудзь дубцом, мяркуючы нарабіць з ім вялікіх спраў, а потым ламаюць яго напалам. Хлопчыку нельга пазайздросціць. Яны мяне лаялі жоўтай рыбай, ці так?

— Чарвяком, чарвяком, земляным чарвяком,— сказала Багіра,—ды яшчэ і іншымі словамі, але сорам не дазваляе мне іх выказаць.

— Мы іх навучым добра выказвацца пра свайго гаспадара ааа-ссс! Мы ўмацуем іх слабую памяць. Але куды-ж яны накіраваліся з Дзіцянём?

— Адны Джунглі гэта ведаюць. Я думаю, на захад,—сказала Багіра.—Мы думалі, што табе гэта вядома, Каа.

— Мне? Якім чынам? Я хапаю іх, калі яны трапляюцца мне на дарозе, але я не палюю на Бандар-Лог, як не палюю на жаб ці на зялёную цвіль у сажалках.

— Угару, угару! Угару, угару! Гілё! Ілё! Ілё, глядзі ўгару, Балу, з Сіанійскай Воўчай Зграі!

Балу зірнуў угару, каб даведацца, адкуль даносіцца голас, і ўбачыў каршуна Чыля, які спускаўся ўніз. Ускраек яго крылляў зіхацеў ад сонечных праменняў. Яму быў ужо час ісці спаць, але ён гойсаў па ўсіх Джунглях, шукаючы мядзведзя, якога ён не мог убачыць праз густое лісце.

— У чым справа?—спытаўся Балу.

— Я бачыў Маўглі сярод Бандар-Лога. Ён даручыў мне перадаць вам. Я сачыў. Бандар-Лог узялі яго за раку ў Горад Малпаў—у Халодныя Пячоры. Яны прабудуць там ноч, ці дзесяць начэй, ці гадзіну. Я загадаў кажанам сачыць за імі з надыходам цямна. Вось і ўсе даручэнні. Добрага Палявання ўсім вам унізе!

— Поўнае валлё і глыбокі сон табе, Чыль!—крыкнула Багіра.—Я ўспомню пра цябе ў першае-ж паляванне, і для цябе аднаго адлажу цэлую галаву—о, лепшы з каршуноў!

— Глупства! Дробязь! Хлопчык сказаў Уладарнае Слова. Я не мог зрабіць менш!—і Чыль кругамі паляцеў на сваё седала.

— А ён не забыўся, як карыстацца мовай!—з гордай усмешкай мовіў Балу.—Падумай толькі: хлопец успомніў Уладарнае Слова для птушак у той момант, калі яго валаклі па дрэвах!

— Мабыць моцна іх у яго загналі!—заўважыла Багіра.—Але і я ганаруся ім. А цяпер мы павінны ісці к Халодным Пячорам.

Усе яны ведалі, дзе знаходзіцца гэтае месца, але мала хто з жыхароў Джунгляў туды наведваўся. Халодныя Пячоры станавілі сабою стары запушчаны горад, які загубіўся і пахаваўся ў Джунглях, а зверы не карыстаюцца такімі мясцінамі, якімі хоць раз карыстаўся чалавек. Толькі дзік туды заглядвае, але паляўнічыя плямені ніколі. Апрача таго, тут жылі малпы, паколькі яны наогул могуць жыць на адным месцы, таму ніводзін звер, які больш-менш сябе паважае, не набліжаўся да гэтага месца, за выключэннем тых выпадкаў, калі ў часе засухі ў напалову разбураных водазборах і цыстэрнах можна было крыху знайсці вады.

— Палова ночы хады ва ўвесь дух,—абвясціла Багіра, а Балу задумаўся аб нечым вельмі сур'ёзным.

— Я пабягу так шпарка, як толькі буду магчы,— з трывогай прамовіў ён.

— Мы не будзем цябе чакаць. Бяжы за намі, Балу. Мы з Каа павінны імчацца з усіх ног.

— З нагамі, ці без іх, я не адстану ад цябе, чатырохногага,—сказаў Каа.

Балу напружыў усю сваю моц, каб не адстаць, але хутка засопся і прысеў адпачыць. Спадарожнікі дамовіліся, што ён прыйдзе пазней, і пакінулі яго. Багіра шпарка скакала наперад. Каа моўчкі поўз побач. І як ні старалася Багіра паддаць ходу,—вялізны Каменны Пітон трымаўся разам з ёю. Калі яны падбеглі да горнага ручая, Багіра проста пераскочыла

праз яго і выперадзіла Каа, пакуль той плыў, высунуўшы галаву на поўметра над вадой. Але на роўным месцы Каа зноў дагнаў яе.

— Клянуся Зломаным Замком, што вызваліў мяне,— крыкнула Багіра, калі сцямнелася,—ты хадок не з апошніх!



— Я галодны,—адказаў Каа.—Апрача таго, яны вылаялі мяне стракатай жабай.

— Чарваком, земляным чарваком, ды яшчэ жоўтым!

— Усёроўна. А ну, наддай!

І Каа нібы наліўся па зямлі струменем, выбіраючы карацейшы шлях.

Тымчасам малпам, якія размясціліся ў Халодных Пячорах, і ў галаву не прыходзілі прыяцелі Маўглі.

Яны прывалаклі хлопчыка ў закінуты горад і пачалі святкаваць свой поспех.

Маўглі да гэтага часу ні разу не бачыў індыйскага горада, і хоць гэта былі толькі руіны, яны здаліся яму незвычайна прыгожымі і раскошнымі. Горад быў пабудаваны на ўзгорку нейкім царом з давен-даўно. Яшчэ можна было разгледзець каменны брук, які вёў да разбуранай брамы, дзе віселі на іржавых завесах спарахнелыя рэшткі дошак. Дрэвы раслі на сценах і з сцен; дзікія паўзучыя расліны жмутамі звешваліся праз вокны насценных вышак.

На ўзгорку стаяў вялізны палац без даха. Мармуровы двор і фантан патрэскаліся, пакрыліся чырвонай і зялёнай цвіллю, а камені ад пабудоў, дзе жылі царскія сланы, былі параскіданы па траве і між маладых дрэў. З палаца відаць былі бясконцыя рады дамоў без дахаў, што надавала ім выгляд пустых пчаліных сотаў з чорнымі ячэйкамі. На скрыжаванні чатырох дарог ляжала груда камення, якое калісьці складала ідала. На рагу вуліц былі яры і яміны, якія былі гарадскімі студнямі. Выпестраныя купалы храмаў параслі дзікімі смоквамі.

Малпы называлі гэтае месца сваім горадам і імкнуліся зневажаць жыхароў Джунгляў за тое, што яны жывуць у лесе. Але малпы і самі не ведалі, дзеля чаго пабудаваны гэтыя дамы і як імі карыстацца. Яны садзіліся гуртом у зале пасяджэнняў царскай рады, чухаліся, лавілі блох і ўяўлялі сябе людзьмі! Або бегалі ў зруйнаваныя дамы, збіралі кавалкі цэглы і складвалі іх у кут, а потым забываліся, куды яны дзелі іх, і пачыналі гармідар, тузаніну, а пасля гэтага

разбягаліся па тэрасах царскага саду і пачыналі трэсці ружовыя і апельсінавыя дрэвы, каб толькі паглядзець, як будуць сыпацца кветкі і плады.

Яны даследвалі ўсе калідоры і скляпы ў палацу і сотні цёмных пакойчыкаў, але ніколі не памяталі, што яны бачылі, а што не. Так яны блукаліся па адным, ці па два, ці натоўпам, апавядаючы адзін аднаму пра свае нібы чалавечыя ўчынкі. Яны пілі з



водазбораў і каламуцілі ваду, а потым біліся з-за яе, збіраліся вялізным натоўпам і крычалі:

— Няма ў Джунглях такога мудрага, добрага, спрытнага, дужага, прыгожага і дасканалага народу, як Бандар-Лог!

Потым пачыналася тое самае, пакуль горад не абрыдае ім, і тады яны вярталіся на свае дрэвы, спадзяючыся, што ўсё-ж такі Джунглі іх заўважаць.

Маўглі, выхаваны паводле Закону Джунгляў, не любіў і не разумеў такога жыцця. Малпы прыцягнулі

яго ў Халодныя Пячоры пад вечар і, заместа таго, каб легчы спаць, як гэта зрабіў-бы кожны пасля вялікага падарожжа,—яны ўзяліся за рукі і пусціліся ў скокі, спяваючы свае дурныя песні. Адна з малпаў сказала прамову, у якой даводзіла, што палон Маўглі адзначыў новую эру ў гісторыі Бандар-Лога, бо Маўглі пакажа ім, як плесці чаротнік і галлё для аховы ад дажджу.

Маўглі ўзяў некалькі паўзучых сцяблоў і пачаў іх пераплятаць, малпы пачалі былі пераймаць, але ўжо праз некалькі хвілін страцілі цікавасць да працы і пачалі торгаць адзін аднаго за хвост, або з кашлем скакаць ракам.

— Я хачу есці!—сказаў Маўглі.—Я чужаземец у гэтай частцы Джунгляў. Прынясіце мне ежы або дазвольце мне тут папаляваць.

Дваццаць ці трыццаць малпаў кінуліся прынесці яму арэхаў і дзікіх пладоў, але па дарозе яны пабіліся, і ад пладоў нічога не засталося. Маўглі, смутны і злы ад голаду, сумна бадзяўся па пустынным горадзе і час ад часу выдаваў Кліч Палюючага Чужаземца. Але адказу не было, і Маўглі зразумеў, што трапіў у вельмі дрэннае месца.

„Усё, што Балу мне казаў пра Бандар-Лог,— разважаў ён,—шчырая праўда. У іх няма ні Закону, ні Клічу паляўнічых, ні правадыроў,—нічога, апрача дурных слоў і зладзейскіх рук. Калі я тут памру ад голаду, ці буду забіты, дык па сваёй уласнай віне. Але трэба як-небудзь вярнуцца ў родныя Джунглі. Балу, пэўна, паб'е мяне, але гэта ўсё-ж лепш, як ганяцца за ружовымі пялёсткамі разам з Бандар-Логам“.

Тут наляцелі на яго малпы і пацягнулі назад з папрокамі, што ён не цэніць свайго шчасця, а для таго, каб ён яго ацаніў—шчыпалі яго. Ён сцяў зубы і моўчкі пайшоў з натоўпам крыклівых малпаў на тэрасу, што ўзвышалася над басейнам з чырвонага камня. Пасярэдзіне тэрасы стаяў разбураны павільён з белага мармура, пабудаваны для адпачынку царыц, якія ўжо сотні гадоў адпачывалі ў зямлі. Купалападобны дах абваліўся і засыпаў падземны ход з палаца, якім карысталіся царскія жоны. Сцены складзены былі з дзірчастых мурмуравых плітак малочна-белага колеру, на якім яскравіліся мазаіка з агатаў, яшмы, сярдолікаў і іншых самацветных каменняў. Калі з-за ўзгорка выходзіў месяц, дык святло яго праходзіла праз дзірчастыя сцены і кідала на зямлю цені, як чорныя аксамітныя мярэжкі.

Хоць Маўглі быў вельмі зморaны і галодны, хоць яму хацелася спаць, але ён не мог устрымацца ад смеху, калі Бандар-Лог пачалі па дваццаць разоў расказваць яму, якія яны мудрыя, дужыя, шляхетныя, і які ён дурны, што захацеў пайсці ад іх.

— Мы вялікія! Мы вольныя! Мы дзівосныя! Мы самы дзіўны народ ва ўсіх Джунглях! Усе мы так гаворым, значыцца яно праўда!—гарланілі яны.—Ты нас слухаеш упершыню і можаш перадаць нашы словы жыхарам Джungляў, каб яны нас потым заўважалі, таму мы ахвотна ўсё раскажам табе пра нашы адмысловыя асобы.

Маўглі не супярэчыў, і малпы сотнямі і тысячамі сабраліся на тэрасу слухаць сваіх прамоўцаў, якія

выхвалялі Бандар-Лог, і калі прамоўца прыпыняўся, яны крычалі разам:

— Гэта так, усе мы сцвярджаем гэта!

Маўглі таксама ківаў галавою, лыпаў вачыма і казаў „так“, калі да яго звярталіся з пытаннем. Але галава яго кружылася ад усяго гэтага гармідару.

„Мусіць, шакал Табакі пакусаў усю гэту араву,— думаў ён,—і цяпер яны пашалелі. Вядома, гэта дэвані, шаленства. Няўжо-ж яны ніколі не спяць? Вось хмара збіраецца затуліць месяц. Каб яна была досыць вялікая, я паспрабаваў-бы ўцячы ўпоцемку. Але-ж як я змарыўся!“

За гэтай самай хмарай пільна сачылі і двое прыяцеляў, якія прытуліліся ў разваленым рове ля гарадской сцяны. Багіра і Каа ведалі, якія небяспечныя бываюць малпы, калі іх вельмі многа, і таму не хацелі рызыкаваць. Малпы ніколі не выступаюць менш як сотняй супроць аднаго, і мала хто ў Джунглях ідзе на такую рызыку.

— Я адпраўлюся да заходняй сцяны,—прашаптаў Каа,—і спушчуся па нахілу. На мяне яны не кінуцца, хоць-бы іх там былі сотні, але...

— Я ведаю,—сказала Багіра.—Хутчэй-бы гэты Балу прыходзіў!.. Але мы павінны зрабіць, што можам. Калі гэтая хмара затуліць месяц, я пушчуся на тэрасу. Яны там, відаць, радзяцца наконт хлопчыка.

— Добрага Палявання,—панура прамовіў Каа і папоўз да заходняй сцяны.

На бяду, яна выдалася найбольш разбуранай, і вялізны змей шмат патраціў часу, шукаючы дарогі. Хмара закрыла месяц і Маўглі пачуў на тэрасе лёг-

кія крокі Багіры. Чорная Пантэра ўзбегла па скату без ніякага шуму і цяпер біла (яна не любіла траціць час на ўкусы) направа і налева малпаў, якія сядзелі вакол Маўглі ў пяцьдзесят ці шэсцьдзесят радоў. Пачуліся гнеўныя і жахлівыя крыкі, і ў той час, калі Багіра таптала малпаў, пачуўся голас адной з іх:

— Тут толькі адзін! Біце яго! Біце!

Шчыльная маса малпаў, якія кусаліся, драпаліся і штурхаліся ва ўсе бакі, злучыліся вакол Багіры. Пяць ці шэсць малпаў падхапілі Маўглі, павалаклі яго па сцяне павільёна і ўвапхнулі ў шчыліну купала. Хлопчык, які быў-бы выхаваны сярод людзей, моцна разбіўся-бы, зваліўшыся з вышыні шасці-сямі метраў, але Маўглі зваліўся так, як вучыла яго Багіра, і лёгка дакрануўся да зямлі нагамі.

— Заставайся тут,—крыкнулі малпы,—пакуль мы не заб'ем тваіх прыяцеляў, а потым мы будзем гуляць з табой, калі толькі Атрутнае Племя пакіне цябе ў жывых.

— Мы з вамі адной крыві, вы і я!—сказаў Маўглі, спрытна выдаўшы Змяіны Кліч. Ён чуў шолах і сіпенне, якія даносіліся з кучы смецця, дзе ён стаяў, і для большай бяспекі другі раз падаў кліч.

— Хай так! Апускайце ўсе галовы ўніз!—пачуліся ціхія галасы (у Індыі кожная руіна раней ці пазней робіцца жыллём для змей, і стары павільён быў заселены кобрамі).—Стой ціха, Братка, бо твае ногі могуць нарабіць нам бяды.

Маўглі стаяў, як мага цішэй, гледзячы скрозь празрыстыя сцены і прыслухоўваючыся да лютай бойкі, якая адбывалася вакол пантэры—да выцця,

скогату, порскання і глыбокага хрыпатага кашлю Багіры, якая круцілася і захлёбвалася ў шчыльнай масе сваіх ворагаў. Упершыню са дня нараджэння Багіра так люта білася.

„Тут павінен быць Балу, Багіра не прыйшла-б адна“,—думаў Маўглі; потым крыкнуў.—Да водазбора, Багіра! Каціся і давай нырца! Хутчэй у ваду!

Багіра пачула яго, і гэты крык, які сведчыў, што Маўглі жывы, паддаў ёй бадзёрасці. З вялікім намаганнем, па кроку пракладвала яна сабе шлях да вады.

Раптам з разбуранай сцяны з боку Джунгляў пачуўся громавы ваенны кліч Балу. Стары мядзведзь стараўся з усёй моцы, але не мог прыйсці раней.

— Багіра!—крычаў ён.—Я тут! Я лезу! Я спяшаюся! Агувора! Каменні слізгаюцца пад маімі нагамі. Пачакайце, о паскуднейшыя Бандар-Лог!

Ён, засопшыся, узлез на тэрасу і з галавой рынуўся ў натоўп малпаў, але зараз-жа ўстаў на задція лапы, захапіў у абдымкі як мага больш ворагаў і пачаў калашмаціць іх з шумам, падобным да пляскання параходнага кола па вадзе. Плёск вады паказаў Маўглі, што Багіра прабілася, нарэшце, да басейна, куды малпы не маглі за ёй сунуцца. У вадзе пантэра магла перадыхнуць, пакуль малпы па тры адна на адной абляпілі чырвоныя ступенькі басейна і таўкліся ў бяссільнай злосці, рыхтуючыся кінуцца на ворага з усіх бакоў, як толькі той вылезе на дапамогу Балу.

Тады Багіра задрала галаву і ў роспачы выгукнула Змяіны Кліч аб дапамозе:

— Мы адной крыві, вы і я!

Яна падумала, што Каа ўцёк у апошнюю хвіліну. Нават Балу, бадай што задушаны малпамі на беразе тэрасы, не мог устрымацца ад усмешкі, пачуўшы жаласную просьбу Чорнай Пантэры аб дапамозе.



Каа толькі што перабраўся праз заходнюю сцяну і ірвануўся на зямлю з такой сілай, што сапхнуў у яміну вышку са сцяны. Ён не хацеў траціць ні адной з выгод свайго становішча, раз-другі скруціўся і раскруціўся, каб пераканацца, што кожны санты-

метр яго даўжэннага цела знаходзіцца ў баявой гатоўнасці.

Тымчасам бітва ішла сваім чэрадам. Балу заўзята біўся з шматлікім ворагам. Малпы скуголілі вакол Багіры, а Манг, Упыр, лётаў узад і ўперад і разносіў па Джунглях весткі пра вялікі бой. Вось затрубіў Хаці, Дзікі Слон, і з усіх бакоў здалёк, па дрэўных сцежках пачалі збірацца натоўпы малпаў на дапамогу таварышам у Халодныя Пячоры. Шум бітвы разбудзіў нават дзённых птушак на многа міль навакол.

Тады Каа выпрастаўся і з запалам рынуўся наперад. Баявую сілу пітона складае ўдар галавой, падмацаваны вагой і дужасцю ўсяго цела. Уявіць сябе піку, ці таран, ці молат вагою ў поўтоны, які кіруецца халодным, спакойным розумам, што знаходзіцца ў ручцы—і вы будзеце мець некаторае разуменне, што такое Каа ў часе барацьбы. Пітон у паўтара—два метры даўжынёю можа забіць чалавека, калі трапіць проста ў грудзі, а Каа, як вядома, меў дзевяць метраў. Першым маўклівым, ціхім ударам ён урэзаўся ў натоўп вакол Балу, а другога ўжо і не трэба было. Малпы разбегліся з крыкамі:

— Каа! Гэта Каа! Бяжыце! Уцякайце!

Цэлыя пакаленні малпаў выхоўваліся ў паслухмянасці расказамі старэйшых пра страшнага Каа, начнога злодзея, які слізгае па суках так ціха, бы мох расце, і крадзе самых дужых малпаў; пра старога Каа, які так дасціпна прымае выгляд сухой галіны ці трухлявага камля, што самыя сталыя малпы даваліся ў зман і заўважалі сваю памылку толькі тады, калі гэты камель ужо абкручваўся вакол іх. Усе

жахі Джунгляў злучаліся ў Каа, бо ніводная з малпаў не ведала канца-краю яго моцы, ніводная не адважвалася зірнуць яму проста ў вочы, ніводная не вырывалася жывою з яго абдымкаў. Таму яны беглі з крыкамі жаху на сцены і дахі дамоў, а Балу ўздыхваў з палягчэннем. Поўсць яго была куды гусцейшая, як у Багіры, але і ён значна пацярпеў у сутычцы.

У гэты момант Каа першы раз за ўвесь гэты час расчыніў свае вусны і выпусціў толькі адно доўгае сіпучае слова, і тады самыя далёкія малпы, якія спяшаліся на абарону Халодных Пячор, скамянелі на месцы і ледзь не зваліліся з галін, пагнутых ад іх цяжару. Малпы, што размясціліся па сценах і пустых дамах, сцішыліся, і ў гэтай цішы Маўглі чуў як Багіра вылезла з басейна і страсала з сябе ваду. Потым крыкі зноў пачаліся. Малпы лезлі ўсё вышэй на сцены, ахапіўшы шыі вялізных каменных ідалаў, яны дзіка верашчалі, ці пераскоквалі па сценных зубцах. А Маўглі, які скакаў ад радасці ў павільёне, прыціснуўся тварам да дзірчастай сцяны і завыў пасавінаму ў знак насмешкі і пагарды.

— Выцягні хлопчыка з гэтай пасткі, бо ў мяне ўжо сілы няма,—прамовіла Багіра.—Забярэм Чалавечае Дзіцянё і пойдзем. А то яны могуць зноў напасці.

— Яны не варухнуцца з месца, пакуль я ім не загадаю. С-с-с-стойце!—прасіпеў Каа, і зноў усё сцішылася.

— Я не мог прыйсці раней, але мне здалося, нібы я чуў твой кліч,—дадаў ён звярнуўшыся да Багіры.

— Мо... можа я і крычала што-небудзь у часе бойкі,—адказала Багіра.—Ці не ранены ты, Балу?

— Я не ўпэўнены ў тым, што яны не выкраілі з мяне сотню мядзведжанят,—сказаў Балу, атрахаючы лапы адну за адной. Ваў! Я ўвесь змардаваны. Каа! Ты выратаваў нам з Багірай жыццё, я думаю...

— Глупства. Дзе чалавечак?

— Тут, у пастцы. Я не магу вылезці!—крычаў Маўглі з павільёна.

— Убярыце яго! Ён скача, як Мор, пава. Ён парасціскае нашых дзяцей!—запрасіліся кобры.

— Ага!!—усміхнуўся Каа.—У яго ўсюды прыяцелі, у гэтага чалавечка! Адыдзі, адыйдзі, Дзіцянё, а вы схавайцеся, Атрутнае Племя. Я ламаю сцяну.

Каа ўважліва абследваў сцяну і знайшоў у мармуры шчарбіну, якая паказвала слабае месца. Спачатку ён некалькі разоў лёгка стукнуў галавой, каб нарыхтавацца, а потым падняў два метры свайго цела і разоў з дзесяць грукнуў у сцяну сваім носам, як таранам. Сцяна трэснула і павалілася, узняўшы хмары пылу і смецця, а Маўглі скокнуў у праход, падбег да Балу і Багіры і абняў рукамі іх вялізныя шыі.

— Ці не пабіўся ты?—казаў Балу, пяшчотна абдымаючы яго.

— Я змучыўся, зглададаўся і значна падрапаны. Але-ж як яны вас апрацавалі, Браткі. Вы выходзіце крывёю.

— Ды і яны не менш,—сказала Багіра, аблізваючы губы і пазіраючы на трупы малпаў, параскіданыя на тэрасе і вакол басейна.

— Гэта нішто, гэта глупства, абы толькі ты быў не пашкоджаны, о Жабянё, гонар мой!—павізгваў Балу.

— Аб гэтым гутарка наперадзе,—прамовіла Багіра сухім тонам, які зусім не спадабаўся Маўглі.—Але тут Каа, які даў нам гэтую перамогу, а табе, Маўглі, выратаваў жыццё. Падзякуй яму паводле нашых звычаяў, Маўглі.



Маўглі звярнуўся і ўбачыў над самай сваёй галавой зыбастую галаву вялізнага пітона.

— Дык гэта Дзіцянё?—прамовіў Каа.—У яго вельмі далікатная скура, і ён не вельмі адрозніваецца ад Бандар-Лога. Сцеражыся, Чалавек, каб я калі-небудзь у змроку, змяняючы скуру, не прыняў цябе за малпу.

— Мы адной крыві, ты і я,—адказаў Маўглі.— У гэтую ноч ты выратаваў мне жыццё. Ад гэтага

часу мая здабыча будзе тваёй здабычай, калі ты будзеш галодны, о Каа!

— Дзякую, Браток,—адказаў Каа, і вочы ў яго заблішчэлі.—А што можа забіць такі адважны паляўнік? Прашу дазволу праваджаць цябе, калі ты пойдзеш на паляванне.

— Я нічога не забіваю, бо я надта малы, але ганю коз да тых, каму яны патрэбныя. Калі згаладаешся, прыходзь да мяне і ўбачыш, ці праўду я кажу. Тут у мяне сёе-тое ёсць (ён працягнуў свае рукі), і калі ты калі-небудзь трапіш у пастку, дык я здолею заплаціць доўг, які з гэтага часу я вінен табе, Багіры і Балу. Добрага Палявання вам усім, мае валадары!

— Добра сказана,—прамармытаў Балу, бо Маўглі падзякаваў свайму збаўцу па ўсіх правілах мастацтва. Пітон патрымаў некаторы час сваю галаву на плячы Маўглі.

— Адважнае сэрца і салодкія словы,—сказаў ён.— Яны далёка павядуць цябе ў Джунглях! А цяпер ідзі паспі да заходу месяца, бо не належыць табе глядзець на тое, што адбудзецца тут...

Месяц схаваўся за ўзгоркам. Шэрагі малпаў сядзелі на сценах і зубцах і трэсліся ад страху. Балу спусціўся да вады, каб напіцца, а Багіра пачала ўпарадкаваць сваю поўсць. Раптам Каа слізгануў на сярэдзіну тэрасы і ляснуў сваімі сківіцамі так, што ўсе малпы ўтаропілі на яго свае вочы.

— Месяц заходзіць,—сказаў ён.—Ці досыць святло? Ці відаць вам?

Ад сцен пачуўся ціхі стогн, нібы шолах ад ветру ў верхавінах дрэў:

— Нам відаць, о Каа!

— Добра. Цяпер пачынаецца танец—Танец Голаду Каа. Сядзіце ціха і глядзіце!

Ён тры разы абышоў навакол, матаючы галавой направа і налева. Потым пачаў вырабляць петлі і васьмёркі сваім целам, мяккія зыбастыя трохвугольнікі, якія пераходзілі ў чатырох-пяцівугольнікі; то ён звінаўся ў кальчаты вал, то развінаўся ў ламаную лінію, безупынна, не спяшаючыся, і ўвесь час не спыняўся яго глухі, аднастайны зык. Цемень насоўвалася і, нарэшце, схавала яго рухавыя кольцы, толькі шолах лускі чуўся з цемры.

Балу і Багіра стаялі, як скамянелыя, у горле іх булькатала, шыі натапырыліся. Маўглі здзіўлена пазіраў на гэтае з'явішча.

— Бандар-Лог!—пачуўся, нарэшце, галос Каа.— Ці можаце вы варухнуць рукой ці нагой без майго загаду? Адказвайце!

— Без твайго загаду мы не можам варухнуць ні рукой, ні нагой, о Каа!

— Добра! Станьце ўсе на крок бліжэй да мяне!

Шэрагі малпаў бездапаможна хіснуліся наперад, і Балу з Багірай таксама ступілі наперад здрантвелымі нагамі.

— Бліжэй!—сіпеў Каа, і ўсе пасунуліся бліжэй.

Маўглі ўхапіўся рукамі за Балу і Багіру, каб адцягнуць іх прэч, і абодва вялізныя звяры ўздрыгануліся, нібы прачнуўшыся ад сну.

— Трымай сваю руку на маім плячы,—прашап-



тала Багіра.—Трымай яе там, а то я зноў пасунуся туды, да Каа. А-ах!

— Але стары Каа ўсяго толькі кружыцца ў пылу,—сказаў Маўглі.—Хадзем!

Усе тры кінуліся да пралому ў сцяне і выскачылі ў Джунглі.

— Уф!—ускрыкнуў Балу, апынуўшыся зноў пад ціхімі дрэвамі.—Ніколі не буду больш звязвацца з Каа!

І ён нават моцна страсануўся.

— Ён ведае больш за нас,—дрыжучы, сказала Багіра.—Каб я засталася яшчэ крыху, дык і я трапіла-б яму ў глотку.

— Шмат хто трапіць туды, перш чым месяц зноў узыйдзе,—мовіў Балу.—Удалае будзе ў яго паляванне, на свой манер.

— Але што гэта значыць?—спытаўся Маўглі, які зусім не ведаў пра здольнасць пітона зачароўваць жывёл.—Я бачыў толькі, як ён вырабляў дзівацкія выкрунтасы і больш нічога. Толькі вось нос сабе ён здорава разбіў. Ну, Ну!

— Маўглі!—строга сказала Багіра.—Нос у яго разбіты, дзякуючы табе, таксама як мае вушы, бакі і лапы, як шыя і плечы Балу пакрамсаныя праз цябе-ж. Ні Балу, ні Багіра на працягу шмат дзён не будуць цяпер здольныя паляваць з асалодай.

— Дарма!—сказаў Балу.—Затое Дзіцянё зноў з намі.

— Яно так, але ён дастаўся нам цаною таго часу, які мы маглі патраціць на ўдалае паляванне, цаною ран, валос—у мяне выскубана палова спіны—а галоўнае, цаною гонару. Бо памятай, Маўглі: я, Чорная Пантэра, вымушана была прасіць дапамогі ў Каа, і мы з Балу былі зачарованыя Танцам Голаду, як малыя птушаняты. Вось што, Дзіцянё, вышла з тваіх гульняў з гэтымі Бандар-Лог!

— Праўда, гэта праўда,—з сумам сказаў Маўглі.—Я злое дзіцянё і вельмі шкадую аб гэтым.

— Гм! Што кажа Закон Джунгляў, Балу?

Балу не хацеў рабіць хлопчыку новыя непрыемнасці, але ён не адважваўся жартаваць з Законам і таму прамармытаў:

— „Раскаянне не касуе кары“. Але памятай, Багіра, што ён яшчэ зусім малы!

— Я гэта памятаю, але-ж ён насваволіў і павінен атрымаць узбучку. Маўглі, ці маеш ты што супроць гэтага?

— Нічога. Я правініўся. Ты і Балу параненыя праз мяне. Гэта будзе справядліва.

Багіра адпусціла яму з дзесятак пяшчотных, на яе думку, пляскачоў (яны, мусіць, нават не разбудзілі-б каго-небудзь з яе ўласных дзяцей), але для сямігадовага хлапчука гэтыя ласкавыя плескачы былі такой жорсткай лупцоўкай, лепш за якую і жадаць нельга было. Па сканчэнні экзекуцыі Маўглі чхнуў і ўстаў на ногі, не прамовіўшы аніводнага слова.

— А цяпер,—сказала Багіра,—скакай мне на спіну, Братка, і мы адправімся дадому.

Маўглі прытуліўся да спіны Багіры і заснуў так моцна, што не чуў, як апынуўся ў роднай пячоры, куды яго паклалі дабрадзеі.





# ЯК ПРЫЙШОЎ СТРАХ

Ад спёкі курчыцца зямля,
Павысахлі яры.
Шалёным гуртам па лясах
Бадзяюцца звяры.
І калі знойдзецца куток,
Вада дзе ‘шчэ блішчыць,—
З аленем тыгр, з быкамі воўк
Павінны разам піць.

Закон Джунгляў, пэўна самы даўнейшы ў свеце, прадугледзеў бадай усе выпадковасці, якія могуць здарыцца з насельніцтвам Джунгляў, і цяпер збор гэтых законаў настолькі дасканалы, наколькі могуць гэта зрабіць час і звычаі. Калі вы чыталі іншыя апавяданні пра Маўглі, то павінны памятаць, што ён правёў большую частку свайго жыцця ў Сіанійскай

Воўчай Зграі, дзе навучаўся Закону ў бурага мядзведзя Балу. Балу-ж, калі хлопчыку абрыдалі бясконцыя загады, сказаў яму, што Закон падобны да гіганцкай Паўзучай Ліяны,—ён падае на спіну кожнаму, і ўхіліцца ад яго няма магчымасці.

— Калі пажывеш столькі, колькі я, Браток, дык убачыш, што ўсе Джунглі падначальваюцца прынамсі хоць аднаму Закону! І з'явішча будзе не вельмі прыемнае...—скончыў Балу.

Словы гэтыя ўвайшлі Маўглі ў адно вуха, а з другога вышлі. Але прыйшоў час, калі словы Балу спраўдзіліся, і Маўглі сваімі вачыма ўбачыў усе Джунглі пад уплывам аднаго Закону.

У гэты год зімовых дажджоў амаль не было, і іглак-Сагі, спаткаўшы Маўглі ў бамбукавым гушчары, паведаміў, што дзікае проса пачынае засыхаць. Усім вядома, што Сагі вельмі пераборлівы і ўжывае толькі самыя адборныя і спелыя плады. Маўглі засмяяўся і сказаў:

— А мне што да таго?

— Можа цяпер яшчэ нічога,—адказаў Сагі з непрыемным хрумсценнем сваіх калючак-іглаў.—А вось далей убачыш. А што, Браток, ці можна яшчэ даваць нырца ў глыбокай сажалцы, што каля Пчаліных Скал?

— Не. Дурная вада выходзіць, і я не хачу разбіць сабе галаву!—сказаў Маўглі, якому здавалася, што ён адзін ведае столькі, колькі пяцёра кожных іншых жыхароў Джунгляў.

— Шкада! Каб у тваёй галаве была хоць маленькая шчыліна, ты мог-бы набрацца крыху розу-

му...—і Сагі шпарка схіліў галаву, бо заўважыў, што Маўглі цэліцца таргануць яго за насавую шчаціну.



Маўглі перадаў Балу тое, што сказаў яму Сагі. Балу задумаўся і прамармытаў сам сабе:

— Каб я быў адзін, я зараз-жа пераняніў-бы месца палявання, пакуль іншыя не ўсхапіліся. Але... паляванне сярод чужакоў канчаецца калатнёй, а ў такіх справах могуць яшчэ пакрыўдзіць маё Чалавечае Дзіцянё. Пачакаем, паглядзім як мохва зацвіце...

Балу вельмі любіў плады дрэва „мохвы“, але ў гэтую весну яно не расцвіло. Зеленаватыя, як алівы, васковыя кветкі былі забітыя спёкай, не паспеўшы распусціцца, і калі Балу страсануў дрэва, з яго зляцела ўсяго толькі некалькі смярдзючых пялёсткаў. Пякучая гарачыня паступова залязала ў самае сэрца Джунгляў. Джунглі пажоўклі, парудзелі і, нарэшце, пачарнелі. Зялёны параснік каля яроў ператварыўся ў дрот і пакурчаныя плеўкі мярцвячыны. Затульныя азёрцы ўвайшлі ў зямлю, і глеба на іх месцы ссохлася так, што кожны след на ёй запёкся і зрабіўся, нібы чыгунны. Сакавітыя раней ліяны падалі з дрэў і паміралі ля іх падножжа. Засохлыя бамбукі звонка стукаліся адзін аб адзін, калі налятаў вецер, а мох пачаў адлушчвацца ўжо ў самых гушчарах, так што, нарэшце, і там зямля агалілася і распалялася не горш, як на палях.

Птушкі і малпы накіраваліся на поўнач у пачатку года, бо яны прадчувалі бяду. Алені і дзікі забіра-

ліся на сялянскае поле і часам паміралі на вачах людзей, якія нават не мелі сілы забіць іх. Толькі адзін каршун Чыль жыў раскошна: трупаў яму было— колькі хочаш. Кожны дзень ён паведамляў жывёлам, якія не мелі моцы прабіцца на новыя месцы палявання, што сонца змярцвіла Джунглі на тры дні лёту ва ўсе бакі.

Маўглі да гэтага часу не ведаў, што такое сапраўдны голад. Ён цяпер жывіўся трохгадовым мёдам, які выскробваў з закінутых каменных вулляў—мёд быў чорны і пыльны. Маўглі выкалупваў з-пад кары дрэў чарвякоў, разбурваў асіныя гнёзды і з'ядаў моладзь.

Уся дзічына ў Джунглях ператварылася ў скуру ды косці. Здаралася, што Багіра забівала здабычу па тры разы за ноч і ўсё-ж такі не магла наесціся. Але горш за ўсё была смага. Жыхары Джунгляў п'юць хоць і рэдка, але многа.



Спякота высмактала ўсю вільгаць і, нарэшце, галоўная рэчышча Вайнгунгі засталося адзіным месцам, дзе бруілася крыху вады сярод мёртвых берагоў. І калі Дзікі Слон Хаці, які жыве па сто гадоў і больш, убачыў сярод патоку вузкую сінюю

палоску каменняў, ён зразумеў, што перад ім—Скала Згоды. Тады ён падняў хобат і абвясціў „Вадзяное Перамір'е", як гэта зрабіў яго бацька за поўстагоддзе назад. Але дзікія свінні і буйвалы хрыпатымі галасамі падхапілі гэты кліч, а каршун Чыль паляцеў шырокімі кругамі над Джунглямі, высвістваючы і выкрыкваючы той-жа кліч.

Паводле законаў Джунгляў падлягае смерці кожны, хто забівае ля вадапою пасля таго, як абвешчана Вадзяное Перамір'е. Гэта таму, што піццё важней за яду. Калі дзічыны мала, кожны жыхар Джунгляў сяк-так абыдзецца. Іншая рэч—вада. І калі яна ёсць толькі ў адным месцы, то ў часе вадапою паляванне ў Джунглях спыняецца. Усе жыхары Джунгляў стомленыя, галодныя—тыгры, мядзведзі, алені, буйвалы, свінні—ішлі да перасохлай ракі, адным гуртам пілі цвілую ваду і стаялі над ёй настолькі знясіленыя, што не маглі ісці далей.

Алені і свінні бадзяліся па лесе цэлымі днямі і нічога не знаходзілі, апрача сухой травы і завялых лісцяў. Буйвалы не знаходзілі ні лужын, дзе яны так любілі прахалоджвацца, ні зялёнай травы. Змеі выпаўзалі з Джунгляў і накіроўваліся да ракі, спадзяючыся хоць тут злавіць якую-небудзь жабу. Яны абвіналіся вакол мокрых каменняў і нават не спрабавалі ўцякаць, калі якая-небудзь свіння непакоіла іх. Рачныя чарапахі даўно ўжо былі знішчаныя Багірай, самай спрытнай сярод паляўнічых, а рыбы зарыліся глыбока ў шчарбатую твань. Толькі Скала Згоды цягнулася доўгай змяёй, і маленькія цурочкі нават сінелі на яе гарачых баках.

Сюды кожную ноч прыходзіў і Маўглі, шукаючы прахалоды і кампаніі. Нават самыя галодныя з ворагаў хлопчыка наўрад ці думалі цяпер аб ім. Дзякуючы сваёй голай скуры, ён здаваўся яшчэ больш мізэрным і схудалым, як яго таварышы. Сонца выпаліла яго валасы, і яны зрабіліся светлыя, як лён, рэбры выпіраліся, бы дубцы з кошыка. Але вочы пад навіслым чубам былі спакойныя і халодныя, бо Багіра, яго нязменная



дарадчыца ў гэты цяжкі час, навучыла яго рухацца ціха, паляваць, не спяшаючыся, і ніколі, ані ў якім выпадку не траціць цярплівасці.

— Дрэнная пара прыйшла!—казала Чорная Пантэра ў гарачы вечар, які дыхаў, бы распаленая печка.—Але гэта не бяда, калі мы выжывем. А што, бруха ў цябе пустое, Чалавечае Дзіцянё?

— Бруха не пустое, але мне нядобра. Як ты думаеш, Багіра, ці зусім пазабыліся на нас дажджы і ўжо ніколі не вернуцца?

— Я гэтага не думаю; мы яшчэ ўбачым як расцвіце мохва, убачым маладых алянят, тлустых ад маладой травы. Пойдзем да Скалы Згоды і паслухаем навіны. Сядай мне на спіну, Браток.

— Не такі цяпер час, каб цягаць цяжар; я яшчэ трымаюся на нагах, але... наўрад ці мы з табой падобныя да тлустых бычкоў.



Багіра аглядзела свае шалудзівыя запыленыя бакі і прашаптала:

— Учора я забіла прывязанага бычка. Я так нізка апусцілася, што не адважылася-б скокнуць, калі-б ён быў адвязаны. Воў!..

Маўглі засмяяўся:

— Так, добрымі мы зрабіліся паляўнікамі! Я так асмялеўся, што еў чарвякоў!

І прыяцелі павалакліся разам да берагу ракі.

— Гэтая вада не доўга пражыве,—сказаў Балу, далучыўшыся да іх.—Гляньце, вунь сляды, падобныя да шляхоў людзей.

На гладкай раўніне далёкага берагу двухметравая трава памёрла і засохла, стоячы як мумія. Сярод гэтай травы былі працярэблены глыбокія пыльныя сцежкі, якія нават у такі ранні час кішэлі жывёламі, што спяшаліся да вады. Алені і лані ад пылу моцна чмыхалі.

У звіліне ракі знаходзілася Скала Згоды, знак Вадзянога Перамір'я, стаяў са сваімі сынамі Дзікі

Слон Хаці. Вялізны і шэры ў месячным ззянні, ён бесперапынна хістаўся з боку ў бок. Ніжэй стаяў авангард аленнега статка, яшчэ ніжэй на беразе ракі— свінні і дзікія буйвалы. А па процілеглым беразе, дзе дрэвы спускаліся да самай ракі, было вызначана месца для мясажэрных—тыграў, ваўкоў, пантэр, мядзведзяў і іншых.



— Мы сапраўды жывем цяпер пад адным Законам!—прамовіла Багіра, увайшоўшы ў ваду і зірнуўшы на лінію рогаў і бліскучых вачэй у тым месцы, дзе штурхаліся алені і дзікія свінні.—Добрага Палявання вам, мае адзінакроўныя!—сказала яна, расцягнуўшыся ў вадзе на адным баку, а потым дадала праз зубы:— Каб не гэты Закон, тут сапраўды было-б добрае паляванне.

Чулыя вушы аленяў злавілі апошнія словы і палахлівы гоман пайшоў па радах траваедных:

— Перамір'е! Не забывайся на Перамір'е!

— Ціха! Ціха!—крыкнуў Хаці, Дзікі Слон.—Цяпер Перамір'е, Багіра, і не час гаварыць пра паляванне.

— Ці-ж мне не ведаць гэтага?—адказала Багіра, бліснуўшы жоўтымі вачыма. Я ператтварылася ў паядальніка чарапах, у паляўніка на жаб. Нгайя!.. Ці не пачаць мне грызці галлё?

— Ах, як гэта было-б добра!..—наіўна прамовіла маладое алянё, што нарадзілася ў гэтую весну.

Хоць і вельмі сумныя былі жыхары Джунгляў, але нават Хаці не мог устрымацца ад смеху. А Маўглі, які ляжаў у цёплай вадзе, абапершыся ў дно локцямі, гучна зарагатаў і закалаціў па вадзе нагамі.

— Добра сказана, малы!—муркнула Багіра.—Калі Перамір'е скончыцца, гэта будзе залічана на тваю карысць...

І яна пільна прыглядзелася да аляняці, каб пазнаць яго пазней у выпадку сустрэчы.

Патроху завязалася гутарка па ўсёй лініі. Свінні штурхаліся і рохкалі, просячы пацісну цца; буйвалы порскалі і перагаворваліся праз мялізны, а алені расказвалі сумную аповесць пра цяжкія пошукі спажывы. Часам яны кідалі пытанне праз раку да мясажэраў, але нічога добрага ў адказ не чулі. Пякучы вецер з выем налятаў і губляўся сярод скал і сухога галля, пакідаючы на вадзе трэскі і пыл.

— Нават людзі і тыя паміраюць каля сваіх плугоў!—абвясціў малады Самбгур (казуля).—У гэтую ноч я трох такіх напаткаў. Яны ляжалі нерухомыя, а з імі іхнія буйвалы. Яшчэ крыху—і з намі будзе тое самае...

— Рака яшчэ больш апусцілася ад учарашняй ночы,—прамовіў Балу.—О, Хаці, ці бачыў ты калі-небудзь падобную засуху?

— Яна міне. Усё міне,—адказаў Хаці, паліваючы сваё бакі і спіну.

— Але з намі ёсць такі, які доўга не вытрымае!— казаў Балу, зірнуўшы на хлопчыка, якога так любіў.

— Гэта я?—з абурэннем спытаўся Маўглі і сеў у вадзе...—Праўда, у мяне няма футры, каб схаваць косці, але... Каб з цябе сцягнуць скуру, Балу...

Хаці аж скрывіўся, а Балу сурова сказаў:

— Чалавечае Дзіцянё! Як можаш ты так казаць пра настаўніка Закону? Ніхто яшчэ не бачыў мяне без скуры!

— Я не хацеў пакрыўдзіць цябе, Балу. Я хацеў толькі сказаць, што ты нібы какос у шалупінні, а я той самы какос без шалупіння. І вось, каб тваё бурае шалупінне...

Маўглі сядзеў, падкурчыўшы ногі і падняўшы ўгару палец, як гэта ён звычайна рабіў, а ў гэты момант Багіра працягнула сваю мяккую лапу і занурыла яго ў ваду.

— Чым больш, тым горш!—сказала Чорная Пантэра, калі Маўглі, пырскаючы, падняўся з вады.—То з Балу трэба садраць скуру, то ён у цябе какосавы арэх. Глядзі, каб ён не зрабіў з табой тое самае, што робяць з арэхамі.

— А што?—спытаўся Маўглі, на момант забыўшыся на асцярожнасць.

— Каб ён не разбіў табе галаву!—спакойна прамовіла Багіра і занурыла Маўглі другі раз.

— Нядобра здзеквацца з настаўніка!—дадаў Мядзведзь, калі хлопчыка занурылі трэці раз.

— Нядобра? А чаго-ж вы чакалі? Гэты малы бегае ўсюды і здзекуецца з усіх тых, хто быў калісьці добрым паляўнікам. І нават лепшых з нас дзеля забавы цягае за вусы!..

Гэта гаварыў Шэр-Хан, Кульгавы тыгр, які прыкандыбаў да вады. Ён з задавальненнем пазіраў, якое ўражанне зрабіла яго з'яўленне на аленяў, што былі на процілеглым беразе. Потым апусціў сваю квадратную лахматную галаву да вады і пачаў піць і буркаць:

— Джунглі зрабіліся цяпер пляцоўкай для гульняў голых дзяцей. Паглядзі на мяне, Чалавечае Дзіцянё.

Маўглі пранікліва паглядзеў на яго, і праз хвіліну Шэр-Хан адвёў вочы.

— Чалавечае Дзіцянё! Чалавечае Дзіцянё!—зарыкаў Шэр-Хан.

— Ён не Чалавек і не Дзіцянё, бо іначай ён павінен быў спалохацца. Чаго добрага, у наступны раз мне прыдзецца прасіць у яго дазволу напіцца. Агр!..

— І гэта можа здарыцца!—прамовіла Багіра, пільна гледзячы яму ў вочы.—І гэта можа здарыцца... Фі, Шэр-Хан, гэта што яшчэ за ганьба такая?

Кульгавы Тыгр апусціў у ваду падбародак і шчокі і па вадзе паплылі чырвоныя палосы.

— Чалавек!—спакойна адказаў Шэр-Хан.—Я забіў яго з гадзіну назад.

І ён буркнуў і піў сабе далей, не звяртаючы ні на каго ўвагі. Але звяры захваляваліся, загулі, і нарэшце, пачуліся крыкі:

— Чалавек! Чалавек! Ён забіў Чалавека!

І ўсе паглядзелі на Хаці, Дзікага Слана.



Але той, здавалася, і не чуў. Хаці ніколі не выяўляе сябе, пакуль не прыйдзе час—вось чаму ён так доўга жыве.

— Ці-ж цяпер час забіваць Чалавека? Ці не было іншай дзічыны?—з пагардай сказала Багіра, выходзячы з бруднай вады і атрахаючы свае лапы.

— Я забіў па выбару, а не для ежы.

Зноў пачуўся спалоханы гоман, і зіркія бялясыя вочкі Хаці ўтаропіліся ў Шэр-Хана.

— Так, па выбару!—дзёрзка паўтарыў Шэр-Хан.— А цяпер я прыйшоў напіцца і пачысціцца. Ці можа хто забараніць мне гэта?

Спіна Багіры выгнулася, як бамбук ад моцнага ветру, але Хаці падняў свой хобат і спакойна перапытаў:

— Ты забіў па выбару? (А калі Хаці пытаецца, лепш адказваць.)

— Так, гэта было маё права і мая ноч. Ты-ж ведаеш, а Хаці!—голас Шэр-Хана адразу зрабіўся ліслівым.

— Але, я ведаю,—адказаў Хаці і пасля некаторага маўчання сказаў:—Ты напіўся?

— На сёння напіўся.

— У такім разе ідзі. Рака для таго, каб з яе піць, а не для таго, каб паганіць яе. Толькі Кульгавы Тыгр можа задавацца сваім правам у той час, калі мы ўсе пакутуем—і Чалавек і Джунглі. Чысты ці нячысты, але зараз-жа ідзі ў свае логава, Шэр-Хан! Тут табе не месца!

Апошнія словы прагрымелі, як срэбная труба, і

тры сыны Хаці выступілі наперад. Але ў гэтым і патрэбы не было: Шэр-Хан хуценька шмыгнуў прэч, не спрабуючы супярэчыць, бо ведаў, што Хаці, нарэшце, усё-ж такі Ўладар Джунгляў.

— Пра якое такое права казаў Шэр-Хан?—прашаптаў Маўглі на вуха Багіры.—Забіваць Чалавека заўсёды ганебна, так кажа Закон, а Хаці гаворыць...

— Спытайся яго сам, я не ведаю, Браток. Ці маю я права, ці не, але, каб Хаці не сказаў свайго слова, я-бы правучыла гэтага кульгавага мясніка. Прыходзіць да Скалы Згоды зараз-жа пасля забойства Чалавека, ды яшчэ выхваляецца гэтым—так можа зрабіць толькі шакал! Ён яшчэ і ваду запаскудзіў!..

Маўглі счакаў крыху, набраўся духу (бо ніхто не адважваецца звяртацца да Хаці непасрэдна) і крыкнуў:

— У чым права Шэр-Хана, а Хаці?

Словы яго знайшлі водгук па абодвух берагах, бо ўсе жыхары Джунгляў вельмі цікаўлівыя, а цяпер перад імі было нешта такое, чаго не разумеў, відаць,



ніхто, апрача Балу, які меў вельмі задумлівы выгляд у гэтую хвіліну.

— Гэта старадаўняя аповесць,—адказаў Хаці, гісторыя, даўнейшая за самі Джунглі. Сціхніце вы там, па берагах, і я паведаю яе вам.

Хвіліну-другую сярод свіней і буйвалаў ішла штурханіна і спрэчкі, але хутка ўсё сцішылася, і важакі гуртоў адзін за адным крыкнулі:

— Мы чакаем, о Хаці!

Хаці выступіў наперад, увайшоў у ваду да каленаў і спыніўся ля Скалы Згоды. Схудалы, зморшчаны, з жоўтымі клыкамі, ён усё яшчэ здаваўся тым, каго Джунглі прызвычаіліся лічыць Уладаром.

— Вы ведаеце, дзеці мае, што больш за ўсіх вы баіцеся Чалавека. (Тут пачуўся агульны згаджальны гул.)

— А байка-ж тычыцца цябе, Браток!—звярнулася Багіра да Маўглі.

— Мяне? Я-ж з ліку Зграі, я паляўнік Вольнага Племя!—адказаў Маўглі.—Што мне да Чалавека?

— Але вы не ведаеце, чаму вы баіцеся Чалавека,—казаў далей Хаці.—А вось чаму: у пачатку існавання Джунгляў—ніхто не ведае, калі гэта было—мы ўсе хадзілі разам, не баючыся адзін аднаго. У тыя дні не было засухі, лісце, кветкі і плады раслі на дрэвах адначасова, і мы жывіліся толькі лісцем і кветкамі, травой, пладамі і карой.

— Я вельмі рада, што не нарадзілася ў тыя часы,—заўважыла Багіра.—Кара прыгодна толькі для таго, каб аб яе вастрыць кіпці.

— А ўладаром Джунгляў быў Тха, Першы з Сланоў. Ён выцягнуў Джунглі з вады сваім хобатам, і

там, дзе ён правёў барозны ў зямлі сваімі клыкамі— пацяклі рэкі, а там, дзе ён тупаў нагамі—стварыліся сажалкі. Калі ён трубіў у свой хобат—вось гэтак!— дык дрэвы падалі. Вось якім чынам Тха ствараў Джунглі, так і мне расказвалі.



— А казка не схудала ад перадачы,—шапнула Багіра, а Маўглі хіхікнуў у кулак.

„У тыя дні не было ні збожжа, ні дыняў, ні перцу, ні цукровага трысця. Не было тады і маленькіх хат, якія вам усім вядомыя. Народы Джунгляў нічога не ведалі пра Чалавека і жылі ў Джунглях, як адно племя. Але вось яны пачалі сварыцца з-за харчу, хоць кармоў хапала на ўсіх. Яны заленаваліся, кожны хацеў есці на тым месцы, дзе ён ляжаў, накшталт таго, як часам і мы гэта робім, калі вясна бывае дажджыстая. Дык вось, Тха, Першы з Сланоў, старанна ствараў новыя Джунглі і адводзіў рэкі ў іхнія рэчышчы. Ён не мог адначасова быць усюды, таму паставіў Першага з Тыграў уладаром і суддзёй над Джунглямі. Усе жыхары Джунгляў павінны былі звяр-

тацца да яго з сваімі спрэчкамі. У тыя дні Першы з Тыграў жывіўся пладамі і травой разам з усімі іншымі. На яго скуры не было яшчэ ніводнай палоскі, ніводнай пляміны. Жыхары Джунгляў прыходзілі да яго без страху, і слова яго было законам для ўсіх Джунгляў. Не забывайцеся, што мы тады складалі адзін народ. Але вось у адну ноч адбылася сварка паміж двума аленямі,—звычайная сварка на пашы, якую вы вырашаеце, пастукаўшыся рагамі і пярэднімі нагамі,—і кажуць, што калі адзін з іх стаў перад Першым з Тыграў, які ляжаў сярод кветак, то неяк штурхануў яго сваім рогам. Першы з Тыграў забыўся, што ён уладар і суддзя Джунгляў, кінуўся на аленя і зламаў яму шыю. Да гэтай начы ніхто з нас не паміраў. Першы з Тыграў ашалеў ад паху крыві і ўцёк у Балоты Поўначы, а мы, застаўшыся без суддзі, пачалі біцца паміж сабою.



Тха пачуў гэты шум, вярнуўся, даведаўся ў чым справа і аддаў загад дрэвам і ліянам Джунгляў, каб яны адзначалі забойцу аленя. І сказаў тады Тха: „Хто-ж цяпер будзе Ўладаром над Джунглямі?“ У адказ на гэтыя словы выскачыла Малпа, якая жыве на дрэвах: „Я цяпер буду Уладаром Джунгляў!“ Засмяяўся Тха і сказаў; „Хай будзе так!“ І пайшоў разгневаны.

„Дзеці, вы ведаеце Шэрую Малпу. Яна была тады такой самай, што і цяпер. Спачатку яна скрывіла разумную міну, але ўжо праз хвіліну пачала чухацца,

скакаць уверх і ўніз па дрэвах. І калі Тха вярнуўся, ён убачыў, што Шэрая Малпа вісіць уніз галавой на суку і строіць кпіны з народу, а тыя адказваюць ёй таксама. І не сталася Закону ў Джунглях—адна балбатня і бязглуздыя словы.

„Тады Тха склікаў нас усіх і сказаў: „Першы з нашых уладароў прынёс у Джунглі Смерць, а другі—Сорам. Прыйшоў час даць нам Закон, якога вы не парушалі-б. Цяпер вы пазнаеце Страх. І калі вы знойдзеце яго, вы зразумееце, што ён ваш Уладар, а рэшта прыйдзе сама сабой. „Што такое Страх?“—спыталіся мы. Тха адказаў: „Шукайце, пакуль не знойдзеце! І вось мы пайшлі па Джунглях шукаць Страх, а буйвалы...

— Брр!— прамовіў Міза, важак буйвалаў з сваёй мялізны.—„Так, Міза, гэта былі буйвалы. Яны прынеслі вестку, што ў пячоры ў Джунглях сядзіць Страх, што на ім няма валос і што ён ходзіць на задніх лапах. Мы пайшлі за буйваламі, падышлі да гэтай пячоры і каля ўваходу ў яе ўбачылі Страх, ён быў безвалосы і стаяў на задніх лапах. Убачыўшы нас, ён закрычаў, і ад яго голасу мы адчулі жах. Мы пабеглі прэч, топчучы адзін аднаго, бо мы адчувалі страх. У гэтую ноч—казалі мне—мы ўжо не ляжалі разам, як было раней, а кожнае племя трымалася паасобку,—свінні са свіннямі, алені з аленямі, ды і то рог да рога, капыта да капыта. І так ляжалі мы ў Джунглях, трасучыся...

„Але Першага з Тыграў не было з намі. Ён усё яшчэ хаваўся ў Балотах Поўначы. Пачуўшы пра тое, што ў нас робіцца, ён сказаў: „Я пайду да гэтага

Страху і зламаю яму карак!“ Усю ноч бег ён к пячоры, але дрэвы і ліяны, памятаючы загад Тха, апускалі галіны і ставілі знакі на яго бакі, спіну, лоб шчокі. Дзе яны дакраналіся, там заставаліся плямы і палосы на яго жоўтай скуры. Гэтыя палосы яго дзеці носяць і да сёнешняга дня. Калі ён прыбег у пячору, Страх, Безвалосы, падняў руку і назваў яго „Паласаты, які прыходзіць уначы“. Першы з Тыграў з жахам адступіў і, выючы, пабег назад у Балота„.



Маўглі, седзячы ў вадзе па самы падбародак, ціханька хіхікаў.

„Ён так моцна скавытаў, што яго пачуў Тха і спытаўся: „У чым справа?“ І Першы з Тыграў, задраўшы сваю галаву к маладому небу, якое цяпер такое старое, сказаў: „Аддай мне маю моц, Тха! Мне сорамна перад усімі Джунглямі, бо я ўцёк ад Безвалосага, і ён нават аблаяў мяне“. „Чаму?“—спытаў Тха, „Таму, што я запэцканы балотнай тванню“, адказаў Першы з Тыграў. „Ну дык паплавай ды пакачайся па мокрай траве, і калі гэта

гразь, дык яна пэўна змыецца",—параіў Тха. І Першы з Тыграў пачаў плаваць, качацца, і качаўся да таго, што аж Джунглі закружыліся перад яго вачыма. Але ніводная палоска, ніводная плямінка на яго скуры не змянілася, а Тха глядзеў на яго ды смяяўся. І сказаў Першы з Тыграў: „Што я зрабіў? Завошта на мяне такая бяда?" Тха адказаў: „Ты забіў аленя, пусціў Смерць у Джунглі, а са Смерцю прыйшоў Страх—жыхары Джунгляў баяцца адзін аднаго, а ты баішся Безвалосага".

І сказаў Першы з Тыграў: „Яны не будуць баяцца мяне, ведаю здаўна". „Ідзі і глядзі!"—адказаў Тха, І Першы з Тыграў бегаў па лесе, клікаў аленяў, свіней, Самбгураў і Іглака, і ўсіх жыхароў Джунгляў, але ўсе ўцякалі ад таго, хто быў іхнім суддзёй, усе баяліся яго. Вярнуўся Першы з Тыграў; гордасць яго была зняважаная, ён біўся галавой вобземлю, ірваў на сабе валасы і крычаў: „Успомні, што я калісьці быў Уладаром Джунгляў. Не забудзься на мяне, о Тха! Хай мае дзеці ведаюць, што калісьці я не ведаў Сораму і Страху". І сказаў Тха: „Я зраблю гэта, бо мы разам з табой бачылі, як ствараліся Джунглі. Адна ноч у годзе будзе такой, якая была ў дзень забойства аленя, для цябе і для тваіх дзяцей. У гэтую адзіную ноч, калі ты сустрэнеш Безвалосага (а імя яму—Чалавек), ты не будзеш яго баяцца, а ён будзе баяцца цябе, нібы ты Суддзя і Ўладар Джунгляў. Будзь літасны да яго ў гэтую ноч страху, бо ты сам пазнаў, што такое Страх!"

„І адказаў Першы з Тыграў: „Я задаволены!" Але калі ён зірнуў на свае чорныя палосы і ўспомніў

абразлівае прозвішча, якое яму даў Безвалосы, то злосць зноў вярнулася да яго. Цэлы год хаваўся ён у Балотах, і ў адну ноч, калі Нябесны Шакал (вячэрняя зорка) узняўся над Джунглямі, ён адчуў, што прыйшла яго ноч, і адправіўся к пячоры Безвалосага. І адбылося



так, як абяцаў Тха: той упаў перад ім ніц, і Першы з Тыграў зламаў яму хрыбет. Ён думаў, што Безвалосы адзін у Джунглях, і што Страх забіты. Але вось ад поўначы пачуліся крокі Тха, і раздаўся голас Першага з Сланоў—вось такі самы, як цяпер...“ (у гэты момант у горах прагрымеў гром, але ён не прынёс дажджу, а толькі сухі бляск маланкі, Хаці тымчасам казаў далей):

„Вось гэты голас пачуў ён. І сказаў Тха: „Дык вось якая твая літасць?“ Але Першы з Тыграў, аблізваючы губы, прамовіў: „Якая бяда? Я-ж забіў Страх“. І сказаў яму Тха: „О, сляпы вар‘ят! Ты развязаў ногі Смерці, і цяпер яна будзе хадзіць па тваіх слядах, пакуль ты не памрэш. Ты навучыў Чалавека забіваць. Ніколі больш народ Джунгляў не пойдзе да цябе, толькі Страх будзе хадзіць за табой. Зямля будзе правальвацца пад тваімі нагамі, ліяны будуць абвінацца вакол тваёй шыі, дрэвы будуць вышэй, каб ты не мог даскачыць да галін—і нарэшце, Безвалосы здыме тваю скуру, каб загарнуць у яе сваіх дзяцей

у часе халадоў. Ты не быў да яго літасны, і ён не будзе да цябе літасны".—„Абяцанне Тха ёсць абяцанне Тха; не адбярэ-ж ён ад мяне маёй ночы?"— дзёрзка сказаў Першы з Тыграў. І адказаў Тха: „Ноч, як я казаў, застаецца тваёй, але цяпер за яе трэба заплаціць. Ты навучыў Чалавека забіваць, а ён—здольны вучань".—„Вось ён пад маёй нагой, і хрыбет яго зламаны!"—адказаў Першы з Тыграў.—Абвясці Джунглям, што я забіў Страх! Але Тха засмяяўся і сказаў: „Ты забіў толькі аднаго з іх. Але ты лепш сам раскажы, бо ноч твая ўжо скончылася!"

Надышоў дзень, і каля ўваходу ў пячору паказаўся другі Безвалосы. Ён убачыў мерцвяка на сцежцы і Першага з Тыграў над ім, узяў завостраную палку...

— Ён кінуў у яго палку, якая рэжа!—крыкнуў сагі, стукаючы сваімі ігламі.

Лясны народ, гонды, лічаць мяса іглака вельмі смачным. Дзякуючы гэтаму іглакі добра ведаюць вострыя нажы, якія гонды кідаюць так ёмка, што яны лятуць, як маланка, і акурат трапляюць у іглака.

„Не, гэта вострая палка была такая, якую яны кладуць цяпер каля пастак,—сказаў Хаці.—Чалавек кінуў, і яна глыбока засела ў целе Першага Тыгра. Першы з Тыграў з выем пабег прэч і качаўся па Джунглях, пакуль не вырваў палку. Усе Джунглі даведаліся, што Безвалосы ўмее біць здалёк, і пачалі яго баяцца яшчэ больш. Вось як Першы з Тыграў навучыў Безвалосага забіваць наша племя! Чалавек робіць пасткі, рые ямы, кідае вострыя палкі і нешта пякучае, што вылятае з белага дыму (Хаці думаў

пра стрэльбу), ён-жа прыносіць Чырвоную Кветку і выганяе ўсіх з Джунгляў. Але адну ноч у год Безвалосы баіцца Тыгра, як абяцаў Тха, і тыгр забівае яго, дзе знойдзе. А ўвесь астатні час Страх вольна ходзіць па Джунглях і ў ноч".

— Толькі адну ноч баіцца Чалавек тыгра?—перапытаў Маўглі.

— Толькі адну ноч,—адказаў Хаці.

— Але-ж, мы ўсе ведаем, што Шэр-Хан забівае Чалавека два і тры разы ў месяц!

— Гэта так. Але тады ён кідаецца ззаду і нават адварочвае галаву, каб не глядзець, бо адчувае Страх. Каб Чалавек зірнуў на яго ў гэты момант,—ён-бы ўцёк. А ў гэтую ноч ён ходзіць вольна па сялібах, сярод хат, нават прасоўвае галаву ў дзверы,—а людзі падаюць перад ім ніц, і ён забівае толькі аднаго Чалавека ў гэтую адзіную ноч.

— Цяпер я разумею, чаму Шэр-Хан папрасіў, каб я паглядзеў на яго!—прамармытаў Маўглі, плёхаючыся ў вадзе.—Ён думаў, ці не ўпаду і я перад ім ніц у гэтую ноч? Але-ж я не Чалавек, я сын Вольнага Племя.

— Не ведае да таго часу, пакуль Нябесны Шакал не ўстане ў вячэрнім тумане. Часам гэта прыпадае на сухое лета, часам на перыяд дажджоў, гэтая адзіная ноч Тыгра. Калі-б не Першы з Тыграў, гэтага ніколі-б не здарылася і ніхто з нас не ведаў-бы Страху.

Алені са шкадаваннем чмыхнулі. Багіра злосна ўсміхнулася.

— А людзі ведаюць гэтую... казку?—спыталася яна.

— Ніхто не ведае, апрача тыгра ды нас, сланоў, патомкаў Тха. А цяпер і вы ведаеце. А я скончыў— і Хаці апусціў хобат у ваду ў знак таго, што не жадае больш гаварыць.

— А чаму-ж тыгр не еў, як і раней, траву і лісце з дрэў?—спытаўся Маўглі, звярнуўшыся да Балу.—Ён-жа толькі забіў аленя, але не еў яго. Чаму-ж ён пачаў есці мяса?

— Ён раззлаваўся на дрэвы і ліяны за тое, што яны адзначылі яго і зрабілі паласатым,—адказаў Балу. Вось чаму ён і кінуў есці іх. А каб адпомсціць ім, ён пачаў есці тых жывёл, якія ядуць траву.



## ЗАКОН ДЖУНГЛЯЎ

Каб даць некаторае разуменне аб рознастайных Законах Джунгляў, мы падаем тут тую частку іх, якая была абавязковай для ваўкоў. Балу чытаў іх нараспеў, сплюшчыўшы вочы і хістаючыся з боку ў бок. Наогул Законаў Джунгляў вельмі многа—мы падаем толькі тыя, што прасцей.

Законы Джунгляў вечныя, нязменныя, як неба.

Шчаслівы той Воўк, які выконвае Закон! Гора таму, хто яго парушае!

Закон абвінае ўсё жыццё Джунгляў, як ліяна абвінае дрэва.

Зграя магутная, калі ўсе Ваўкі дружныя; кожны Воўк магутны, калі Зграя дружная.

Штодзень купай сваё цела, ваду пі не з самага дна.

Памятай, што ноч—для палявання, а дзень—для сну.

Не чакай чужой здабычы, здабывай сабе сам.

Не прыстала Ваўку карыстацца рэшткамі ад Тыграва стала; хай жывіцца гэтым застольнік яго—Шакал.

Не турбуй Уладара Джунгляў—Хаці, не чапай ні Тыгра, ні Мядзведзя, ні Пантэры, ні Дзіка.

Калі Зграя сустрэнецца са Зграяй на вузенькай сцежцы, стой спакойна і чакай, пакуль важакі дагаворацца.

Не сварыся з Ваўкамі Зграі, а калі гэта здарыцца, прынамсі рабі так, каб ніхто з чужых гэтага не бачыў.

Чым менш грызні, тым мацней Зграя.

І жыццё ў сваім уласным логаве залежыць ад Рады.

Калі палюеш а поўдні, не будзі лес крыкамі.

Не распуджвай ланей без патрэбы: можа брат твой сочыць за імі ў гэты час.

Забівай для сваёй патрэбы, і для матак, і для шчанят, але ніколі не забівай для забавы.

Не забівай Чалавека!

Калі адбярэш здабычу ад слабейшага, пакідай яму скуру і чэрап.

Здабыча Зграі—для Зграі; ты можаш пад'есці разам з усімі, але смерць будзе таму, хто хоць крыху возьме з сабой.

Здабыча Ваўка—для Ваўка; без дазволу яго ты не можаш і дакрануцца да яе.

Ніхто не мае права адмовіць аднагадоваму шчаняці ў спажыве.

Усе члены Сям'і звыш года павінны аддаваць Матцы чацвертую частку здабычы.

Бацька—гаспадар Пячоры; ён можа не слухацца Зграі, а падначальвацца толькі Радзе.

Усё, што Закон не прадбачыў, вырашае Правадыр Зграі.

Памятай, што пачатак, і канец, і корань усіх Законаў—гэта Паслухмянасць.

---



# „ТЫГР-ТЫГР!"

Ты паляваў ужо, Брат-зверaлоў?
— Братка! Няўдалы і доўгі быў лоў.
Дзе-ж здабычу сваю ты схаваў?
— Братка! Звер у лес ад мяне паскакаў.
Дзе-ж твая моц, і адвага, і рэў?
— Братка! Відаць, я ўжо састарэў.
Ці ты не здольны зусім паляваць?
— Братка! У мярлогу іду паміраць.

Пакінуўшы Воўчую Пячору пасля сваркі са Зграяй на Скале Рады, Маўглі пайшоў на вораныя палі да людзей. Але ён не хацеў тут спыняцца, бо месца было надта ўжо блізкае да Джунгляў, а ён ведаў, што ў Зграі ў яго застаўся прынамсі адзін непрымірымы вораг. Ён спяшаўся наперад, прытрымліваючыся няроўнай дарогі, што бегла па даліне, і без

перапынку прабег не менш як дваццаць міль, пакуль не прыйшоў у незнаёмую мясцовасць.

Даліна пераходзіла ў шырокую раўніну, па якой былі раскіданы скалы і глыбокія равы. На адным канцы раўніны стаяла вёска, а на другім цямнеліся Джунглі, якія шырокай дугой падыходзілі да пашы і тут раптам спыняліся. Па ўсёй раўніне пасвіліся зебу і буйвалы.

Калі пастухі ўбачылі Маўглі, дык з крыкамі пабеглі ад яго прэч, а жоўтыя бяздомныя сабакі, што бадзяюцца каля кожнай індускай вёскі, пачалі брахаць.

Маўглі ўсё ішоў наперад,—ён быў галодны,—і калі падышоў да ваколіцы, дык убачыў, што ўваход у вёску загароджаны калючым галлём. У сваіх начных пошуках спажывы Маўглі не раз сустракаў такія барыкады.

„Значыцца і тут людзі баяцца племя Джунгляў",— падумаў ён і сеў каля форткі.

Праз некаторы час падышоў нейкі чалавек. Маўглі ўстаў, расчыніў рот і паказаў пальцам, што хоча есці. Але чалавек вылупіў вочы і пабег назад па вуліцы, да жраца, тоўстага мужчыны ў белым убранні, з чырвонымі і жоўтымі палосамі на лобе. Жрэц пайшоў да Маўглі, а за ім пацягнулася яшчэ прынамсі сотня людзей. Усе яны балбаталі, крычалі, дзівіліся на Маўглі і тыкалі ў яго пальцамі.

— Зусім не ўмеюць трымаць сябе, гэтыя людзі!— сказаў сам сабе Маўглі.—Акурат як тыя Шэрыя Малпы.

Ён адкінуў свае даўгія валасы назад і нахмурыўся.

— Каго тут баяцца? — сказаў жрэц. — Гляньце на яго рукі і ногі—на іх сляды ад воўчых укусаў. Гэта-ж воўчае дзіця, якое ўцякло з Джунгляў.

Вядома, гуляючы з Маўглі, ваўчаняты нярэдка шчыпалі яго досыць моцна, і яго рукі і ногі ўсюды былі пакрыты белымі шрамамі; але Маўглі ніколі не назваў-бы гэтых шчыпкоў укусамі: ён ведаў, што такое сапраўдныя ўкусы.

— Аррэ, аррэ—ах! ах!—прамовілі дзве-тры жанчыны.—Небарака, як ён пакусаны ваўкамі! Але-ж ён прыгожы хлопчык: вочы ў яго, нібы вугальчыкі! Дапраўды, Месуа, ён падобны да хлопчыка, якога ўнёс у цябе тыгр.

— Давайце паглядзім,—прамовіла жанчына з шырокімі меднымі кольцамі на руках і нагах. Прыставіўшы далонь к ілбу, яна ўважліва аглядзела Маўглі і сказала:—Не, гэта не ён: у яго худзейшае цела. Але вочы ў яго акурат як у майго хлопчыка!

Жрэц быў чалавек кемлівы і ведаў, што муж Месуі самы багаты чалавек у вёсцы і што ад яго можна пажывіцца. З хвіліну ён глядзеў на неба, а потым урачыста прамовіў:

— Джунглі ўзялі, Джунглі далі! Вазьмі хлопчыка ў свой дом, о сястра, і не забудзься ўшанаваць жраца, які бачыць наскрозь жыццё чалавека!..

— „Клянуся Быком, што выкупіў мяне,—сказаў сам сабе Маўглі,—уся гэтая балбатня вельмі нагадвае, як мяне аглядалі ў Зграі. Ну, што-ж—чалавек, дык чалавек!“

Людзі разышліся, а жанчына знакамі паклікала за сабою Маўглі ў хату, дзе стаяў чырвоны лакіраваны

ложак, вялізная гліняная скрыня-засек з забаўнымі малюнкамі, з поўдзесятка медных каструль, фігура індускага бажка ў нішы, а на сцяне—сапраўднае люстэрка, якія прадаюцца на вясковых кірмашах па восем грашоў.

Жанчына дала Маўглі добрую порцыю малака і хлеба, потым палажыла руку на галаву і зазірнула ў вочы. Ёй усё здавалася, што можа гэта сын вярнуўся да яе з Джунгляў, куды ўнёс яго тыгр. І яна прамовіла:

— Нату, о Нату!

Але не відаць было, каб гэтае імя было знаёмае Маўглі.

— Ці памятаеш ты той дзень, калі я падаравала табе новыя чаравікі?

Яна дакранулася да яго падэшвы, але скура была цвёрдая, як рог.

— Не!—сумна сказала яна.—Гэтыя ногі ніколі не насілі чаравікоў. Але ты вельмі падобны да майго Нату і будзеш маім сынам...

Маўглі адчуваў сябе неяк няёмка: ён ніколі яшчэ не быў пад дахам. Але зірнуўшы ўгару, ён заўважыў, што дах зусім лёгка разабраць, абы толькі захацеў, ды і вокны не мелі засавак.

„Ці варта быць чалавекам,—падумаў Маўглі,— калі не разумееш чалавечай мовы? Цяпер я такі самы дурны і нямы, як і чалавек, які трапіць у Джунглі. Абавязкова трэба вывучыць іхнюю мову!“

Маўглі нездарма вучыўся ў Джунглях, як перaймаць крык аленяў і рохканне парасят. Як толькі Месуа вымаўляла якое слова, ён дасканала пераймаў

яго і ў той-жа самы дзень ён ужо ведаў назвы шмат якіх прадметаў у хаце.

Маленькае непаразуменне вышла, калі трэба было, класціся спаць. Маўглі ні ў якім разе не хацеў класціся ў нейкай пастцы для пантэр, як ён называў хату,—і калі зачынілі дзверы, ён вылез праз акно.



— Хай робіць, як хоча, — сказаў муж Месуі:—Падумай сабе: можа ён ніколі яшчэ не спаў у пасцелі! Калі ён сапраўды пасланы нам заместа сына, дык ён і так не ўцячэ.

А Маўглі вышаў за ваколіцу і з прыемнасцю расцягнуўся ў высокай, чыстай траве. Але не паспеў ён заснуць, як мяккі вільготны нос штурхнуў яго ў падбародак.

— Ф'ю!—сказаў Шэры Брат (гэта быў старэйшы з шчанят Маткі Ваўчыхі).—Дрэнная ўзнагарода за тое, што я сачыў за табой дваццаць міль: ты пахнеш дымам і хатняй жывёлай, акурат як чалавек. Прачніся, Братка, я прынёс навіны!

— Ці ўсё добра ў Джунглях?—спытаў Маўглі і абняў ваўка.

— Усё, апрача ваўкоў, абсмаленых Чырвонай Кветкай. Ну, слухай: Шэр-Хан адправіўся паляваць

далёка адсюль, пакуль у яго не адрасце новая поўсць. Ён вельмі апёкся! Ён пакляўся, што, вярнуўшыся, кіне тває косці ў Вайнгунгу.

— Ну, гэта яшчэ невядома! Я таксама даў сякоетакое абяцанне. Але слухаць навіны заўсёды прыемна. Я стаміўся сёння, вельмі стаміўся ад усіх гэтых нечаканых здарэнняў, Шэры Братка! Але ты заўсёды прыносіш мне весткі.

— Ты не забудзеш, што ты Воўк? Людзі не прымусяць цябе забыць гэта?—трывожна пытаўся Шэры Брат.

— Ніколі! Я заўсёды буду памятаць, што любіў цябе і ўсіх, хто жыве ў нашай Пячоры. Але я не забудуся і на тое, што Зграя мяне выгнала!..

— І што цябе таксама можа выгнаць і другая Зграя?—дадаў Шэры Брат.—Людзі не больш, як людзі, Братка, і словы людскія, што кваканне жаб у сажалцы. У наступны раз я буду цябе чакаць у бамбуках, на краі пашы.

На працягу трох месяцаў пасля гэтай ночы Маўглі бадай не выходзіў за вясковую ваколіцу: так ён быў заняты вывучэннем жыцця людзей.

Перш за ўсё ён вымушаны быў надзець на сябе тканіну, якая вельмі перашкаджала яму. Потым яму давялося пазнаёміцца з грашыма, сэнсу якіх ён аніяк не мог сабе ўцяміць, і нават з ворывам, у якім ён таксама не бачыў аніякага сэнсу.

У дадатак вясковая дзятва вельмі дапякала яго. Добра яшчэ, што Закон Джунгляў навучыў яго стрымліваць гнеў, бо там харчаванне і само жыццё выключна залежыць ад умеласці стрымлівацца. Але

калі яны пачыналі здзеквацца з яго за нежаданне гуляць з імі ці пускаць змея, або смяяліся з яго за няздольнасць вымавіць тое ці іншае слова,—тады толькі Закон Джунгляў, які забараняў не на паляванні крыўдзіць малое бездапаможнае дзіцянё, стрым-



ліваў яго ад жадання разадраць грубіяна напалам. Ён сам не ведаў сваёй сілы, У Джунглях ён ведаў, што звяры дужэй за яго, а тут казалі, што ён дужы, як бык.

Вядома ён не меў аніякага ўяўлення, што такое страх. Калі вясковы жрэц сказаў яму, што храмавы бог будзе гневацца, калі ён не спыніць свае напады на мангавыя дрэвы, што належалі жрацу, дык Маўглі схапіў фігурку бажка, прынёс яе да жраца ў дом і

прапанаваў яму раззлаваць бажка, і тады ён, Маўглі, пабораецца з ім. Гэта быў страшэнны скандал, але жрэц не агаласіў яго, а палічыў за лепшае выцягнуць ад мужа Месуі пэўную колькасць срэбра на тое, каб „уласкавіць бога“.

Таксама Маўглі не меў ніякага ўяўлення аб той розніцы, якую кладзе каста[1]) паміж людзьмі. Калі асёл ганчара зваліўся ў яму, Маўглі выцягнуў яго за хвост; ён памагаў яшчэ складваць гаршкі, калі трэба было адпраўляць іх на рынак у Канхівару. Гэта было скандальнай справай, бо ганчар належыць да ніжэйшай касты, а яго асёл—тым болей. Калі-ж жрэц пасварыўся на Маўглі, дык той прыстрашыў, што самога жраца пасадзіць на асла!

Тады жрэц параіў мужу Месуі як мага хутчэй знайсці для Маўглі якую-небудзь работу. І праз некаторы час вясковы стараста абвясціў Маўглі, што ад заўтрашняга дня ён павінен будзе ганяць буйвалаў на пашу.

---

[1]) Даўнейшыя ўладары Індыі, жрацы, падзялілі насельніцтва на групы, касты, паводле іх соцыяльнага стану. Вышэйшай кастай лічыліся жрацы, потым воіны, гандляры, далей рамеснікі, земляробы і г.д. Ніжэйшымі былі мяшаныя касты беднякоў (парыі і інш.). Ніхто ніколі не мог перайсці з ніжэйшай касты ў вышэйшую. Шлюбы паміж кастамі былі забаронены. Вышэйшыя касты ставіліся да ніжэйшых з надзвычайнай пагардай. Знявага да вышэйшай касты жорстка каралася, нават смерцю. А ніжэйшыя касты лічыліся горшымі за жывёлы. Да іх нельга было дакрануцца, бо тады чалавек апаганьваўся. Жыць яны павінны былі асобна, карыстацца маглі толькі чарапкамі ад пасуды, насіць адзенне мерцвякоў, гадаваць маглі толькі сабак і аслоў і г. д. Цяпер такога парадку афіцыйна няма; няма і такіх дзікіх форм, але фактычны падзел на касты яшчэ застаецца; застаецца і агульны характар адносін да ніжэйшых каст. Якіх-небудзь 30—40 гадоў назад нават афіцыйна 14 проц. насельніцтва належала да ніжэйшай касты.

Маўглі вельмі ўзрадваўся і ў тую-ж ноч, як афіцыйны вясковы работнік, далучыўся да гуртка, які кожны вечар збіраўся на каменнай тэрасе пад фігавым дрэвам. Гэта быў нібы вясковы клуб: стараста, стар-



шыня, цырульнік, які ведаў усе вясковыя плёткі, а таксама стары Бульдэа, вясковы паляўнічы, валадар старой славутай стрэльбы—сустракаліся тут і курылі свае люлькі. На верхніх галінах сядзелі малпы і безупынна балбаталі, а ўнізе, пад тэрасай, была яміна, дзе жыла кобра. Гэтаму стварэнню, якое лічылася святым, кожны вечар прыносілі сподак малака.

Старыя сядалі вакол дрэва, пыхкалі сваімі „гука“ (люлькі) і гаманілі да позняй начы. Яны расказвалі

адзін аднаму дзіўныя прыгоды з багамі, людзьмі і духамі. А яшчэ больш дзіўныя рэчы расказваў Бульдэа пра звяроў Джунгляў, расказваў датуль, пакуль у хлапцоў, што сядзелі за імі, аж вочы павылазілі на лоб ад страху. Героямі гэтых апавяданняў былі жывёлы, што жылі побач у Джунглях. Алені і дзікі псавалі пасевы, а час ад часу тыгр у змроку хапаў чалавека на вачах усёй вёскі.

Маўглі, які добра ведаў Джунглі, некалькі разоў закрываў твар, каб не паказаць смеху. А Бульдэа, палажыўшы славутую стрэльбу на калены, плёў сабе бязглуздыя гісторыі адну за адной, так што Маўглі аж трoсся ад стрыманага рогату.

У гэты вечар Бульдэа абвясціў, што тыгр, які сцягнуў сына Месуі, быў пераварацень, што ў целе яго сядзіць дух злога старога ліхвяра, які памёр некалькі год назад.

— Я перакана765ны, што гэта так,—казаў ён.—Пурун-Дас жа-ж кульгаў з таго часу, калі палілі яго канторскія кнігі, і ён уступіў у бойку. А тыгр, пра якога я кажу, таксама кульгае, бо пакідае няроўныя сляды.

— Але, але, гэта праўда!—казалі дзяды, матаючы сівымі барадамі.

— Няўжо-ж і ўсе яго апавяданні такая самая балбатня і выдумка?—умяшаўся Маўглі.—Гэты тыгр кульгае проста таму, што ён нарадзіўся кульгавым— хто-ж гэтага не ведае! Казаць пра душу ліхвяра ў звяры, які ніколі не меў нават мужнасці шакала, можа толькі дзіця!

Бульдэа ад здзіўлення разявіў рот, а стараста вылупіў вочы.

— Ого! Гэта гаворыць чарцянё з Джунгляў?— сказаў Бульдэа.—Калі ты такі разумны, дык аднясі яго скуру ў Канхівару. Урад-жа вызначыў сто рупій за яго жыццё. А самае лепшае—маўчаў-бы ты, калі гавораць старэйшыя!

Маўглі ўстаў кабісці.

— Увесь вечар я ляжаў тут і слухаў,—сказаў ён, адыходзячы,—і толькі раз ці два сказаў Бульдэа праўду пра Джунглі, што знаходзяцца пад самым вашым носам. Як жа-ж я магу даваць веры казкам пра духаў, богаў і чарцей, якіх ён нібы сам бачыў?

— Ну, час ужо, хлопчык, адпраўляцца на начлег!— сказаў староста, а Бульдэа аж соп ад абурэння.

У большасці індускіх вёсак хлопчыкі досвіткамі выганяюць дробную жывёлу і буйвалаў на пашу, а пад вечар прыганяюць назад. Той самы буйвал, які забівае белага чалавека насмерць, дазваляе хлопчыку, які ледзь дасягае яго носа, крычаць на яго, дражніць і біць лазінай. Пакуль пастушок трымаецца статка, яму не пагражае небяспека; нават тыгр не адважваецца нападаць на статак. Але варта толькі хлопчыку адысці ў бок, па кветку, ці па яшчарку, як яго ўжо можа схапіць тыгр.

Ледзь золак Маўглі ехаў па вясковай вуліцы на спіне Рамы, вялізнага перадавога буйвала. Сінія буйвалы, з даўгімі загнутымі назад рагамі і дзікім позіркам, адзін за адным уставалі ў сваіх хлявах і ішлі следам за імі. Маўглі вельмі выразна паказаў сваім таварышам-хлопчыкам, што гаспадаром буйвалаў будзе ён, а ніхто іншы. Ён лупцаваў буйвала даўгім паліраваным бамбуковым кіем і загадаў Кам‘е, аднаму

з хлопчыкаў, пасвіць дробную жывёлу асобна, але не аддаляцца ад буйвалаў, якіх будзе пасвіць сам Маўглі.

Індуская паша бадай усюды складаецца з скал, хмызняку, парослых травой купінак ды яраў, сярод якіх жывёла разыходзіцца і знікае з вачэй. Буйвалы звычайна цiснуцца да лужын і балотных мясцін, дзе яны і ляжаць па цэлых гадзінах у цёплай твані.

Маўглі пагнаў іх на канец раўніны, дзе Вайнгунга выбягае з Джунгляў. Тут ён саскочыў з шыі Рамы, пабег да бамбукавага зарасніку і ўбачыў Шэрага Брата.

— Ах,—прамовіў Шэры Брат,—ужо не першы дзень я чакаю цябе! Але што ў цябе за справа са скацінай?

— Нічога не зробіш,—загад!—адказаў Маўглі.— Я цяпер вясковы пастух. Што чуваць пра Шэр-Хана?

— Ён вярнуўся сюды і даўно ўжо чакае цябе. Цяпер ён адышоў, не знайшоўшы тут досыць здабычы. Але ён мяркуе абавязкова забіць цябе.

— Добра,—сказаў Маўглі,—пакуль яго няма, ты ці хто-небудзь з Чатырох Братоў сядзіце на гэтай скале, каб я мог бачыць вас з вёскі. А калі ён вернецца, чакайце мяне ў яры каля дакавага дрэва, што расце сярод раўніны. Не варта лезці Шэр-Хану проста ў зубы!

Маўглі лёг у цяньку і спаў увесь час, пакуль буйвалы пасвіліся вакол яго. У Індыі пасьба скаціны— самы гультайскі занятак. Буйвалы ходзяць, хрумкаючы траву, кладуцца, зноў устаюць і нават не мукаюць, а нейк рохкаюць. Буйвалы рэдка гавораць паміж са-



бой, а забяруцца ў лужыны і зарыюцца ў гразь так глыбока, што толькі насы ды вочы відаць. Так яны і ляжаць, нерухомыя, як бярвенні. Скалы калышацца ў гарачай імгле, да пастушкоў даносіцца пасвістванне каршуна (заўсёды аднаго). Яны ведаюць, што калі-б хто з іх памёр, ці падохла-б карова, дык гэты каршун спусціцца ўніз, за многа міль ад яго прыляціць і спусціцца бліжэйшы каршун, потым наступны—і не паспее жывёла памерці, як над ёй нямаведама адкуль збяруцца цэлыя сотні каршуноў!

Пастушкі спяць, прачынаюцца, зноў спяць, плятуць кошыкі з сухой травы і садзяць у іх конікаў. А то зловяць двух жукоў і прымушаюць іх біцца паміж сабой; майструюць каралы з чырвоных і чорных ягад, ці назіраюць яшчарак, што гуляюць па скале, або змяю, якая палюе на жаб каля сажалкі. То пяюць яны даўжэнныя песні з выкрунтасамі на канцы, і дзень здаецца ім даўжэй за жыццё іншага чалавека, то яны будуюць палацы з твані з глінянымі фігурамі людзей, коняй, буйвалаў, укладваюць дубцы ў рукі людзей і ўяўляюць, што самі яны цары, а фігуркі—іхнія арміі, ці бажкі, якім трэба пакланяцца. Так надыходзіць вечар. Дзеці пачынаюць крычаць, буйвалы з гучным

поканнем вылазяць з гразі і чарадой ідуць па шэрай раўніне да вясковых агоньчыкаў.

Дзень за днём вадзіў Маўглі буйвалаў да іхніх улюбёных месц і кожны дзень ён бачыў спіну Шэрага Ваўка на вызначаным месцы (гэта азначала, што Шэр-Хан яшчэ не вярнуўся). Кожны дзень ён ляжаў у траве, прыслухоўваючыся да шолахаў навакол і летуцеючы аб былом жыцці ў Джунглях. Каб Шэр-Хан зрабіў хоць адзін неасцярожны крок сваёй кульгавай нагой у Джунглях каля Вайнгунгі—Маўглі пэўна пачуў-бы яго ў цішы доўгай раніцы.

Нарэшце падышоў дзень, калі ён не ўбачыў Шэрага Брата на вызначаным месцы. Ён усміхнуўся і пагнаў буйвалаў у яр каля дакавага дрэва, якое ў гэты час усё было пакрытае залаціста-чырвонымі кветкамі. Тут сядзеў Шэры Брат, натапырыўшы спіну да апошняга валаска.

— Ён хаваўся цэлы месяц, каб прыпыніць тваю пільнасць. Ён перайшоў узвышшы ў мінулую ноч разам з Табакі і пільна сочыць за табой,—запыхаўшыся прамовіў воўк.

Маўглі нахмурыўся.

— Я не баюся Шэр-Хана, але Табакі хітрая бестыя.

— Не бойся,—сказаў Шэры Брат, аблізваючы губы.—Я сустрэў Табакі досвіткам. Цяпер ён раз-



носіць свае навіны каршунам. Але перш, як я яму перабіў хрыбет, ён мне паспеў расказаць пра ўсё. Шэр-Хан будзе пільнаваць цябе ў ваколіцы ў гэты вечар—цябе і больш нікога! Цяпер ён ляжыць у вялікім сухадоле Вайнгунгі.

— А што, ці ён ужо еў сёння, ці палюе нашча?— спытаўся Маўглі, ад адказу залежала яго жыццё і смерць.

— З рання ён задушыў парася, ды напіўся таксама. Ведай, што Шэр-Хан ніколі не пасціцца, нават калі рыхтуецца да помсты.

— О, дурань, дурное шчанё! Еў і піў, і думае, што я буду чакаць, пакуль ён выспіцца! Але дзе ён цяпер ляжыць? Гэтыя буйвалы не нападуць, пакуль не пачуюць яго, а іхняй мовы я не разумею. Ці нельга як-небудзь зайсці на след, каб яны яго пачулі?

— Ён пераплыў Вайнгунгу ніжэй, каб заблытаць свае сляды,—адказаў Шэры Брат.

— Пэўна гэта яму падказаў Табакі,—сам-бы ён ніколі не дадумаўся.

Маўглі глыбока задумаўся, трымаючы палец у роце.

— У вялікім рове Вайнгунгі... Ён выходзіць на раўніну з паўтары мілі адсюль... Я магу пагнаць статак вакол Джунгляў да пачатку рова, а потым рынуцца ўніз... Але ён уцячэ праз другі канец. Трэба загарадзіць і гэты канец... Шэры Братка, ці не мог-бы ты для мяне разагнаць статак надвая?

— Я—не, але я затое прывёў кагосьці разумнейшага...

Шэры Брат пабег і шмыгнуў у нейкую яміну.

Адтуль высунулася вялізная шэрая галава, добра знаёмая Маўглі—і гарачае паветра напоўнілася дзікім клічам Джунгляў: паляўнічым выем ваўка ў поўдзень.



— Акела! Акела! — і Маўглі нават запляскаў у далоні. — Я павінен быў ведаць, што ты не забудзешся на мяне. Перад намі стаіць сур'ёзная справа! Падзялі статак напалам. Акела, каровы і цяляты хай будуць асобна, а быкі і рабочыя буйвалы хай будуць у другім баку.

Ваўкі змейкай прабеглі праз статак і выбеглі вон. Жывёлы захраплі, ускінулі галовы і падзяліліся на дзве групы. У адной апынуліся буйваліцы з цялятамі ў сярэдзіне, вочы іх палалі, яны рылі зямлю капытамі і нарыхтоўваліся кінуцца на ваўка і растаптаць яго, як толькі той спыніцца. У другой групе храплі быкі і маладыя бычкі; яны складалі большую сілу, але здаваліся больш спакойнымі, бо ім не трэба было бараніць цялят. Нават шэсць пастухоў не маглі-б падзяліць статак так удала.

— Што-ж далей?—пытаўся Акела.—Яны зноў злучацца.

Маўглі ўскочыў на спіну Рамы.

— Гані, Акела, буйвалаў налева, а ты, Шэры Брат, калі мы пабягом, збяры разам кароў і гані іх у яр Вайнгунгі.

— Дакуль іх гнаць?—пытаўся Шэры Брат запыхаўшыся і ляскаючы зубамі.

— Гані датуль, пакуль берагі будуць такімі высокімі, што Шэр-Хан не будзе магчы выскачыць!—крычаў Маўглі.—Стрымлівай статак там, пакуль мы не прыбягом зверху!

Акела завыў і быкі кінуліся прэч, а Шэры Брат стаў перад каровамі. Яны рынуліся на яго, ён пабег да сухадола, каровы за ім, а Акела тымчасам гнаў кароў улева.

— Добра зроблена! Яшчэ крыху—і яны зусім ашалеюць! Толькі цішэй, цішэй, Акела, а то яны зараз нападуць на цябе. Ага, ага, гэта будзе крыху цяжэй, як гнаць аленяў! Ці думаў ты, што гэтыя стварэнні ўмеюць так шпарка рухацца?—крычаў Маўглі.

— У мой час... у мой час я і на такіх паляваў!—крычаў Акела сярод пылу.—Гнаць іх у Джунглі, ці што?

— Так, гані! Заварочвай! Рама зусім ашалеў. О, каб я мог сказаць, чаго я чакаю ад яго сёння!

Быкі завярнулі на гэты раз управа і рынуліся ў гушчар. А пастушкі, што пасвілі сваю жывёлу за поўмілі ад Маўглі, пабеглі з усіх ног у вёску з крыкам, што буйвалы ашалелі і ўцяклі.

План Маўглі быў досыць просты: яму трэба было са сваімі быкамі зрабіць вялікі круг і выйсці к пачатку сухадола, а адтуль пусціць быкоў уніз, каб Шэр-Хан трапіў паміж быкамі і каровамі. Маўглі добра ведаў, што Шэр-Хан, наеўшыся і напіўшыся, не здолее ні біцца, ні караскацца на сцены рова.

Цяпер ужо Маўглі супакойваў буйвалаў, а Акела застаўся далёка ззаду, падганяючы адсталых. Круг трэба было зрабіць досыць вялікі, бо Маўглі не хацеў заўчасна набліжацца да яра, каб не спудзіць Шэр-Хана.

Нарэшце Маўглі дайшоў да пачатку яра і прыпыніў свой ашалелы статак на зялёнай палянцы, што стромка спускалася ў яр. Адсюль відаць былі верхавіны дрэў і ўвесь сухадол да самай раўніны. Маўглі глядзеў на бакі рова і з задавальненнем бачыў, што яны ўздымаюцца вельмі стромка і наўрад ці дадуць мажлівасць тыгру вылезці на верх.

— Дай ты ім перадыхнуць, Акела!—крыкнуў Маўглі, падняўшы руку.—Яны яго яшчэ не пачулі, хай крыху адпачнуць. Я сам скажу Шэр-Хану, што ён трапіў у пастку.

Ён прыставіў рукі да рота і крыкнуў у яр, нібы ў тунель—і рэха пакацілася ад скалы да скалы.

Праз некаторы час унізе пачуўся рык сытага, разбуджанага тыгра.

— Хто там крычыць?

— Гэта я, Маўглі! Час ужо ісці на Скалу Рады! Уніз гані іх, уніз, Акела! Уніз, Рама! Уніз!

Жывёлы крыху затрымаліся былі на беразе рова, але Маўглі выдаў гучны паляўнічы кліч, і буйвалы кінуліся адзін за адным уніз, нібы ўжо рушыліся, дык спыніць іх нішто не магло, і перш як яны спусціліся на дно рова, Рама ўжо пачуў Шэр-Хана і зароў.

— Ха-ха-ха!—смяяўся Маўглі, седзячы на спіне Рамы.—Цяпер ужо і ты ведаеш, у чым справа!

І паток чорных рагоў, пеністых морд і вылупленых вачэй бурна панёсся па цясніне, нібы хвалі ў паводку. Слабейшыя буйвалы былі адціснуты да бакоў і зашчэмлены ў зараснік. Ішла страшэнная атака буйвалаў, атака, супроць якой не ўтрымаецца аніводзін тыгр.

Шэр-Хан пачуў грамовы тупат капытаў, сціснуўся і пабег уніз па яры, пазіраючы направа і налева, каб знайсці выйсце. Але сцены рова былі гладкія, і тыгр, цяжкі ад ежы і вады, усё бег і бег далей, не жадаючы



ўступаць у бойку. Па дарозе ён плюхнуўся ў лужыну і зароў так, што ўся цясніна затрэслася. У адказ пачулася муканне з другога канца яра—і Шэр-Хан завярнуўся назад, бо палічыў за лепшае сустрэцца з быкамі, чымсь з каровамі, каля якіх знаходзяцца цяляты.

Потым Маўглі адчуў, як Рама спатыкнуўся, трапіў у нешта мяккае, а затым разам з усімі быкамі ўрэзаўся ў сустрэчны статак. Адбылася страшэнная сутычка, некаторых павыціскала ўверх, шмат каго пакалолі рагамі, патапталі—і ў такім стане статак выбег на раўніну.

— Хутчэй, Акела, паразганяй іх, а то яны пазабіваюць адзін аднаго! Адгані іх прэч, Акела! Гай, Рама, Гай, гай, дзеці мае! Лягчэй, лягчэй!

Акела і Шэры Брат кідаліся ва ўсе бакі, хапалі

буйвалаў за ногі, і хоць статак зноў пабег да яра, але Маўглі ўдалося завярнуць Раму, а за ім пабеглі і ўсе іншыя да балота.

Шэр-Хана ўжо не трэба было больш таптаць: ён быў скончаны, і ўжо каршуны пачалі злятацца да яго.

— Сабаку сабачая смерць!—прамовіў Маўглі, вымаючы нож, які заўсёды насіў з сабою з таго часу, як жыў з людзьмі.—Ды ён і не адважыўся-б біцца! Валла, валла. Яго скура будзе мець дасканалы выгляд на Скале Рады. Цяпер хутчэй за работу!

Хлопчык, які гадаваўся сярод людзей, нават і непадумаў-бы сам адзін здымаць скуру з такога вялізнага тыгра. Але Маўглі добра ведаў як прыладжана скура звера і як да яе даступіцца. Але-ж работа была нялёгкая, і Маўглі рэзаў, рваў і бурчэў цэлую гадзіну, пакуль ваўкі ляжалі, высунуўшы языкі, ці па яго загадзе падскоквалі і дапамагалі цягнуць скуру.

Раптам нечая рука лягла на плячо Маўглі. Ён азірнуўся і ўбачыў Бульдэа са стрэльбай. Пастушкі расказалі ў вёсцы пра паніку сярод буйвалаў і раз'юшаны Бульдэа прыбег пакараць за гэта Маўглі. Ваўкі, убачыўшы чалавека, зараз-жа зніклі з вачэй.

— Ці не звар'яцеў ты!—сярдзіта крыкнуў Бульдэа.—Ты думаеш, што здолееш зняць скуру з тыгра? Які буйвал забіў яго? Ды гэта-ж Кульгавы Тыгр, і за яго галаву прызначана сто рупій! У такім разе мы даруем табе, што ты не даглядзеў скаціны, і нават я табе дам адну рупію, калі атрымаю ўзнагароду за яго скуру ў Канхівары!

Ён знайшоў у кішэні крамень і крэсіва і нахіліўся, каб абсмаліць вусы Шэр-Хана, тамтэйшыя па-

ляўнікі заўсёды смаляць вусы тыгра, каб дух яго не праследваў іх потым.

— Вось які знайшоўся!—мармытаў Маўглі, здзіраючы скуру з нагі. Ты хочаш аднесці ў Канхівару, атрымаць грошы і, калі будзе твая ласка, мне дасі адну рупію? Дзякую, мне і самому патрэбна гэтая скура. Гэй, стары, хавай свой агонь!

— Як ты гаворыш з першым паляўнікам, шчанё? Толькі сляпая ўдача і буйвалы далі табе гэтую здабычу. Тыгр толькі што пад'еў, а то ён паспеў-бы ўцячы за гэты час на дваццаць міль. Ты нават не ўмееш скуры зняць, як трэба, а яшчэ адважваешся казаць, каб я не паліў яму вусоў! У такім разе я не дам табе аніводнага рупіі, а дам чосу. Ідзі прэч!

— Клянуся Быком, што выкупіў мяне!—раззлаваўся Маўглі.—Што-ж гэта стаяць мне тут ды балбатаць з старой малпай? Сюды Акела! Гэты чалавек чэпіцца да мяне!

Бульдэа стаў, схіліўшыся над галавой тыгра, а потым раптам апынуўся на траве пад вялізным шэрым ваўком. А Маўглі здымаў сабе скуру далей, нібы ён адзін быў ва ўсёй Індыі.

— Так,—мармытаў ён праз зубы,—ты, Бульдэа хацеў усё забраць сабе. Але паміж Кульгавым Тыграм і мной старыя спрэчкі—і я перамог!

Трэба сказаць, што гадкоў з дзесяць Бульдэа, пабароўся-б яшчэ з Акелам, калі-б сустрэў яго ў лесе. Але воўк, які слухаецца загадаў хлопчыка,— гэта ўжо не зусім звычайны звер. Апрача таго, хлопчык мае яшчэ нейкія асабістыя справы з тыграміперавертнямі.

„Гэта чараўніцтва, чары самага дрэннага гатунку!— думаў Бульдэа і нават страціў надзею на амулет, які вісеў у яго на шыі. Ён ляжаў нерухома і ўсё чакаў, што зараз і Маўгліператвернецца ў тыгра.

— Магараджа вялікі цар!—прамовіў ён нарэшце хрыпатым шэптам.

— Ну?—адгукнуўся Маўглі, не паварочваючы галавы і ўсміхаючыся.



— Я стары чалавек, я думаў, што ты прасты пастушок. Ці дазволіш ты мне ўстаць і пайсці, ці загадаеш свайму слузе разадраць мяне?

— Ідзі сабе спакойна. Але памятай, у другі раз не лезь не ў свае справы. Адпусці яго, Акела!

Бульдэа заклыпаў у вёску як мага хутчэй, увесь час азіраючыся, ці не абярнуўся Маўглі яшчэ ў нешта страшнае. У вёсцы ён расказаў вялікую гісто-

рыю пра чараўніцтва, закляцці, перавертняў, і падняў на ногі ўсю вёску на чале з жрацом.

Маўглі тымчасам завіхаўся ля тыгра і толькі пад вечар, з дапамогаю ваўкоў, аддзяліў пышную скуру ад мяса.

— Цяпер трэба гэта схаваць і адвесці буйвалаў дахаты. Памажы мне сабраць іх, Акела!

Калі ў туманным змроку гурт падышоў да вёскі, Маўглі ўбачыў агні і пачуў сігналы і званы ў храме. Каля ваколіцы яго чакала бадай што палова вёскі.

„Мусіць таму, што я забіў Шэр-Хана!"—падумаў Маўглі.

Але тут засвісцелі каля яго вушэй камені і пачуліся крыкі сялян:

— Чараўнік! Воўчы вырадак! Чорт з Джунгляў! Ідзі прэч! Ідзі хутчэй адсюль, а то жрэц зноў пераверне цябе ў ваўка! Страляй, Бульдэа, страляй!

Старая салдацкая стрэльба стрэліла з грукатам, і ў адказ пачулася жалабнае муканне маладога буйвала.

— Зноў чары!—закрычалі сяляне.—Ён умее замаўляць кулі! Бульдэа, гэта-ж твой буйвал!

— Што гэта такое?—здзівіўся Маўглі, калі зноў пасыпаліся камені.

— Але яны не лепшыя за нашу Зграю, гэтыя твае браты!—спакойна прамовіў Акела, усеўшыся на зямлі.— Калі кулі што-небудзь азначаюць, дык мне здаецца, што яны хочуць цябе прагнаць.

— Воўк, воўчае шчанё, ідзі прэч!—зароў жрэц, размахваючы галінай святога дрэва тульсы.

— Зноў? — прамовіў Маўглі. — Мінулы раз мяне прагналі за т ое, што я—чалавек, цяпер за тое, што я—воўк. Пойдзем, Акела!

Раптам жанчына—гэта была Месуа—кінулася да Маўглі з крыкамі:

— О, сын мой, сын мой! Яны кажуць, што ты чараўнік, які можа зрабіцца зверам. Я не даю гэтаму веры, але ідзі, ідзі адсюль, бо яны заб'юць цябе! Бульдэа кажа, што ты — чараўнік. Але я ведаю, што ты адпомсціў за смерць Нату!



— Назад, Месуа — зароў натоўп.—Назад, а то мы заб'ем цябе каменнямі!

Маўглі ні то крыкнуў, ні то засмяяўся—гэта камень трапіў яму ў рот...

— Бяжы назад, Месуа! Гэта адна з тых бязглуздых казак, якія расказваюць пад вялікім дрэвам у вячэрнім змроку. Я прынамсі адплаціў за смерць твайго сына! Бяжы хутчэй, бо я пушчу статак шпарчэй за іхнія кавалкі цэглы. Я не чараўнік, Месуа. Бывай! А ну, Акела, яшчэ разок пусці статак!

Буйвалы і без таго імкнуліся дахаты, а калі яшчэ Акела настрашыў іх, дык яны рынуліся ў вёску, як ураган, раскідаючы натоўп ва ўсе бакі.

— Падлічыце!—крыкнуў Маўглі з пагардай.—Можа я скраў якога-небудзь з іх. Падлічыце, бо я не буду больш служыць у вас за пастуха. Бывайце здаровыя, о, дзеці людзей, і падзякуйце Месуа за тое, што я не ўзяў з сабой ваўкоў і не пашкаматаў вас усіх!

Ён завярнуўся і пайшоў прэч з Адзінокім Ваўком, пазіраючы на зоркі і адчуваючы сябе шчаслівым.

— Больш мне не прыдзецца спаць у пастках, Акела! Возьмем



скуру Шэр-Хана і пойдзем. Не, я не хачу крыўдзіць вёску таму, што Месуа была да мяне добрая.

Калі месяц стаў над раўнінай і асвятліў яе малочна-белым святлом, сяляне ўбачылі, як Маўглі з нейкім скруткам на галаве і двума ваўкамі ззаду бяжыць спорным бегам ваўка ў бок Джунгляў. Тады яны яшчэ мацней зазванілі ў званы і затрубілі ў трубы. Месуа плакала, Бульдэа яшчэ больш размалёўваў свае апавяданне пра здарэнне ў Джунглях

і скончыў тым, як Акела нібы ўстаў на заднія лапы і загаварыў пачалавечаму. Месяц ўжо садзіўся, калі Маўглі і абодва ваўкі падышлі да ўзвышша Рады і спыніліся ў пячоры Маткі Ваўчыхі.

— Яны прагналі мяне з Чалавечай Зграі, Маці!— закрычаў Маўглі.—Але я выканаў свае слова і з'явіўся са скурай Шэр-Хана!

Маці Ваўчыха паціханьку выбралася з пячоры са сваімі ваўчанятамі, і вочы яе загарэліся, калі яна ўбачыла скуру.

— Я сказала яму ў той дзень, калі ён паляваў на цябе, о, Жабянё, і сунуў сваю галаву і плячо ў гэтую пячору,—я сказала яму, што паляўнік сам зробіцца тым, за кім палюе. Добра зроблена!

— Добра зроблена, Братка!—пачуўся і голас з пушчы.—Мы адчувалі сябе такімі самотнымі ў Джунглях без цябе. І Багіра падбегла да голых ног Маўглі.

Усе яны ўзышлі на Скалу Рады. Маўглі разаслаў скуру на плоскім каменні, дзе звычайна сядзеў Акела, і нават прымацаваў яе чатырма бамбукавымі калкамі. Акела разлёгся на скуры і выдаў старадаўні кліч Рады:

— Глядзіце, добра глядзіце, о Ваўкі!—акурат таксама, як тады, калі Маўглі ў першы раз прынеслі на Раду.

З таго часу, калі Акелу скінулі з пасады, Зграя засталася без правадыра і дзейнічала самастойна. Некаторыя з іх акалечыліся ў пастках, другія кульгалі ад ран наназе, трэція ашалудзівелі ад дрэннага харчавання, і шмат загінула. Але ўсе, хто засталіся, з'явіліся цяпер на Скалу Рады і ўбачылі паласатую скуру Шэр-Хана і яго вялізныя кіпці, якія целяпаліся на пустых лапах.

— Глядзіце добра, о Ваўкі, ці выканаў я свае слова?— прамовіў Маўглі.

І ваўкі загаўкалі: —Так!

А адзін аблезлы воўк завыў:

— Кіруй намі зноў, Акела! Вадзі нас зноў, о Чалавечае Дзіцянё, бо нам абрыдла жыць без Закону, і мы хочам быць зноў Вольным Племем!

— Не!—прамармытала Багіра.—Гэтага не будзе. Калі вы будзеце сытыя, дык зноў звар'яцееце.

— Чалавечая Зграя і Воўчая Зграя прагналі мяне,— сказаў Маўглі.—Цяпер я буду адзін паляваць у Джунглях!

— І мы будзем паляваць разам з табою!—дадалі чацвёра яго братоў.

Потым Маўглі ўскочыў на скуру Шэр-Хана і пачаў співаць пра тое, як ён жыў сярод людзей, як забіў Шэр-Хана, як людзі яго прагналі, і ён вярнуўся ў Джунглі, каб жыць сярод сваіх; і яшчэ співаў ён пра невядомыя пачуцці, якія раздвойваюць яго і пра невядомы сум, які ляжыць на яго сэрцы...

З таго часу Маўглі паляваў у Джунглях адзін з чатырма маладымі ваўкамі.





# НАВАЛА ДЖУНГЛЯЎ

Ля вашых ваколіц звяр'ё будзе выць,
Пад вашай страхою упыр будзе жыць,
Пад прыпечкам будзе змяя вартаваць,
А вашу жывёлу—ваўкі гадаваць.
Дружна ўзнімецца Джунгляў народ
І знішчыць ушчэнт ўвесь паганы ваш род.
А на засеяных вашых палетках
Вырастуць Джунгляў прыгожыя кветкі.

Песня-пагроза Маўглі сялянам.

Калі вы чыталі першыя апавяданні з кнігі Джунгляў, дык ведаеце, што Маўглі прымацаваў скуру Шэр-Хана да Скалы Рады і абвясціў ваўкам Сіанійскай Зграі, што ў далейшым ён будзе паляваць

адзін. Чацвёра-ж дзяцей Бацькі і Маткі Ваўкоў заявілі, што яны жадаюць паляваць разам з Маўглі.

Але не так лёгка адразу змяніць звыклае жыццё, асабліва ў Джунглях. Пасля таго, як Зграя Ваўкоў паразыходзілася хто куды, Маўглі пайшоў у родную пячору і праспаў цэлыя суткі. Потым ён расказаў Бацьку Ваўку і Матцы Ваўчысе ўсё, што яны маглі зразумець пра яго прыгоды сярод людзей. А калі ён пакруціў у руках свой нож, Ваўкі пераканаліся, што ён сапраўды сяму-таму навучыўся. Потым і Акела з Шэрым Братам павінны былі расказаць пра свой удзел у паляванні на Шэр-Хана. Балу з-пад гары прывалокся паслухаць расказы, а Багіра толькі чухалася ад задавальнення, слухаючы, як спрытна Маўглі вёў вайну з ворагам.

Сонца даўно ўжо ўзышло, але ніхто не думаў спаць. Маці-Ваўчыха час ад часу ўскідвала галаву і з асалодай сапла, калі ветрык даносіў да яе пах тыгравай скуры, што была разасланая на Скале Рады.

— Але без Акелы і Шэрага Брата,—скончыў Маўглі,—я нічога не зрабіў-бы. О, Маці, Маці, варта было-б табе паглядзець на сініх быкоў, як яны кідаліся ў яр, ці прарываліся ў ваколіцу, калі Чалавечая Зграя кідала ў мяне каменнямі!

— Я задаволена, што не бачыла апошняга,—панура адказала Маці Ваўчыха.—Я не прывыкла спакойна глядзець, як маіх дзяцей ганяюць узад і ўперад, нібы шакалаў якіх. Я-б адпомсціла Чалавечай Зграі, але пашкадавала-б жанчыну, якая карміла цябе малаком. Так, толькі яе адну я памілавала-б.

— Годзе, годзе, Ракша!—прамовіў Бацька Воўк.— Наша Жабянё вярнулася, ды такім мудрым, што і ўласнаму бацьку не сорамна лізаць яму ногі. Што за бяда, калі ў яго на галаве застанецца адзін-другі шрам? А Чалавека ты не чапай!

Маўглі прытуліўся галавой да Маткі Ваўчыхі, самазадаволена ўсміхнуўся і абвясціў, што з свайго боку ён не мае аніякай ахвоты другі раз бачыць, чуць ці адчуваць пах Чалавека.

Але Акела, натапырыўшы вуха, сказаў:

— А што, калі людзі так не пакінуць цябе, Братка?

— Ды нас жа-ж пяцёра!—сказаў Шэры Брат, зірнуўшы на кампанію і ляснуўшы зубамі.

— Ды і мы не супроць такога палявання,—дадала Багіра, крутнуўшы хвастом і зірнуўшы на Балу.—Але чаму ты ўспомніў пра Чалавека акурат цяпер, Акела?

— Вось чаму,—адказаў Адзінокі Воўк.—Пасля таго як скуру гэтага жоўтага злодзея расклалі на Скале, я пабег па нашых слядах к вёсцы. Па дарозе я заварочваў у бакі, клаўся і ўсяляк стараўся заблытаць сляды на той выпадак, калі людзі надумаюцца праследваць нас. І вось, калі я ўжо заблытаў сляды так, што і самому цяжка было разабраць,—уверсе мільгануў Упыр-Манг і спыніўся над маёй галавой: „Слухай,—сказаў ён мне.—Вёска Чалавечай Зграі, выгнаўшы Чалавечае Дзіцянё, гудзе, як гняздо шаршанёў“.

— Так, я кінуў туды добры каменьчык!—засмяяўся Маўглі, успомніўшы, як калісьці забаўляўся,

кідаючы ў гнёзды шаршанёў плады дынявага дрэва папайі, а потым ратаваўся ад іх у сажалцы.

— Я спытаўся Манга, а што такое ён там бачыў. Манг кажа, што Чырвоная Кветка расцвіла ў ваколіцы, а людзі сядзяць навакол са стрэльбамі. Але я ведаю вельмі добры,—і Акела скоса зірнуў на старыя шрамы, што былі на яго баках,—што людзі носяць з сабой стрэльбы не для забавы. Цяпер, Братка, Чалавек са стрэльбай шукае наш след, калі ўжо не знайшоў яго.



— Але навошта яму гэта? Людзі прагналі мяне—чаго ім яшчэ трэба?—гнеўна крыкнуў Маўглі.

— Ты—Чалавек, Братка,—сказаў Акела,—і не нам, вольным паляўнікам, тлумачыць табе, што робяць твае браты, ці навошта...

Акела ледзь паспеў адсунуць лапу, як бліскучае лязо глыбока ўтыкнулася ў зямлю: Маўглі кінуў нож так хутка, што чалавечае вока наўрад ці магло-б заўважыць гэты рух. Але Акела [быў воўк. А вядома, што нават сабака, досыць далёкі сваяк свайго продка, дзікага ваўка, паспявае прачнуцца ад самага глыбокага сну і адскочыць прэч з дарогі, калі кола павозкі ледзь дакранецца да яго.

— У другі раз,—прамовіў Маўглі, спакойна ўсоў-

ваючы нос у похву,—кажы пра Чалавечую Зграю і пра Маўглі паасобна, а не разам!

— Фррр... Гэта будзе крыху вастрэй за зуб!— заўважыў Акела, абнюхваючы след ад нажа.—Але ты папсаваў свае вочы, жывучы ў Чалавечай Зграі, Браток. Пакуль ты размахваўся, я паспеў-бы забіць аленя.

Раптам Багіра ўсхапілася на ногі, выцягнула шыю, порскнула і замерла на месцы. Шэры Брат таксама ўсхапіўся і пасунуўся крыху налева, каб схапіць вецер, што дзьмуў справа, а Акела дык нават праскакаў метраў з дваццаць насустрач ветру і там спыніўся, натапырыўшыся.

Маўглі з зайздрасцю глядзеў на іх. Нюх у яго быў вастрэйшы за ўсіх людзей, але такога нюху, які мелі жыхары Джунгляў, Маўглі ніяк не мог развіць у сабе, а за тры месяцы жыцця ў дымнай вёсцы ён яшчэ больш адстаў ад сваіх таварышоў.

— Чалавек!—рыкнуў Акела, прысеўшы на заднія лапы.

— Бульдэа!—дадаў Маўглі,—сядаючы на свае месца.—Ён ідзе па нашых слядах. А вунь і сонейка зіхаціць на ягонай стрэльбе. Глядзіце!

Водблеск сонца на нязначную долю секунды затрымаўся на мядзянай клямцы старога мушкета, але ў Джунглях і гэтага бывае досыць, каб распазнаць рэчы.

— Я ведаў, што людзі прыйдуць па цябе!—прамовіў Акела.—Нездарма-ж я быў правадыром Зграі!

Чацвёра братоў Маўглі не сказалі ні слова, але папаўзлі з гары на жываце, цалкам хаваючыся ў шыпшынніку.

— Куды ідзеце без загаду?—гукнуў Маўглі.

— Ш... шш!... Мы прыкоцім табе яго чэрап яшчэ да поўдня,—адказаў Шэры Брат.

— Назад! Назад і чакайце загаду! Чалавек не есць Чалавека!—закрычаў Маўглі.

— А хто гэта нядаўна абвясціў сябе ваўком?

— Хто запусціў у мяне нажом, калі я выказаў думку, што ён—Чалавек?—дадаў Акела.

Тымчасам чацвёра ваўчанят з неахвотай вараціліся вазад і прыселі на карачкі.

— Ці не хочаце вы, каб я даваў вам справаздачу ў сваіх учынках?—крыкнуў раз'юшаны Маўглі.

— Вось гэта Чалавек! Гэта гаворыць Чалавек!—прамармытала Багіра.—Якраз так казалі людзі каля клетак у Удэйпуры. Мы, жыхары Джунгляў, ведаем, што чалавек—разумнейшае стварэнне. А каб мы даверыліся свайму розуму—ён здаўся-б нам дурнейшым ад усіх.—Потым голасна пантэра абвясціла:—Чалавечае Дзіцянё мае рацыю. Людзі палююць зграямі. Калі заб'ем аднаго з іх, не ведаючы, што надумаліся рабіць іншыя—гэта будзе дрэннае паляванне. Давайце лепш разведаем, што думае рабіць гэты чалавек.

— Мы не пойдзем!—буркнуў Шэры Брат.—Палюй адзін, Братка. Сваю справу мы ведаем—чэрап ужо цяпер быў-бы ля тваіх ног...

Грудзі Маўглі закалыхаліся, вочы яго напоўніліся слязьмі. Ён паглядзеў на кожнага з сваіх прыяцеляў паасобку, ступіў наперад і стаў на адно калена.

— Значыцца, я не ведаю сваёй справы?—прамовіў ён.—Паглядзіце на мяне!



Ваўкі неахвотна паднялі галовы і ўсё імкнуліся глядзець міма. Але Маўглі, настойліва гукаў іх і пільна глядзеў ім у вочы. Нарэшце поўсць іх узнялася дыбам, і па ўсім целе пайшлі дрыжыкі.

— Ну?—прамовіў Маўглі.—Хто з нас пяцёрых правадыр?

— Ты нас вядзеш, Братка!—адказаў Шэры Брат і пачаў лізаць Маўглі ногі.

— Калі так, ідзіце за мной!—скамандваў Маўглі і чатыры Воўкі, апусціўшы хвасты, пакорна пайшлі за ім.

— Вось што знача пажыць у Чалавечай Зграі!—прамовіла Багіра, шкандыбачы ўслед.—Цяпер у Джунглях пануе не адзін толькі Закон Джунгляў, Балу.

Стары мядзведзь нічога не адказаў, але падумаў шмат аб чым.

Калі вы памятаеце, Маўглі пакінуў вёску з цяжкай ношай, са свежай скурай Шэр-Хана на плячах.



Ад гэтага сляды Маўглі моцна ўціскаліся ў зямлю. А тут яшчэ Акела і Шэры Брат беглі за ім—і такім чынам сляды ад іх усіх засталіся вельмі выразнымі.

Цяпер Бульдэа дайшоў да таго месца, дзе Акела, як вам вядома, вярнуўся назад і заблытаў сляды. Тут Бульдэа сеў, закашляўся, пачаў бурчэць і азірацца, шукаючы следу, а тымчасам ён лёгка мог трапіць каменем у тых звяроў, якіх ён шукаў і якія цяпер назіралі яго. Няма звера, які так падкрадваецца, як воўк, калі ён не жадае, каб яго пачулі. Нават Маўглі пасоўваўся як цень, хоць ваўкі яго лічылі вельмі нязграбным.

Яны атачылі старога, як дэльфіны параход у моры, і разам з тым бясклопатна балбаталі паміж сабой, бо мова жывёл ідзе ў тых нізкіх тонах гамы, якія не ўспрымаюцца чалавечым вухам (а Манг-Упыр, птушкі кажаны і казюлькі, наадварот,—размаўляюць у самых высокіх тонах, але зноў-жа за той мяжой, за якой чалавечае вуха не ўспрымае гукаў).

— Гэта нават будзе цікавей, як забіваць яго,— сказаў Шэры Брат, пазіраючы, як Бульдэа пнуўся знайсці след і злосна мармытаў.—Ён падобны да свінні, якая заблукалася ў Джунглях ля ракі. Але што ён гавора?

Маўглі пераклаў:

— Ён кажа, што, мусіць, зграі ваўкоў скакалі вакол мяне. Ён кажа, што ніколі ў жыцці не бачыў такога следу! Ён кажа, што змарыўся ўжо.

— Ён паспее яшчэ і адпачыць, пакуль знойдзе след,—насмешліва сказала Багіра.—Ну, а што цяпер робіць гэты заморак?

— Ні то есць, ні то выпускае дым з рота. Людзі часта робяць такую гульню,—адказаў Маўглі.

Звяры з цікавасцю паглядалі, як стары напхаў у люльку тытуну, запаліў і пачаў пыхкаць. Яны добра прыкмецілі пах тытуну, каб потым, калі трэба будзе, пазнаць Бульдэа хоць у самую цёмную ноч.

На сцежку вышла група вугальшчыкаў. Вядома, яны спыніліся, каб пагутарыць з Бульдэа, славутым паляўнікам, якога ўсе ведалі прынамсі на дваццаць міль навакол. Паселі вакол яго, таксама запалілі люлькі.

Звяры пасунуліся бліжэй, каб лепш прыгледзецца да людзей. Бульдэа пачаў расказваць з пачатку да канца гісторыю пра Маўглі-перавертня, не шкадуючы выдумак. Ён расказаў, як ён забіў Шэр-Хана, як Маўглі перавярнуўся ў воўка і біўся з ім да самага вечара, а потым зноў перавярнуўся ў хлопчыка і зачараваў стрэльбу Бульдэа; куля абышла вакол Маўглі, у якога ён цаляў, і трапіла ў аднаго з буйвалаў Бульдэа.



Расказаў, што вёска паслала яго, як самага смелага паляўнічага ў Сіанійскіх горах, забіць гэтага „сына д'ябла“. „Сяляне схапілі Месуа і яе мужа—гэта, безумоўна, бацькі пераваертня—заперлі іх у іхняй уласнай хаце і хутка будуць іх катаваць. Іх прымусяць прызнацца ў тым, што яны—чараўнікі, а потым іх спаляць на агні.

— Калі гэта будзе?—спыталіся вугальшчыкі, якім вельмі захацелася паглядзець на гэтае відовішча.

Бульдэа сказаў, што пакуль ён не вернецца, палоннікаў не будуць чапаць, бо вёска хоча, каб ён раней забіў хлопчыка з Джунгляў. Пасля таго яны скончаць з Месуа і яе мужам і падзеляць паміж сабой іхнюю зямлю і буйвалаў. А трэба сказаць, што ў іх адмысловыя буйвалы! Па думцы Бульдэа, забіваць чараўнікоў—святая справа. А людзі, якія даюць прытулак воўчым гадаванцам,—вядома, самыя небяспечныя чараўнікі!

— Ну, а калі пра гэта дазнаюцца ангельцы?— сказалі вугальшчыкі.—Ангельцы-ж нейкія недарэчныя людзі не дазваляюць самавольна забіваць чараўнікоў.

— Ну што-ж,—адказаў Бульдэа,—наш старшыня паведаміць, што Месуа і яе муж памерлі ад укусу змяі. Гэта загадзя абмеркавалі, а цяпер застаецца толькі забіць ваўчаня. Ці не сустракалі вы тут такога стварэння?

Вугальшчыкі зірнулі адзін на аднаго і падзякавалі свой лёс, што не давялося сустрэць страшыдла. Але яны былі ўпэўнены, што такі адважны мужчына, як Бульдэа, знойдзе і знішчыць яго.

Быў поўдзень і вугальшчыкам прыйшло ў га-

лаву сходзіць у вёску і зірнуць на страшную вядзьмарку. Бульдэа абвясціў, што хоць ён мае даручэнне забіць перавертня, але не можа дапусціць, каб бяззбройныя людзі адны ішлі па Джунглях, дзе кожную хвіліну можа з'явіцца Воўк-Пераверацень. Бульдэа праводзіць іх, і калі з'явіцца сын чараўніка—ого! ён пакажа ім, як расправуляецца з чараўніком лепшы паляўнічы ў горах Сіанійскіх! Апрача таго, брамін даў яму амулет супроць гэтага стварэння.

— Што ён гаворыць? Што ён гаворыць? Што ён гаворыць—безупынна пыталіся ваўкі, і Маўглі перакладваў ім словы Бульдэа, пакуль не дайшоў да апавядання пра вядзьмарку. Тут ён і сам не зразумеў, у чым справа, ён толькі сказаў ваўкам, што жанчыну і мужчыну, якія далі прытулак Маўглі,—засадзілі ў пастку.

— Ці-ж людзі ловяць людзей?—здзівіўся Шэры Брат.

— Так ён кажа. Я не зусім добра разумею яго словы. Яны ўсе звар'яцелі! Не разумею, якое дачыненне Месуа і яе муж маюць да мяне, каб садзіць іх у пастку, і да чаго ўся гэтая гутарка пра Чырвоную Кветку. Трэба даведацца, у чым справа! У кожным разе да прыходу Бульдэа яны нічога не зробяць Месуа і значыцца...—Маўглі задумаўся, барабанячы пальцамі па сваім нажы, а тымчасам Бульдэа і вугальшчыкі адзін за адным адважна рушыліся па сцежцы.

— Я бягу да Чалавечай Зграі!—прамовіў, нарэшце, Маўглі.

— А што рабіць з гэтымі?—спытаўся Шэры Брат, утаропіўшы квапныя вочы ў бурыя спіны вугальшчыкаў.

— Напалохай іх сваім спевам!—сказаў з усмешкай Маўглі—Я не хачу, каб яны былі ў вёсцы да-цямна. Ці здолееце вы затрымаць іх?

Шэры Брат зняважліва вышчарыўся і сказаў:

— Мы іх прымусім кружыцца, як казу на вяроўцы!

— Вось гэта мне і трэба. Вы спойце ім песню, каб яны не адчувалі сябе адзінокімі ў лесе. Няма патрэбы, каб песня гэта была пяшчотная... І ты, Багіра, ідзі з імі і дапамажы спяваць. Калі-ж прыйдзе ноч, сустракайце мяне ля вёскі; Шэры Брат ведае гэтае месца.

— Нялёгкая справа—пракладваць сляды Чалавечаму Дзіцяці! Калі-ж я спаць пайду?—зяхнула Багіра, але сама зацікавілася такой забавай.—Каб мне, ды спяваць голым людзям? Але-ж паспрабуем...

Пантэра схіліла галаву і выдала доўгі працяглы кліч: „Добрага Палявання!“ Палуначны кліч, ды ўдзень, быў досыць жудасны. Ён загрымеў, узняўся, потым знізіўся і скончыўся сковытам.

Маўглі ўсміхнуўся. Ён убачыў, як вугольшчыкі збіліся ў гурт, а стрэльба Бульдэа захісталася, як бананавы ліст ад ветру.



Тады Шэры Брат выдаў кліч— я-ля-хі, я-ля-ха— які воўчая зграя выгукае, калі гоніцца за нільгаем, вялізнай сіняй каровай. Кліч, зда-



валася, выходзіў з усіх пунктаў Джунгляў, усё набліжаўся, набліжаўся і, нарэшце, абарваўся рэзкім выкрыкам. Далучыліся і астатнія тры ваўкі—і Маўглі гатоў быў паверыць, што вые ўся Зграя!

Увесь гэты канцэрт закончыўся дасканалай раніншняй песняй Джунгляў з усімі выкрунтасамі, на якія толькі здатны гарласты воўк.

Вось вольны пераклад гэтай песні—уявіце сабе, як павінна была яна гучэць сярод поўдзённай цішыні Джунгляў!

У поўдзённы час сярод раўнін
не заўважыш цень.
Цяпер-жа там пануе ноч,
а ў сэрцы—ясны дзень.
Для нас і ціша навакол—
адзін вясёлы звон.
Час добры будзе ў Джунглях тым,
шануе хто Закон!
Вось забялеўся небасхіл,
блішчыць расою луг.

Вось свежы ветрык наляцеў,
заварушыў бамбук.
Паразыходзіўся туман—
і сонца шле прамень.
Хутчэй ў мярлогі, бо ідзе
Для Чалавека дзень!

Вось сонца ўзнялося ўгору
і сушыць мокры луг.
Валы запражаны ў ярмо
і цягнуць цяжкі плуг.
У лясных таемных гушчарох
ідзе салодкі сон.
Той добра ў Джунглях адпачне,
шануе хто Закон!

Уражанне ад спеву было надзвычайнае. Людзі кінуліся ратавацца на дрэвы, а Бульдэа замармытаў свае заклінанні ды замовы.



Пакуль людзі сядзелі на дрэвах, ваўкі паляглі і паснулі. Як і ўсе, каму даводзіцца жыць уласным розумам, звяры прывыклі да правільнага парадку жыцця. Ніводнае жывое стварэнне не можа добра працаваць, не паспаўшы.

Тымчасам Маўглі бег з хуткасцю дзевяці міль у гадзіну. Ён адчуваў, што месяц зняволення сярод

людзей яшчэ не пазбавіў яго сілы. Адна толькі думка была ў яго—вызваліць Месуа і яе мужа з пасткі, якая-б яна ні была; ён адчуваў варожасць і агіду да ўсялякіх пастак. А пасля таго ён парашыў пақвітацца з усёй вёскай,

Находзіў змрок, калі ён вышаў на знаёмую яму пашу і ўбачыў дакавае дрэва, дзе чакаў яго Шэры Брат перад забойствам Шэр-Хана. Хоць і вельмі злаваў Маўглі на ўсё чалавечае племя, але, убачыўшы вясковыя стрэхі, ён адчуў, нібы нешта сціснула грудзі і заказытала ў горле. Ён заўважыў, што сёння сяляне вярнуліся з поля раней, як звычайна, і заместа таго, каб рыхтаваць сабе вячэру, сабраліся натоўпам пад грамадскім дрэвам, балакалі і крычалі.

— Людзі абавязкова павінны ставіць пасткі адзін аднаму, а то без гэтага яны ніяк не могуць супакоіцца,—сказаў сам сабе Маўглі.—Дзве ночы назад лавілі Маўглі—хоць мне здаецца, што з той ночы мінула многа дажджоў!—сёння ўжо Месуа і яе мужа, а заўтра ці праз некалькі начэй зноў прыйдзе чарга Маўглі...

Маўглі прайшоў па-за хатамі, падкраўся да халупы Месуа і зірнуў у акно. На падлозе ляжала Месуа са звязанымі рукамі і нагамі. Рот яе быў заткнуты, яна цяжка дыхала і енчыла. Муж яе быў прывязаны да размалёванага ложку. Дзверы, якія выходзілі на вуліцу, былі шчыльна зачынены, і каля іх сядзела тры ці чатыры чалавекі.

Маўглі добра ведаў звычкі сялян. Ён разважаў, што пакуль яны ядуць, балбочуць ды кураць, яны нічога не будуць рабіць, але як толькі наядуцца, то

будуць небяспечныя. Бульдэа не скора прыйдзе, і калі ваўкі добра выканалі сваю задачу, дык стары будзе мець новы запас цікавейшых баек.

Маўглі ўлез у акно. Ён схіліўся над мужчынай, разрэзаў рамні, выцягнуў затычкі з рота і пачаў шукаць у хаце малака. Месуа ад здзіўлення пэўна крыкнула-б, калі-б Маўглі не паспеў закрыць ёй рукою рот. Яна дрыжала ад страху і болю, бо ўсю раніцу яе білі і закідвалі каменнямі. Муж яе быў толькі ашаломлены і раз'юшаны. Ён сеў і пачаў ачышчаць сваю ўзлахмачаную бараду ад усякага смецця.

— Я ведала, я ведала, што ён вернецца!—сказала, нарэшце, Месуа.—Цяпер я ведаю, што ён мой сын!..

І яна прытуліла Маўглі да свайго сэрца. Да гэтага часу ён быў зусім спакойны, а цяпер чамусьці пачаў дрыжаць усім целам, і гэта вельмі дзівіла яго.

— Навошта гэтыя рамні, завошта цябе звязалі?— спытаўся ён праз некаторы час.

— Хочуць забіць мяне за тое, што яна прызнала цябе за сына—завошта-ж яшчэ?—груба сказаў мужчына.—Глядзі, я ўвесь у крыві!

Месуа маўчала, але Маўглі і на ёй ўбачыў кроў. Ён заскрыгатаў зубамі і спытаўся:

— Хто гэта зрабіў? Я адплачу.

— Гэта работа ўсёй вёскі. Я быў больш багаты, у мяне было вельмі многа скаціны—таму мы з ёй і чараўнікі... А мы далі табе прытулак!

— Я не разумею, хай раскажа Месуа.

— Я давала табе малака, Нату; няўжо-ж ты не памятаеш?—баязліва прамовіла Месуа.—Усе гэтыя здзекі за тое, што ты мой сын, якога схапіў тыгр,

-за тое, што я люблю цябе ад усяго сэрца. Яны ка жуць, што я твая маці—маці д'ябла, і таму падлягаю смерці.

— А што такое д'ябал?—спытаўся Маўглі.—Смерць я ўжо бачыў.

Мужчына пахмура паглядзеў з-пад ілба, а Месуа засмяялася.

— Глядзі!—звярнулася яна да мужа.—Я-ж ведала, я-ж казала, што ён не чараўнік. Ён сын, ён мой сын!

— Сын ці чараўнік, а нам ад гэтага не лепей,—адказаў мужчына.—Мы ўсёроўна павінны загінуць!

— Вунь дарога праз Джунглі!—і Маўглі паказаў у акно.—Рукі і ногі вашы вольныя—ідзіце!

— Мы не ведаем Джунгляў так... так, як ты іх ведаеш,—пачала Месуа. Не думаю, каб у мяне хапіла моцы доўга ісці...

— А людзі пагоняцца за намі і прывалакуць назад,—дадаў муж.

— Гм...—задумаўся Маўглі, скробаючы далонь кон чыкам нажа.—Пакуль што я не хацеў-бы рабіць шкоды каму-небудзь з гэтай вёскі. Але не думаю, каб яны маглі затрымаць вас. Праз некаторы час ім прыдзецца думаць зусім аб іншым. Ага!—Маўглі падняў галаву і прыслухаўся да крыку і тупату, які чуўся на вуліцы.—Значыцца Бульдэа ўсё-ж такі вярнуўся!

— Яго паслалі сёння раніцою забіць цябе!—сказала Месуа.

— Ці ты сустрэў яго?

— Так, мы... я спаткаў яго. У яго ёсць пра што расказаць. А пакуль ён будзе расказваць, мы паспеем шмат чаго зрабіць. Але я хачу спачатку даведацца,

што яны мяркуюць рабіць. Падумайце, куды вам ісці, а калі я вярнуся, скажаце.

Маўглі выскачыў праз акно, зноў пабег па-за хатамі і наблізіўся да натоўпу, які сабраўся вакол дрэва „піпул“. Бульдэа ляжаў на зямлі, кашляў і войкаў, а людзі так і сыпалі запытанні. Валасы ў старога раскудлаціліся, рукі і ногі былі абадраныя ад лазання па дрэвах, але ён адчуваў важнасць свайго становішча і пачаў расказваць. Ён казаў пра „д'яблаў, якія спяваюць“, пра „чараўніцтва“ і калі падышоў ужо да самых падзей, то прыпыніўся і папрасіў вады.

— Ну, балбачы, балбачы!—сказаў сам сабе Маўглі.— Сапраўды, людзі—родныя браты Бандар-Лога. Цяпер ён захацеў памыць рот вадою; а то яму трэба пускаць дым; і толькі прарабіўшы ўсё гэта, ён пачне расказваць сваю аповесць. Ды і розум у гэтых людзей: яны і не думаюць пільнаваць Месуа, пакуль Бульдэа будзе частаваць іх сваёй балбатнёй. Але-ж, здаецца, і я раблюся такім самым нядбалым, як і яны.

Маўглі ўсхапіўся і пабег назад да вязняў. Калі ён нарыхтаваўся ўжо лезьці ў акно, то адчуў, што нехта дакрануўся да яго нагі.

— Маці!—здзівіўся ён, пазнаўшы яе шурпаты язык.

— Што ты тут робіш?

— Я пачула пяянне маіх дзяцей па лясах і пайшла да таго, каго я люблю больш за ўсіх. Жабянё, я хачу зірнуць на жанчыну, якая карміла цябе малаком,— сказала Маці Ваўчыха, мокрая ад расы.

— Яны яе звязалі і збіраюцца загубіць. Я разрэзаў яе путы, і яна пойдзе са сваім мужам у Джунглі.

— Я буду праваджаць іх. Хоць я і старая, але яшчэ не бяззубая.

Маці Ваўчыха стала на заднія ногі і глянула праз акно ў цёмную хату. Праз хвіліну яна апусцілася і ціха прамовіла.

— Я першая карміла цябе малаком. Але праўду казала Багіра: Чалавек нарэшце ўсё-ж такі ідзе да Чалавека...

— Магчыма,—прамовіў Маўглі з выразным незадавальненнем,—але ў гэтую ноч я вельмі далёка ад гэтага следу. Пачакай тут, але глядзі, каб яна цябе не заўважыла!

— Мяне ты ніколі ні баяўся, Жабянё!—сказала Маці Ваўчыха і схавалася ў высокай траве.

— Ну!—весела сказаў Маўглі, улезшы ў хату.— Яны ўсе сабраліся вакол Бульдэа, які расказвае розныя байкі. Калі ён скончыць апавяданне, яны хочуць прыйсці сюды з Чырвонай... з агнём, каб спаліць вас абодвух. Што скажаш?

— Я гаварыла з мужам,—адказала Месуа.—Да Канхівары адсюль трыццаць міль, у Канхівары мы можам знайсці ангельцаў.

— А з якой яны Зграі?—пацікавіўся Маўглі.

— Не ведаю, яны белыя. Кажуць, яны кіруюць усёй краінай і не дазваляюць людзям паліць ці забіваць адзін аднаго без сведкаў. Калі мы дабярэмся туды за ноч, мы выратаваныя. Калі не, дык загінем.

— Можаце ісці спакойна: аніводзін чалавек не выйдзе сёння за ваколіцу. Але што ён робіць?

Муж Месуа прысеў на карачкі, і капаўся ў зямлі ў куту хаты.

— Ён забірае грошы,—сказала Месуа.—Нічога іншага мы не можам узяць з сабой.

— А, гэта тая штука, што пераходзіць з рук у рукі і не награецца? Няўжо-ж яна патрэбная ў іншых месцах?—здзівіўся Маўглі.



Мужчына пахмура ўтаропіўся ў яго.

— Ён дурань, а не д‘ябал!—прамармытаў ён. — За грошы я магу купіць каня! Мы надта змучаныя, каб ісці далёка пешшу, а вёска праз гадзіну пагоніцца за намі.

— Я кажу: яны не пагоняцца, калі я гэтага не захачу. Але пра каня ты дарэчы падумаў, бо Месуа знясіленая.

Мужчына ўстаў і завязаў свае рупіі ў пояс. Маўглі дапамог Месуа выбрацца праз акно, і халоднае начное паветра асвяжыла яе. Але Джунглі пры святле зорак здаваліся суровымі і страшнымі.

— Вы ведаеце след у Канхівару?—шапнуў Маўглі. Яны кіўнулі галавой.

— Добра. Памятайце-ж, што вам не трэба баяцца і няма патрэбы надта спяшацца. Можа толькі паперадзе і ззаду ад вас пачуеце лёгкае пянне...

— Няўжо-ж ты думаеш, што мы рызыкнулі-б пайсці ўначы ў Джунглі, калі-б нам не пагражаў касцёр? Лепш загінуць ад звера, як ад людзей!—сказаў муж

Месуа, а Месуа толькі паглядзела на Маўглі і ўсміхнулася.

— Я кажу,—працягваў Маўглі такім тонам, якім калісьці Балу соты раз паўтараў Закон Джунгляў няўважліваму шчаняці,—я кажу, што ніводзін зуб у Джунглях не нарыхтуецца супроць вас; ніводная нага ў Джунглях не падымецца на вас. Ні чалавек, ні звер не затрымаюць вас, пакуль вы не ўбачыце Канхівары. За вамі будзе нагляд! Маўглі шпарка павярнуўся да Месуа і дадаў:

— Ён не дае мне веры. Але-ж ты вeрыш?

— О веру, сын мой! Ці ты чалавек, ці дух або воўк з Джунгляў—я веру!

— Ён перапалохаецца, калі пачуе пяянне маіх братоў, але ты зразумееш. Ідзі-ж і не спяшайся, бо ў гэтым няма ніякай патрэбы. Ваколіца моцна зачынена!

Месуа з плачам павалілася к нагам Маўглі, але ён спрытна падняў яе і зноў затросся ўсім целам. Яна ахапіла яго шыю і называла самымі ласкавымі словамі, якія толькі магла прыдумаць.

А муж яе з зайздрасцю глядзеў на палі і казаў:

— Калі мы дабярэмся да Канхівары, я распачну такі працэс супроць браміна, старога Бульдэа і іншых, што зруйнуюць усю вёску ўшчэнт. З гакам заплоцяць яны мне за мае палі і галодных буйвалаў. Я дайду правасуддзя!

Маўглі засмяяўся:

— Не ведаю, што такое правасуддзе. Але прыйдзі сюды ў наступны дажджлівы сезон—і ўбачыш, што застанецца.

Яны накіраваліся ў Джунглі. МаціВаўчыха выскачыла з сваёй засады.

— Ідзі за імі,—сказаў Маўглі,—глядзі, каб усе Джунглі, ведалі, што гэтых двух чапаць нельга. Гукні Багіру.

Даўгі, працяглы вый узняўся і ўпаў. Маўглі бачыў,



як муж Месуі ірвануўся, каб бегчы назад у сваю хату.

— Ідзіце наперад!—весела крыкнуў Маўглі.—Я-ж казаў вам, што вы пачуеце пяянне. Яно будзе праваджаць вас да Канхівары. Гэтае пяянне—Ласка Джунгляў.

Месуа ўгаварыла мужа ісці наперад. Калі цемра праглынула іх і Маці Ваўчыху, каля ног Маўглі нібы з-пад зямлі з'явілася Багіра. Яна дрыжэла ад захаплення, якое адчуваюць звяры ўначы.

— Мне сорамна тваіх Братоў!—муркнула яна.

— Ці-ж яны дрэнна спявалі для Бульдэа?—спытаўся Маўглі.

— Вельмі добра! Надта добра! Але яны прымусілі і мяне забыцца на мой гонар. Клянуся Зломаным Замком, што вызваліў мяне, я спявала на ўсе Джунглі, нібы самец перад самкай увесну. Ці чуў ты нас?

— У мяне была другая дзічына. Спытайся Бульдэаі ці спадабалася яму ваша песня. Але дзе-ж Чацвёра? Я хачу, каб ніхто з Чалавечай Зграі не вышаў за ваколіцу ў гэтую ноч.

— Навошта табе Чацвёра?—сказала Багіра, пераступаючы нагамі, паблісквающы вачыма і муркаючы гучней, як звычайна. Я прытрымаю іх, Браток. Ці не будзе, нарэшце, бойкі? Гэтае пяянне і выгляд людзей, што караскаліся на дрэвы, надта скалапнулі мяне. Хто такі Чалавек, каб нам клапаціцца аб ім, аб гэтым голым, бурым, бяззубым стварэнні, што калупаецца ў зямлі? Я ішла за ім увесь дзень, нават у поўдзень пры яркім сонечным святле. Я гнала яго, як ваўкі гоняць аленя. Я—Багіра, Багіра, Багіра! Я гуляла з гэтымі людзьмі, як гуляю з сваім ценем. Глядзі!

Вялізная пантэра падскочыла, нібы малое кацянё, перакінулася ў паветры з магутнымі ўзмахамі лап, потым ціха апусцілася на зямлю і зноў заскакала і забуркала, нібы пара ў катле:

— Я Багіра, я ў Джунглях—цяпер ноч, і ўся мая моц са мною. Хто стрымае мой удар? Чалавечае Дзіцянё, адным ударам маёй лапы я магу сплюшчыць тваю галаву, як жабу ў летні дзень!

— Ну, што-ж, бі!—сказаў Маўглі на чалавечай мове.

Пачуўшы чалавечыя словы, Багіра спынілася, адкінулася назад на задніх лапах і задрыжала, трымаючы сваю галаву супроць твара Маўглі. Маўглі-ж пільна глядзеў у яе зялёныя вочы, як раней глядзеў у вочы мяцежных ваўчанят.

І вось у зялёных вачах запаліўся чырвоны агоньчык, падобны да святла маяка, які знаходзіцца за дваццаць міль. Нарэшце вочы апусціліся, а з імі і вялізная галава, усё ніжэй, ніжэй—і шурпаты чырвоны язык дакрануўся да нагі Маўглі.

— Сястра, сястра, сястра!—прашаптаў хлопчык і пяшчотна пачаў гладзіць спіну і шыю пантэры.— Супакойся, супакойся; у гэтым вінаватая ноч, гэта не твая віна.

— Гэтыя начныя пахі!—уздыхнула Багіра.—Гэтае паветра крычыць, моцна крычыць ува мне. Але скуль ты гэта ведаеш?

Вядома, паветра вакол вёскі насычана ўсялякімі пахамі і гэтыя пахі ап'яняюць дзікага звера, як чала-



века зелле. Яшчэ некалькі часу Маўглі супакойваў пантэру, і нарэшце яна лягла перад ім, як кацянё, падкурчыўшы пад сябе ногі і прыплюшчыўшы вочы.

— Ты нібы ад Джунгляў і не ад Джунгляў,— прамовіла яна.—А я толькі чорная пантэра. Але я люблю цябе, Братка.

— Доўга-ж яны размаўляюць пад дакавым дрэвам!— сказаў Маўглі.—Бульдэа, мусіць, расказаў шмат казак. Цяпер яны прыйдуць сюды, каб выцягнуць з пасткі

жанчыну з яе мужам і кінуць іх у Чырвоную Кветку. А пастку знойдуць пустую, ха-ха!

— Ну, слухай,—сказала Багіра,—хваляванне ў маёй крыві скончылася. Хай яны знойдуць у хаце мяне! Наўрад ці хто з іх выйдзе з дому пасля таго, як убачыць мяне! Мне не ўпершыню быць у клетцы; не думаю, каб яны адважыліся вязаць мяне вяроўкамі.

— Але-ж сцеражыся!—весела сказаў Маўглі, калі пантэра слізгахула ў халупу.

— Фу!—зачмыхала Багіра.—Тут усё напоўнена Чалавекам! А вунь і ложак, акурат такі, на якім я ляжала ў каралеўскіх клетках у Удэйпуры,—і Маўглі пачуў, як ложак зарыпаў пад цяжарам вялізнага звера.— Клянуся Зломаным Замком, што вызваліў мяне, ім здаецца, што яны злавілі буйную дзічыну! Пасядзі каля мяне, Братка, мы разам павітаем іх добрым паляваннем.

— Не, у мяне другая справа. Чалавечая Зграя не павінна ведаць, што я прымаю ўдзел у гэтых падзеях. Палюй сама, я не хачу бачыць іх.

— Хай так,—згадзілася Багіра.—А вось і яны ідуць.

Паседжанне пад піпулавым дрэвам рабілася ўсё больш шумным, галасы былі ўжо чутны на другім канцы вёскі. Сход скончыўся дзікім выццём, і ўвесь натоўп мужчын і жанчын кінуўся бегчы па вуліцы, размахваючы кіямі, сярпамі, бамбукамі, нажамі. Бульдэа і брамін былі наперадзе, а натоўп не адставаў ад іх і крычаў:

— Давайце чараўніка і вядзьмарку! Паглядзім, як прымусіць іх прызнацца гарачае жалеза. Паліце ха-



лупу, мы ім пакажам, як даваць прытулак перавертням! Не, пабіць іх спачатку трэба! Факелаў, больш факелаў! Бульдэа, напалі канец стрэльбы!

Каля дзвярэй затрымаліся, бо яны былі моцна закалочаны. Тады натоўп выламаў дзверы і з факеламі рынуўся ў хату.

А там, выцягнуўшыся на ўсю даўжыню, на пасцелі ляжала Багіра—чорная, як магіла і страшная, як дэман...

На момант ўсе скамянелі, а потым пярэднія шарахнуліся назад да парога. У гэтую самую мінуту Багіра падняла галаву і зяхнула—зяхнула абдумана, старанна, дзёрзка, як пазяхала, калі хацела абразіць роўнага сабе. Махровыя губы падымаліся і апускаліся, чырвоны язык выгінаўся, ніжняя сківіца ўсё больш апускалася, расчыняючы палаючую глотку, велізарныя іклы агаліліся да самых дзяснаў—і сашчаміліся са

звонам і бразгам, нібы замкнуўся куфар са сталёвым замком.

Праз хвіліну ўсё навакол апусцела. Багіра выскачыла праз акно і кінулася да ног Маўглі, а сяляне з выем і крыкамі несліся па вуліцы і кружыліся ў паніцы, спяшаючыся дабрацца да сваіх хат.

— Яны не варухнуцца да раніцы,—спакойна прамовіла Багіра.—Што далей?

Здавалася, вёску ахапіў моцны сон. Але прыслухаўшыся, Багіра і Маўглі пачулі грукат цяжкіх скрыняў са збожжам, якія сяляне валаклі па глінянай падлозе, каб загарадзіць дзверы. Багіра сказала праўду: вёска пэўна не варухнецца да дня.

Але Маўглі чамусьці пахмурыўся, сеў на зямлю і задумаўся.

— Можа я што-небудзь такое зрабіла?—лісліва сказала Багіра.



— Нічога, апрача добрага. Цяпер вартуй іх да святла, а я пасплю.

Маўглі пабег у лес, кінуўся на зямлю і праспаў увесь наступны дзень і ноч.

Калі ён прачнуўся, то ўбачыў каля сябе Багіру, а побач толькі што забітага аленя. Багіра з цікавасцю паглядала, як Маўглі арудваў нажом, разбіраючы тушу. Ён пад'еў, напіўся і зноў задумаўся, падпёршы рукамі падбародак.

— Чалавек і твая жанчына шчасліва дайшлі да Канхівары,—паведаміла Багіра.—Твая Маці перадала прывітанне праз Чыля. Яшчэ да сярэдзіны ночы яны знайшлі каня і хутка даехалі. Што, добра?

— Добра,—адказаў Маўглі.

— А твая Чалавечая Зграя, што засталася ў вёсцы, не паварушылася, пакуль сонца не паднялася высока. Яны выйшлі, каб пад'есці, а потым зноў схаваліся ў свае логавы.

— Ці не заўважылі часам яны цябе?

— Магчыма. Я на світанні качалася ў пяску ля ваколіцы, а можа, і ціханька спявала. Ну, Братка, цяперака нам тут няма чаго рабіць. Пойдзем паляваць са мной і Балу. Ён знайшоў новыя вуллі, якія хоча паказаць табе. І ўсе мы паранейшаму сумуем па табе. Не глядзі так на мяне, а то нават мяне бярэ жудасць... Чалавека і жанчыну цяпер ужо не кінуць у Чырвоную Кветку, і ў Джунглях усё добра,—ці не так? Забудземся на Чалавечую Зграю.

— Я забудуся... праз некаторы час. Ці не ведаеш, дзе пасвіцца Хаці сёння ўначы?

— Дзе яму захочацца. Хто можа адказаць за Маўклівага? Але навошта ты пытаешся? Ці можа Хаці зрабіць што-небудзь такое, чаго не маглі-б зрабіць мы?

— Загадай яму і ягоным тром сынам, каб яны прыйшлі сюды да мяне.

— Ну, Браток, гэта ўжо занадта! Ці можна звяртацца да Хаці, Уладара Джунгляў, з такімі загадамі? Ён жа-ж да таго часу, пакуль Чалавечая Зграя не змяніла выраз твайго твара, вучыў цябе Уладарнаму Слову Джунгляў.

— Гэта ўсёроўна. Цяпер я ведаю Уладарнае Слова і на яго. Скажы, каб ён з'явіўся да Маўглі-Жабяняці, а калі ён не паслухаецца адразу, загадай з'явіцца ў імя Разгрому Палёў Бхуртпора.

— Разгрому Палёў Бхуртпора!—паўтарыла Багіра некалькі разоў, каб не забыцца.—Я іду. Хаці самае большае можа раззлавацца, але я гатова аддаць нават цэлы месяц паляванне, каб толькі пачуць Уладарнае Слова, якое можа прымусіць Маўклівага.

Яна пайшла, а Маўглі раз'юшана пачаў калоць зямлю сваім нажом.

Маўглі за ўсё сваё жыццё не бачыў чалавечай крыві да таго часу, пакуль заўважыў—лепш сказаць, пачуў носам—кроў Месуі. Месуа была вельмі ласкавая да яго, і ён яе любіў таксама моцна, як моцна ненавідзіў іншых людзей. Але хоць і вельмі ненавідзеў ён іх, іхнюю мову, іхнюю жорсткасць і трусасць, але ні завошта не адважыўся-б забіць чалавека і другі раз пачуць страшны пах чалавечай крыві.

І ў Маўглі з'явіўся больш просты і не менш суровы план. Ён усміхнуўся, калі ўспомніў, што на

гэтую думку навяла яго адна з бязглуздзіц, якія плёў па вечарах стары Бульдэа пад піпулавым дрэвам.

— Так, сапраўды гэта было Ўладарнае Слова!— пачуўся над яго вухам шэпт Багіры.—Яны пасвіліся каля ракі і паслухаліся мяне, нібы якія-небудзь бычкі. Глядзі, вось яны ідуць!

Хаці і яго тры сыны ішлі, як заўсёды, моўчкі. Рачная твань яшчэ не абсохла на іх баках, і Хаці задуменна жаваў зялёнае сцябло, якое зачапіў па дарозе біўнямі. Але кожная зморшчка на яго вялізным целе сведчыла Багіры, якая добра разбіралася ў гэтых справах, што цяпер ужо не Ўладар Джунгляў ідзе да Чалавечага Дзіцяці, а пакорнае стварэнне ідзе да магутнага ўладара. Тры сыны Хаці клыпалі побач са сваім бацькам.

Маўглі толькі крыху падняў галаву, калі Хаці вітаў яго клічам: „Добрага Палявання!“ Слон вымушаны быў доўга стаяць і хістацца з боку на бок, пакуль Маўглі пачаў гаварыць. Ды і то ён звярнуўся не да сланоў, а да Багіры.

— Я раскажу казку, якую чуў ад паляўніка, на якога вы ўчора палявалі,—пачаў Маўглі.—Яна тычыцца старога і разумнага слана, які трапіў у яму, дзе быў убіты кол. Кол разадраў яму бок ад нагі да пляча, пазней на гэтым месцы застаўся белы шрам.

Маўглі працягнуў руку. Хаці павярнуўся, і месяц асвятліў доўгі белы шрам на яго шэрым баку, нібы высмалены напаленай пугай.

— Людзі з'явіліся вызваляць слана з пасткі,— казаў далей Маўглі.—Яны звязалі яго і выцягнулі з ямы. Але слон быў вельмі дужы. Ён парваў свае ка-

наты і ўцёк лячыць рану. Пасля таго раз'юшаны слон уначы вярнуўся на палі гэтых паляўнікоў. Здаецца, у яго былі тры сыны. Усё гэта адбылося шмат дажджоў назад і вельмі далёка адсюль—сярод палёў Бхуртпора. Што сталася з гэтымі палямі да наступнага жніва, Хаці?



— Ураджай зняў я і мае тры сыны,—прамовіў Хаці.

— А хто араў пасля жніва?—сказаў Маўглі.

— Ніхто не араў,—адказаў Хаці.

— А што сталася з людзьмі, якія жывіліся пасевамі?—спытаўся Маўглі.

— Яны пайшлі адтуль.

— А з халупамі, дзе людзі спалі?—пытаўся далей Маўглі.

— Мы разбурылі іх.

— А яшчэ што было?—дапытваўся Маўглі.

— Джунглі занялі столькі месца, колькі я магу прайсці за дзве ночы з усхода на захад і за тры ночы з поўначы на поўдзень. Мы напусцілі Джунглі

на пяць вёсак. І цяпер у гэтых вёсках, на гэтых землях, палетках і пашах няма аніводнага чалавека, які жыў-бы з іх. Вось які разгром Бхуртпорскіх палёў зрабіў я з маімі трыма сынамі! Але скажы мне, Чалавечае Дзіцянё, адкуль ты ведаеш гэта?—спытаўся Хаці ў сваю чаргу.

— Мне сказаў аб гэтым Чалавек. І цяпер я бачу, што нават Бульдэа часам кажа праўду. Гэта было добра зроблена, о Хаці з белым шрамам! Але ў другі раз гэта будзе зроблена яшчэ лепш, бо цяпер вамі будзе кіраваць Чалавек.

Ты-ж ведаеш вёску Чалавечай Зграі, якая выгнала мяне? Гэта ляныя, бязмозглыя, жорсткія людзі. Яны заўсёды забаўляюцца сваім роптам і забіваюць слабейшых—не для ежы, а дзеля пацехі. Нажэршыся, яны пачынаюць кідаць людзей сваёй-жа пароды ў Чырвоную Кветку. Я досыць наглядзеўся на іх. Не патрэбна ім жыць тут, я іх ненавіжу!

— Ну, што-ж, забі іх!—сказаў малодшы сын Хаці. Падхапіўшы пучок, ён пасцёбаў ім пярэднія ногі і кінуў прэч, а чырвоныя вочкі яго хітравата азіраліся па баках.

— Навошта мне белыя косці?—са злосцю крыкнуў Маўглі,—ці я воўчае шчаня, каб гуляць на сонцы з акрываўленай галавой? Я забіў Шэр-Хана, і скура яго гніе на Скале Рады, але... я не ведаю, куды дзеўся сам Шэр-Хан, і мне чагосьці нехапае. А цяпер я вазьмуся за тое, што сам магу бачыць і кратаць. Павядзі Джунглі на гэтую вёску, о Хаці!

Багіра ўздрыганулася і прысела. Яна магла-б, калі трэба, шпарка прабегчы па вясковай вуліцы, збіва-

ючы людзей направа і налева, альбо забіць пад вечар чалавека за плугам, але такі намер—свядома сцерці з зямлі цэлую вёску—спалохаў нават яе. Цяпер яна зразумела, дзеля чаго Маўглі пасылаў па Хаці. Толькі стары спрактыкаваны слон мог задумаць і правесці такую вайну.

— Хай яны ўцякаюць, як уцяклі людзі з палёў Бхуртпора, пакуль у баразнах не застоіцца вада і шум іхніх верацён не зменіцца з шумам дажджу сярод дрэў, пакуль Багіра і я не знойдзем сабе логава ў доме браміна



і алені не зробяць вадапою ў сажалцы за храмам. Напусці Джунглі, о Хаці!

— Але... але-ж мы не сварыліся з імі. Толькі ў часе лютай злосці мы можам напасці на месцы, дзе спяць людзі,—з сумненнем казаў Хаці, хістаючыся з боку на бок.

— Ці-ж вы адны жывіцеся травой у Джунглях? Гані сваіх сваякаў. Няхай займуцца гэтай справай алені, вяпры, нільгаі. Вы самі і не паказвайцеся, пакуль палі не аголяцца. Нацкуй Джунглі, Хаці.

— А забойства не будзе? Мае біўні былі чырвоныя ад крыві пры разгроме Бхуртпорскіх палёў і я не хацеў-бы яшчэ раз пачуць гэты пах...

— І я гэтага не хачу. Я не хачу, каб іхнія косці ляжалі на нашай чыстай зямлі. Хай яны шукаюць сабе новае логава. Яны не павінны заставацца тут. Я бачыў і чуў нюхам кроў жанчыны, якая карміла мяне, жанчыны, якую хацелі забіць праз мяне. Толькі пах свежай травы каля іх парогаў заглушыць для

мяне гэты пах. Ён пячэ мне рот. Напусці Джунглі, Хаці!

— Ах!—прамовіў Хаці.—Таксама шрам на скуры смаліў мяне, калі я руйнаваў іхнія вёскі. Цяпер я разумею. Твая вайна—наша вайна. Мы нашлем Джунглі.

І сланы зніклі. Маўглі аж дрыжаў ад злосці і нянавісці да людзей. Багіра з жахам глядзела на яго.

— Клянуся Зламаным Замком, што вызваліў мяне,—прамовіла, нарэшце, чорная пантэра,—няўжо-ж ты тое самае голае стварэнне, за якое я спрачалася ў Зграі ў тыя дні, калі ўсё было маладое? Уладар Джунгляў, не забудзься на мяне ў той час, калі знікне мая сіла! Абарані Балу і ўсіх нас, бо ўсе мы шчаняты перад табой. Мы як тое сухое галлё пад нагою. Мы—казулі, што адбіліся ад маткі.

Параўнанне грознай пантэры з дзіцём лані рассмяшыла Маўглі; ён зарагатаў, закірхаўся, усхліпнуў, зноў засмяяўся, і нарэшце, каб супакоіцца, кінуўся ў сажалку. Доўга ён плаваў і ныраў пры святле месяца, як жабянё, цёзка яго.

А Хаці і яго тры сыны ўжо разышліся на ўсе чатыры бакі свету і ціха ішлі па далінах і пушчах. Два дні без перапынку, прынамсі міль шэсцьдзесят, прайшлі яны па Джунглях. І кожны іх крок, кожны рух хобата зараз-жа заўважваўся і даваў тэму для гутарак Мангу і Чылю, Малпаваму Племю і ўсім птушкам. Потым яны пачалі пасвіцца і спакойна пасвіліся з тыдзень. Хаці і яго сыны падобныя да Каа, Каменнага Пітона—яны таксама не любяць спяшацца без патрэбы.

У канцы гэтага перыяду невядома адкуль пайшлі па Джунглях чуткі, што ў такой і такой даліне корм і вада надта добрыя. Свінні, якія, як вядома, гатовы ісці хоць на край свету, абы добра пад'есці,— першыя рушылі цэлымі атрадамі, штурхаючыся і сварачыся. За імі пайшлі алені, разам з імі тоўстыя нільгаі, а за нільгаямі пацягнуліся з балот дзікія буйвалы. Ішлі яны весела, пасвіліся, гулялі, пілі ваду і зноў пасвіліся. Але досыць было самага нязначнага здарэння—і яны палохаліся і кідаліся назад.

Але як толькі пачыналася трывога, абавязкова аднекуль з'яўляўся хто-небудзь такі, хто іх супакойваў. Ці іглак Сагі з весткамі, што „зусім недалёка адсюль ёсць добрая паша"; ці Манг-Упыр з вясёлым крыкам апускаўся на палянку, каб паказаць, што на ёй нічога небяспечнага няма; або Балу з поўным ротам карэнняў спакойна праходзіў каля спуджаных жывёл і рознымі прыказкамі ды жартамі накіроўваў іх на правільны шлях. Некаторыя жывёлы не адважваліся ісці далей і ўцякалі, але галоўная маса ўсё-ж такі рухаліся наперад. Драпежныя-ж зверы за гэты час сярод іх не паказваліся.

Дзён праз дзесяць становішча было такое: алені, кабаны пасвіліся колам, якое мела восем ці дзесяць міль па радыусу, а мясажэрныя звяры трымаліся вакол іх.

У цэнтры гэтага кола была вёска, а вакол вёскі даспявала збожжа, сядзелі людзі на так званых „мачанах"— плеценых з галля буданчыках, пастаўленых на чатыры высокія слупы. Тубыльцы будуюць іх, каб вартаваць збожжа ад птушак і іншых злодзеяў,



што квапяцца на хлеб. Цяпер ужо аленяў ды нільгаяў ніхто не ўгаварваў: на іх націскалі драпежныя звяры і паступова прымушалі пасоўвацца бліжэй да сярэдзіны.

У цёмную ноч Хаці і яго тры сыны вышлі з Джунгляў, штурханулі хабатамі слупы мачаноў, і тыя зваліліся, як зломаная кветка. Людзі, што зваліліся разам з мачанамі, пачулі над сабой грознае рохканне сланоў. Спуджаныя ззаду алені кінуліся на вясковыя нівы, за імі рушылі свінні; што не паспелі патаптаць алені, тое папсавалі свінні. Час ад часу ваўкі рабілі трывогу сярод жывёл, і тыя пачыналі мітусіцца, кідацца ва ўсе бакі, і руйнавалі не толькі пасевы, але нават і абвадняльныя каналы.



Пад раніцу мясажэрныя звяры рассунуліся і далі жывёлам вольны праход на поўдзень. Але некаторым аленям так спадабалася паша, што яны схаваліся на дзень, каб пабаляваць яшчэ і ў наступную ноч.

Справа была зроблена. Раніцою, вышаўшы на поле, сяляне ўбачылі, што ўраджай загінуў і што ім пагражае галодная смерць. Калі выгналі на пашу буйвалаў, дык яны не знайшлі там ніякай спажывы. Тады буйвалы разбрыліся па Джунглях і далучыліся

да сваіх дзікіх сваякоў. А пад вечар у вёсцы, у хлявах, знайшлі



чатыры задушаныя коні. Адзін з іх нават быў выцягнуты на вуліцу. Толькі Багіра магла гэта зрабіць, толькі Багіра магла дзёрзка кінуць адзін з трупаў па самай сярэдзіне вуліцы!

Сяляне не адважыліся ў гэтую ноч выходзіць у поле і раскладваць там агонь, і Хаці з сваімі трыма сынамі зноў з'явіўся, каб скончыць сваю справу. А дзе арудуе Хаці, там дабра не будзе!

Няшчасныя сяляне думалі як-небудзь пратрымацца да наступных дажджоў тымі запасамі хлеба, якія ў іх былі, а потым падзарабіць ці пазычыць. Мясцовы гандляр ужо вылічваў, колькі можа зарабіць на тых запасах збожжа, што ён скупіў, а ў гэты час біўні Хаці падчапілі яго мазанку, разбурылі плецены з лазы і аблеплены кароўім гноем засек і ўвесь хлеб быў знішчаны.

Калі выявілася гэтая апошняя бяда, усю падзею ўсклалі на браміна. Але дарма ён маліўся сваім багам— яны не далі ніякай рады.



— Не нашы багі караюць нас, — сказаў ён тады.— Мусіць, мы неяк абразілі якога-небудзь бога Джунгляў і Джунглі пайшлі на чалавека.

Тады пастанавілі звярнуцца да старшыні племя

гондаў, спаконвечных гаспадароў гэтай зямлі. Гэта былі маленькія, хітрыя і чорныя, як вугаль, людзі, якія бадзяліся па Джунглях і займаліся паляваннем.

Калі гонд прыйшоў у вёску, яго пачаставалі, чым толькі маглі, і прасілі дапамагчы ў бядзе. Гонд стаў на адну нагу, узяў у руку лук, а тры атручаных стралы ўтыркнуў сабе ў чуб. У такім стане ён пастаяў, паглядзеў ні то спалохана ні то з пагардай на сялян і іхнія знішчаныя палі, але нічога не сказаў. Потым падняў з зямлі „карэлу"—лазіну, якая дае горкія тыквы, і завязаў ёю дзверы храма перад лупатым чырвоным ідалам. Пасля гэтага працягнуў руку ў бок Канхівары і пайшоў у свае Джунглі.

Ён лічыў, што калі выступілі Джунглі, дык наўрад ці хто можа спыніць іх, апрача белых людзей, што жывуць у Канхівары. Сяляне зразумелі, што нічога добрага ім нельга чакаць. Дзікай тыквай зарасце тое месца, дзе яны пакланяюцца свайму богу, а ім самім нічога не застаецца, як хутчэй уцякаць.

Але не так лёгка зняцца ўсёй вёскай з наседжанага месца. Людзі заставаліся ў ёй, пакуль хапала летніх кармоў, потым спрабавалі збіраць арэхі ў Джунглях, але ўсюды іх пільнавалі палаючыя вочы звяроў. Яны з'яўляліся перад людзьмі нават у поўдзень, і калі перапуджаныя сяляне хаваліся за свае сцены, то праз пяць хвілін на бліжэйшых дрэвах бачылі сляды кіпцюроў і садраную кару.

Чым больш людзі сядзелі ў сваёй вёсцы, тым смялей рабіліся дзікія звяры і без перашкод збіраліся на пашы каля Вайнгунгі. Сяляне не адважваліся правіць і замазваць сцены апусцелых хлявоў, што

стаялі бліжэй да Джунгляў. Дзікія свінні ламалі і тапталі іх ліяны з вузлаватымі карэннямі цягнуліся ўслед і замацоўваліся на адваяванай зямлі, а пасля ліян разрасталася розная дзікая трава.

Першымі паўцякалі нежанатыя і далёка разнеслі весткі, што іхняя вёска прызначана на гібель. „Хто можа стаць,—казалі яны,—супроць Джунгляў і іх багоў, калі нават сама святая Кобра пакінула вёску?“ Асуджаная вёска паступова траціле сувязь з усімі



суседзямі і сцежкі ад яе пазарасталі травою. Людзі чулі, як трубіць па начах Хаці і яго сыны, але гэта бадай не трывожыла іх, бо ім ужо няма чаго было траціць. Увесь хлеб іх загінуў, а палі пачалі ператварацца ў Джунглі. Заставалася толькі ісці ў Канхівару і прасіць ласкі ў ангельцаў.

Але па ўласцівай ім нядбайнасці яны ўсё чакалі дзень за днём і дачакаліся, нарэшце, дажджоў. Струмені вады паліліся праз дзіравыя стрэхі, ваколіцы

заліла вадой, і пасля летняй спякоты забуяла трава на палях. Тады толькі яны—мужчыны, жанчыны і дзеці—вышлі раніцою пад заліўным дажджом і прыпыніліся ля ваколіцы, каб апошні раз зірнуць на свае сялібы.

І калі апошняя сям'я са сваімі манаткамі вышла з вёскі, ззаду пачуўся трэск, грукат, паляцелі бярвенні і чаротавыя стрэхі. На момант мільгануў у паветры чорны, падобны да змяі, хобат з пучком гнілога чароту. Ён знік, пачуўся новы трэск, а потым рэў.



Гэта зароў Хаці. Ён зрываў з дамоў дахі, як мы зрываем вадзяныя лілii, і адно з бярвенняў моцна стукнула яго. Гэта зусім раз'юшыла Хаці і павялічыла яго сілы. А ніхто не можа нарабіць столькі бяды, як раз'юшаны дзікі слон. Ён штурхануў нагамі гліняную сцяну, і тая раскрышылася ў пыл і зараз-жа ператварылася ад

дажджу ў жоўтае балота. Потым ён пачаў круціцца па вузкіх вуліцах, разбураючы хаты направа і налева, крышучы пад нагамі сцены, дзверы, стрэхі. Ад яго не адставалі тры яго сыны і руйнавалі ўсё таксама, як калісьці на палях Бхуртпора.

— Джунглі хутка праглынуць гэтыя шалупайкі,— пачуўся спакойны голас сярод гэтага грукату.—Цяпер трэба разбурыць сцяну, што ідзе вакол вёскі, Хаці.

І Маўглі, мокры ад дажджу, саскочыў са сцяны, якая ўжо асела, як змораны буйвал.

— Усё будзе ў свой час,—запыхаўшыся адказаў Хаці.—А ў Бхуртпоры мае біўні купаліся ў крыві! А ну, дзеткі, да сцяны! Галавой, разам—ну!

Да гэтага часу праз сцяну сяляне не маглі бачыць усяго таго, што рабілася ў вёсцы. І вось цяпер сцяна выпуклілася, развалілася — і яны з жахам убачылі раз'юшаныя, запэцканыя глінай галовы руйнавальнікаў. Страціўшы ўсё, што яны мелі, сяляне кінуліся бегчы па даліне, а вёска сярод рэву і грукату знікала з іх вачэй.

Праз месяц на яе месцы ўздымаўся няроўны ўзгорак, пакрыты маладой зялёнай травой. А пад канец дажджоў Джунглі ўжо аўладалі тым месцам, дзе ўсяго толькі поўгода назад хадзіў плуг...





# КАРАЛЕЎСКІ АНК

Бачыш? Мор Паўлін трасецца і ў трывозе Бандар-Лог,
Чыль-Каршун лунае ўверсе на распушчаных крылах,
І мільгаюць цьмяна цені цераз Джунглі і праз лог...
Гэта Страх, Паляўнічок мой, гэта Страх!

Бачыш? На палянцы ходзіць ужо нейкі дзіўны цень.
Шэпт пачуўся. Вось галінка калыхнулася ў руках...
Ты чаго дрыжыш ад холаду ў гарачы летні дзень?
Гэта Страх, Паляўнічок мой, гэта Страх!

Месяц, стаўшы над гарою, серабрыць сівыя скалы.
Апусцілі хвасты зверы. Ідзе з лесу прэлы пах,
За табою нечы подых і хрумсціць лісточак вялы...
Гэта Страх, Паляўнічок мой, гэта Страх!

На калена! За цяціву! Ды хутчэй пускай ты стрэлы!
Разам у здрадніцкую цемру накіруй кап'я размах.
Але рукі твае звіслі. Можа сэрца скамянела?..
Гэта Страх, Паляўнічок мой, гэта Страх!

А калі маланка з бурай валіць дрэва, як той колас,
І грамовыя раскаты на ўвесь свет наводзяць жах,
То мацней за гром і буру раздаецца нечы голас:
Гэта Страх, Паляўнічок мой, гэта Страх!

(Песня маленькага паляўніка.)

Чацвёра было іх на свеце і ёсць ненасытных спрадвеку:

Зяпа Шакала, валлё Каршуна, Малпава лапа і вока Чалавека.

(Прыказка Джунгляў.)

Каа, вялізны каменны пітон, змяняў сваю скуру, мусіць, двухсоты раз у сваім жыцці. Маўглі ніколі не забываў, што Каа выратаваў яму жыццё ў часе паходу ў Халодныя Пячоры, і таму пайшоў цяпер вітаць яго з такім важным момантам яго жыцця.

У часе ліняння змеі бываюць у дрэнным настроі, пакуль новая скура не заблішчыць усімі колерамі. Каа ўжо не кпіў з Маўглі, а ставіўся да яго разам з усіміляснымі жыхарамі, як да Уладара Джунгляў, і даваў яму ўсе весткі, якія толькі мог мець пітон яго памеру. А ўсё тое, чаго Каа не ведаў, напрыклад

пра жыццё пад зямлёй, пад каменнем, у кары, у пнях—усё гэта лёгка можна было-б запісаць на адной самай маленькай лусачцы яго скуры.

У гэты вечар Маўглі сядзеў каля Каа і перабіраў яго стракатую парваную старую скуру. Каа лёгка абхінуў сваімі кольцамі голыя плечы Маўглі і хлопчык сядзеў нібы ў мяккім жывым крэсле.

— А твая скура прыгожая нават цяпер!—прамовіў Маўглі.—Мусіць дзіўна бачыць скуру з сваёй галавы каля сваіх ног?

— Ды ў мяне-ж і ног няма!—сказаў Каа.—А калі гэта звычай усяго майго племя, то мне яно і не здаецца дзіўным. Няўжо-ж табе не абрыдала твая старая каляная скура на целе?

— Калі я пачынаю гэта адчуваць, я іду купацца, Плоскагаловы. Але ўсё-ж такі, калі вельмі горача, я часта шкадую, што не магу зняць скуры без болю і пабегаць без яе.

— А я і купаюся і скуру здымаю! Ну, а як табе падабаецца маё новае ўбранне?

Маўглі правёў рукой па яго вялізнай спіне ў клетачкі.

— У чарапахі скура цвярдзейшая, але не такая прыгожая,—сказаў ён.—У жабы, маёй цёзкі, скура прыгажэй, але занадта мяккая. Твая-ж скура найлепшая, нібы з пялёстак лілііі.

— Яе трэба абмыць. Новая скура не мае таго бляску ўсіх колераў, якія набывае пасля першага купання. Хадзем купацца!

— Я панясу цябе,—сказаў са смехам Маўглі і пачаў падымаць сярэднюю, самую тоўстую частку цела.

З такім-жа поспехам ён мог-бы паспрабаваць падняць поўметравую вадаправодную трубу. Каа нерухома ляжаў і соп ад задавальнення.

Потым пачалася іх звычайная вячэрняя гульня: хлопчык у бляску сваіх маладых сіл і пітон у бліскучай новай скуры выпрасталіся адзін супроць аднаго і пачалі дужацца. Вядома, каб толькі Каа захацеў, ён мог-бы раздушыць тузін такіх Маўглі; але ён гуляў асцярожна, не ўжываючы і дзесятай долі сваёй моцы. Яшчэ раней, калі хлопчык падужэў настолькі, што мог вытрымаць тумакі, Каа навучыў яго гэтай гульні і яна значна ўзмацніла мускулы Маўглі. Часам Каа абкручваў Маўглі да самай шыі, і хлопчык стараўся вызваліць руку, каб ухапіць змяю за горла. Каа крыху паддаваўся, а хлопчык намагаўся ўшчапіць абодвума нагамі канец хваста, які трымаўся за камень ці пень. У такім стане яны круціліся нібы віхор, сярод якога мільгалі чорна-жоўтыя кольцы і смуглыя рукі і ногі.

— Ну, ну, ну!—казаў Каа, так спрытна ўдараючы галавой, што Маўглі ледзь паспяваў адхіляць удары.— Глядзі, вось я стукаю цябе тут, Братка, і тут, і вось тут,—а ты што стаіш, як пень! Во і зноў!

Гульня кожны раз канчалася добрым ударам, ад якога хлопчык ляцеў некалькі метраў. Маўглі аніяк не мог падпільнаваць і папярэдзіць гэты момант, а Каа казаў, што нават не варта і спрабаваць, бо нічога з гэтага не выйдзе.

— Добрага Палявання!—са смехам сказаў Каа, калі Маўглі куляўся ад апошняга ўдару.

Потым яны разам пайшлі да любімага месца

купання мудрага змея. Гэта была глыбокая чорная сажалка, аточаная скаламі і цёмнымі дрэвамі. Як усе жыхары Джунгляў, Маўглі вельмі ціха кінуўся ў ваду і даў нырца, потым таксама ціха вынырнуў і лёг на спіну; тады падлажыў рукі пад галаву і пачаў пазіраць, як месяц асвятляе скалы і адбіваецца ў вадзе; час ад часу ён прабаваў нагамі разбіць гэты адсвет у вадзе. Чатырохвугольная галава Каа, як брытва, разрэзала ваду, і лягла на плячо Маўглі. Так удвух моўчкі ляжалі яны ў халоднай вадзе.

— Ах, як хораша!—млява прамовіў, нарэшце, Маўглі.—Я памятаю, як Чалавечая Зграя ў гэты час лажылася на цвёрдыя кавалкі дрэва ў нейкай гліняной пастцы. Яны зачынялі ўсе прадухі, нацягвалі на галаву бруднае рыззё і спявалі праз нос паскудныя песні. Куды лепш у Джунглях!

Кобра хуценька слізганула пад каменне, напілася, пажадала ім Добрага Палявання і папаўзла прэч.

— С-с-с!—схамянуўся Каа, нібы ўспомніўшы нешта.—Значыцца, Джунглі даюць табе ўсё, чаго ты хочаш, Братка?

— Не ўсё,—са смехам адказаў Маўглі,—я-б хацеў, напрыклад, кожны месяц забіваць новага магутнага Шэр-Хана. Цяпер я здолеў-бы забіць яго ўласнымі рукамі, без дапамогі буйвалаў. Апрача таго я хацеў-бы, каб сонца ззяла ў часе дажджоў, а ў часе летняй спякоты дажджы засланялі сонца. Потым, калі я бываю галодны, я хачу забіць казу, а як толькі заб'ю казу, дык мне шкода, што гэта не алень, а калі заб'ю аленя, дык ужо шкадую, што гэта не нільгай. Але гэтак, мусіць, з усімі намі бывае.

— А іншых жаданняў у цябе няма?—дапытваўся Каа.

— Чаго-ж мне яшчэ жадаць? Са мной Джунглі і ласка Джунгляў. Няўжо-ж ёсць яшчэ што-небудзь больш прывабнае між Усходам і Заходам сонца?

— Кобра неяк казала...—пачаў Каа.

— Якая Кобра? Тая, што тут была і слова не сказала? Яна палявала.

— Я кажу пра другую..

— Навошта ты звязваешся з Атрутным Племем? Хай яны ідуць сваім шляхам. У пярэдніх зубах сваіх яны носяць Смерць, і гэта нядобра. Яны-ж такія малыя! Але з якім-жа ты Каптуром размаўляў?

Каа ціха калыхаўся ў вадзе з боку на бок, нібы карабель у моры.

— Тры ці чатыры месяцы назад,—пачаў ён,— я паляваў у Халодных Пячорах (ты, пэўна, памятаеш гэтае месца?). Стварэнне, на якое я паляваў, з крыкам пабегла каля басейна ў дом, які я калісьці разбурыў дзеля цябе, і схавалася пад зямлёй.

— Але-ж Племя Халодных Пячор не жыве ў норах!—перапыніў Маўглі, думаючы, што Каа гаворыць пра малпаў.

— Гэтае стварэнне там не жыло, а схавалася. Яно ўцякло ў нару, якая ішла далёка пад зямлёй. Я папоўз за ім, забіў і заснуў. Прачнуўшыся, я пасунуўся далей.

— Пад зямлёй?

— Але. Нарэшце я спаткаўся з Белым Каптуром (белая Кобра), які расказаў мне штосьці незразумелае і паказаў шмат рэчаў, якія я ніколі ў жыцці не бачыў.

— Новую дзічыну? І добрае было паляванне?— жвава павярнуўся да яго Маўглі.

— Гэта была не дзічына, я-б паламаў аб яе ўсе свае зубы. Але Белы Каптур расказаў мне, што Чалавек—а яго Каптур добра ведае—аддаў-бы сваё жыццё, каб толькі зірнуць на гэтыя рэчы.

— Паглядзім, — сказаў Маўглі. — Здаецца, і я калісьці быў Чалавекам.

— Пачакай, пачакай! Мы з ім гутарылі пад зямлёй, і я казаў пра цябе, пра тое, што ты Чалавек. І сказаў мне Белы Каптур (ён стары, як самі Джунглі):— „Даўно я не бачыў Чалавека. Няхай ён прыйдзе і паглядзіць на гэтыя рэчы, за горшую з якіх гатова памерці шмат людзей“.

— Пэўна, гэта новая дзічына. І Атрутнае Племя не хоча нам казаць пра яе. Негасцінны яны народ!

— Гэта не дзічына, гэта... гэта... Я не магу растлумачыць, што гэта такое!

— Пойдзем туды! Я не бачыў Белых Каптуроў, ды і хацеў-бы паглядзець на ўсе гэтыя рэчы. Што, яны забілі іх?

— Яны ўсе і былі мёртвыя. Ён называе сябе вартаўніком гэтых рэчаў.

— Ага, гэта нібы воўк, які рыкае над мясам, што прынёс у сваё логава. Хадзем!

Маўглі выскачыў на бераг, пакачаўся ў траве, каб выцерціся, і абодва прыяцелі накіраваліся да Халодных Пячор. Цяпер Маўглі ўжо не баяўся Малпавага Племя, затое Бандар-Лог дрыжалі ад аднаго імя Маўглі. Ды ў гэтую ноч іх не было ў Халодных

Пячорах: яны паразыходзіліся па ўсіх Джунглях, а ў зруйнаваным горадзе было ціха і пустынна.

Каа дабраўся да царскага павільёна, адшукаў сярод смецця напалову разбураныя сходкі і папоўз уніз па ступенях. Маўглі выгукнуў змяіны кліч „Мы адной крыві з вамі!“ і палез за змеем ракам. Яны паўзлі досыць доўга, не раз заварочвалі ў бакі і, нарэшце, дабраліся да месца, дзе корань дрэва расшчапіў сцяну. Яны пралезлі праз шчыліну і апынуліся ў вялікім падзямеллі. Круглы купал над ім таксама быў пашчэплены карэннямі дрэў, і праз шчыліны крыху праходзіла святла.

— Добрае логава!—сказаў Маўглі, устаўшы на ногі.—Толькі далекавата, каб хадзіць сюды кожны дзень. Але штосьці я нічога не бачу.

— А ці-ж я нічога?—пачуўся голас з глыбіні падзямелля.

Нешта белае заварушылася ў змроку, і перад Маўглі з‘явілася велізарнейшая Кобра, якіх ён ніколі і не бачыў. Яна мела метры са тры даўжыні і зрабілася белай таму, што заўсёды жыла ў цемры. Скура яе зрабілася падобнай да слановай косці і нават акулярныя знакі на распушчаным каптуры былі бледнажоўтыя. Вочы змяі чырванелі, як рубіны.

— Добрага Палявання! — далікатна прывітаўся Маўглі.

— Што чуваць у горадзе?—спыталася Белая Кобра заместа адказу.—У горадзе Цара Дваццаці Цароў, з вялізнымі сценамі навакол, у горадзе, які мае сто сланоў, дваццаць тысяч коняй і безліч скаціны? Я тут аглохла і даўно ўжо не чую ваенных барабанаў.

— Над нашай галавою—Джунглі,—адказаў Маўглі,—а з сланоў я ведаю толькі Хаці і яго трох сыноў. Багіра перадушыла ўсіх коняй у вёсцы... А што такое „цар"?

— Я-ж казаў табе,—ласкава звярнуўся Каа да Кобры,—я-ж казаў чатыры месяцы назад, што горада твайго няма.

— Горад, вялізны горад, брамы якога ахоўваюцца вежамі—ніколі не можа знікнуць! Яго пабудавалі яшчэ да таго, як бацька майго бацькі вылупіўся з яйка, і ён будзе існаваць, пакуль сыны маіх сыноў пабялеюць таксама, як я. Самандхі сын Чандрабінджы, сын Віенджы, сын Егасуры пабудаваў яго ў часе Бапа-Равал. А вы—чыя скаціна?

— Мы згубілі след,—звярнуўся Маўглі да Каа.— Я не разумею, што ён кажа.

— І я таксама. Ён вельмі стары. Дзед Кобр, тут толькі Джунглі, якія існавалі спрадвеку!

— Але хто-ж ён,—сказала Белая Кобра,—які стаіць перада мной і не баіцца мяне, які не ведае імя цара і гаворыць чалавечым языком? Хто ён, з нажом і змяінай мовай?

— Мяне завуць Маўглі. Я з Джунгляў. Ваўкі маё Племя, а Каа—мой брат. Дзед Кобр, хто ты такі?

— Я—вартаўнік царскай скарбніцы. Курун-раджа пабудаваў гэтае скляпенне нада мной у тыя часы, калі скура мая была цёмная, каб я караў смерцю ўсіх, хто прыйдзе сюды красці. Яны апусцілі сюды багацці, і я чуў спевы брамінаў, уладароў маіх.

— Гм!..—прамармытаў Маўглі.—Я ўжо меў справу з адным брамінам у Чалавечай Зграі і ведаю, у

чым справа: абавязкова здарыцца якая-небудзь бяда!

— За час маёй варты камень падымалі пяць разоў, але толькі для таго, каб кінуць яшчэ багаццяў, і ніводнага разу для таго, каб узяць. На свеце няма іншых падобных багаццяў, тут багацці сотні цароў. Але апошні раз камень падымалі даўно, вельмі даўно, і я думаю, што горад мой забыўся на мяне.

— Горада няма! Зірні, вунь корані вялізных дрэў, якія крышаць камні. Людзі і дрэвы не растуць разам!— запэўняў Каа.

— Два ці тры разы людзі забіраліся сюды,— гнеўна адказала Кобра,—але яны маўчалі, пакуль я не дакраналася да іх у цемры, і тады яны ўсе толькі ўскрыквалі. А вы, Змей і Чалавек, прыходзіце сюды з хлуснёй на вуснах і хочаце ўпэўніць мяне, што майго горада няма і варце маёй прыйшоў канец! Людзі мала змяняюцца праз гады, а я не змяняюся ніколі. Пакуль не падымуць камня і не прыдуць браміны з песнямі, і не напояць мяне цёплым малаком, і не выпусцяць мяне ў свет,—я, я, і ніхто іншы!—буду вартаўніком царскіх багаццяў. Горад загінуў, кажаце вы? У такім разе паспрабуйце ўзяць, што вам спадабаецца. Чалавек са змяінай мовай, калі ты здолееш жывым выйсці адсюль тым шляхам, якім прайшоў,—тады цары будуць служыць табе!

— Зноў згубіўся след!—спакойна прамовіў Маўглі.

— Няўжо сюды мог забрацца шакал і пакусаць Вялікага Белага Каптура? Ён пэўна звар'яцеў. Дзед Кобр, я не бачу тут нічога такога, што можна было-б узяць!

— Клянуся багамі Сонца і Месяца, хлопчык зусім ашалеў,—прашаптала Кобра.—Ну, пакуль ты назаўсёды закрыеш вочы, я зраблю табе ласку. Глядзі-ж і ўбачыш тое, чаго не бачыў аніводзін чалавек!

— Дрэнна бывае ў Джунглях тым, хто адважваецца „рабіць ласку“ Маўглі,—прамармытаў Маўглі.— Але, відаць, цемра збівае з панталыку. Ну, добра! Калі табе так хочацца, я пагляджу.

Прыплюшчыўшы вочы, Маўглі пачаў аглядаць склеп, і, нарэшце, падняў жменю нейкіх бліскучых штучак.

— Ого!—сказаў ён.—Гэта нібы тыя цацкі, з якімі гуляюць у Чалавечай Зграі! Толькі там рудыя, а тут жоўтыя.

Ён кінуў залатыя манеты і пайшоў далей. Падлога на метр вышыні была засыпана залатымі і срэбнымі манетамі, якія проста высыпаліся з мяшкоў на зямлю. За доўгія гады метал асеў і сціснуўся, нібы пясок у часе адліву. І як абломкі карабля на пяску, тут вытыркаліся палаткі для сланоў, абабітыя тоўстым золатам і ўпрыгожаныя карбункуламі і бірузой. Тут былі і паланкіны для царскіх жонак, аздобленыя срэбрам і эмаллю, залатыя падсвечнікі, абвешаныя смарагдамі, якія калыхаліся і звінелі; срэбныя статуі багоў з дарагімі каменнямі замест вачэй; сталёвыя панцыры з залатой насечкай і дробнымі пачарнелымі перламі; лакіраваныя шчыты з чарапахі і насарогавай скуры, акаваныя чырвоным золатам і аблямаваныя смарагдамі; шлемы з чырвонымі, як кроў, рубінамі; цэлыя кучы ўтыканых брыльянтамі мячоў, кінжалаў, паляўнічых нажоў; залатыя каўшы, царкоўныя чашы і алтары;

кубкі і бранзалеты з нефрыта; пукатыя залатыя збаны; пярсцёнкі для носа і для рук, павязкі для галавы, грэбні, паясы і безліч усялякіх дарагіх цацак. Ад струхлелых драўляных куфраў засталіся толькі жалезныя рэбры, праз якія высыпаліся неапрацаваныя шафіры, апалы, тапазы, рубіны, дыяманты, смарагды, гранаты.

Белая Кобра казала праўду. Ніякімі грашыма нельга было ацаніць усе гэтыя багацці, якія на працягу стагоддзяў сабіраліся войнамі, грабежніцтвам, гандлем і эксплаатацыяй. Адных толькі манет было дзвесце—трыста тон, не кажучы ўжо пра дарагія камні і іншыя рэчы.

Індускія князькі, нават самыя бедныя, і да гэтага часу маюць звычай збіраць і захоўваць золата, срэбра і дарагія каменні. Часам хто-небудзь з іх, больш „цывілізаваны“, пасылае сорак ці пяцьдзесят вазоў срэбра для абмену на валюту, але большасць свайго скарбу хавае ў натуры.

Маўглі, вядома, не разумеў значэння гэтых рэчаў. Зацікавілі былі яго нажы, але яны здаліся яму горшымі за яго ўласны, і ён кінуў іх.

Нарэшце ён знайшоў цікавы прадмет, які ляжаў спераду ў слановай палатцы-сядле. Гэта быў так званы „анк“, які ўжываецца для кіравання і паганяння сланоў. Ён быў больш за поўметра даўжынёю і па сваёй форме зусім падобны да нашага багра. На канцы яго яскравіўся круглы рубін, далей на трэцюю частку даўжыні анк быў асыпаны бірузой, потым быў нефрытавы абадок са смарагдавымі лісточкамі і рубінавымі кветкамі. Далей ішоў стрыжань з

чыстай слановай касці, а востры сталёвы канец быў аздоблен залатым малюнкам палявання на сланоў. Гэтымі малюнкамі і зацікавіўся Маўглі, бо яны мелі дачыненне да яго прыяцеля Хаці.

Белая Кобра ўвесь час сачыла за ім.

— Ну, што?—пыталася яна.—Няўжо-ж не варта памерці, каб убачыць усё гэта? Ці не вялікую ласку зрабіла я табе?

— Не разумею,—адказаў Маўглі.—Усе гэтыя рэчы цвёрдыя, халодныя і іх нельга есці. Але вось гэтую штуку—і ён падняў анк—я хачу ўзяць з сабой і паглядзець на яе пры сонцы. Ты кажаш, што ўсё гэта належыць табе. Ці не аддасі ты мне яе? А я затое прынясу табе жаб.

Белая Кобра аж дрыжала ад злоснай радасці.

— Вядома аддам!—сказала яна.—Усё, што тут ёсць, я табе аддаю, пакуль ты не захочаш выйсці.

— Але я зараз іду! Тут цёмна і холадна, і я хачу ўзяць гэтую востраканечную штуку з сабой у Джунглі.

— Зірні сабе пад ногі. Што ты там бачыш?

Маўглі падняў нешта белае і гладкае.

— Гэта косць ад чалавечага чэрапа,— спакойна прамовіў ён.—А во і яшчэ дзве!

— Яны прыходзілі сюды па скарб шмат гадоў назад. Я пагутарыла з імі ў цемры—і яны супакоіліся...

— Ды мне зусім і не патрэбны гэты так званы скарб! Аддасі мне анк—дык будзе Добрае Паляванне, а не—усёроўна будзе Добрае Паляванне. Я не б'юся

з Атрутным Племем ды яшчэ ведаю Уладарнае Слова твайго племя.

— Тут толькі адно Ўладарнае Слова—маё!

Каа кінуўся наперад, і вочы яго заблішчэлі.

— Хто прасіў мяне прывесці Чалавека?—спытаў ён.

— Ну, я!—адказала Кобра.—Я даўно не бачыла Чалавека, а гэты Чалавек гаворыць нашай мовай.

— Але ў нас не было гутаркі пра забойства! Як я пакажу вочы ў Джунглі, калі пакіну яго тут на смерць?

— Я яшчэ нічога не кажу пра забойства. А калі ты хочаш ісці, дык вось табе дзіра ў сцяне. Але ты будзь цішэй, тлусты забойца Малпаў! Варта мне толькі крыху дакрануцца да тваёй шыі,—і Джунглі больш цябе не ўбачаць. Ніводзін Чалавек, што прыходзіў сюды, не вышаў яшчэ адсюль жывым. Я—вартаўнік багаццяў царскага горада!

— Але кажуць-жа табе, белы чарвяк цемры, што цяпер няма ні цара, ні горада! Над намі толькі Джунглі. Чуеш?—крычаў Каа.

— Затое застаецца скарб. Ну, ды мы ўсё гэта самі ўлагодзім! Пачакай крыху, Каа, і пацешся, як хлопчык бегае. Тут досыць месца для добрай гульні. Пабегай узад і ўперад, хлопчык, і пагуляй!

Маўглі ціха палажыў сваю руку на галаву Каа.

— Да гэтага часу гэтае белае стварэнне мела справу толькі з людзьмі Чалавечай Зграі, мяне яно не ведае,—прашаптаў ён.— Ёй захацелася палявання—я ёй пакажу яго!

Маўглі трымаў анк вострым канцом уніз. Адзін міг—і шыя змяі, каля каптура, была прышпілена да зямлі. Каа націснуўся на яе і затрымаў рухі рэшты

цела. Толькі галава Кобры люта кідалася направа і налева, ды вочы гарэлі чырвоным агнём.

— Забівай!—сказаў Каа, калі рука Маўглі дакранулася да нажа.

— Не,—адказаў Маўглі,—я забіваю толькі для спажывы. Глянь, Каа! Ён схапіў змяю за галаву, расчыніў рот нажом і паказаў на верхняй сківіцы



страшныя атрутныя зубы. Чорныя і зморшчаныя, яны глыбока сядзелі ў дзясне. Белая Кобра „перажыла“ сваю атруту, як гэта здараецца са змеямі.

— Туу!.. высах!—сказаў Маўглі.—Пусці яе, Каа. І ён выцягнуў анк з цела Кобры.

— Для царскага скарбу патрэбен новы вартаўнік,— пахмура сказаў Маўглі. — А цяпер пабегай узад і ўперад і пагуляй!

— Мне сорамна, забі мяне!—прасіла Белая Кобра.

— І без таго тут надта многа гаворыцца пра забойства. Хадзі адсюль. А гэтую востраканечную штуку я бяру з сабой, бо я біўся і перамог цябе, Каптур!

— Глядзі, каб гэтая штука не забіла цябе пад канец. Гэта—Смерць. Памятай, гэта Смерць! Гэтая штука можа загубіць усіх жыхароў майго горада. Нядоўга будзеш ты ўладаць ёю, Чалавек Джунгляў, таксама як і той, хто адбярэ яе ад цябе. Людзі будуць забіваць, забіваць, забіваць адзін аднаго праз гэтую штуку! Мая сіла высахла, але анк зробіць маю справу. Гэта—Смерць! Смерць!

Маўглі вылез праз дзіру ў сцяне і, азірнуўшыся, убачыў як Белая Кобра люта кусае сваімі няшкоднымі зубамі дурныя морды залатых ідалаў і сіпіць: „Гэта Смерць!..“

Яны з палягчэннем уздыхнулі, выбраўшыся з падзямелля. У Джунглях Маўглі пачаў разглядаць пры святле бліскучы анк і захапляўся ім, як дзіўнай невядомай краскай.

— Гэта будзе яскравей за вочы Багіры!—задаволена казаў ён, прыглядаючыся да рубіна.—Я пакажу ёй гэтую штуку. Але што меў на ўвазе Каптур, калі казаў пра смерць? У гэтых Халодных Пячорах і ўверсе і ўнізе, усюды чакае бяда.

— Не ведаю. Але шкадую, што ён не паспытаў твайго нажа. Можа папалюем сёння разам?—прапанаваў Каа.

— Не. Трэба паказаць гэтую штуку Багіры. Добрага Палявання!

Маўглі пабег прэч, размахваючы вялізным анкам і час ад часу спыняючыся, каб пацешыцца з яго.

Нарэшце ён прыйшоў да Багіры, якая адпачывала каля вадапою пасля цяжкага палявання. Маўглі расказаў пантэры пра ўсе свае прыгоды з пачатку да канца. Багіра слухала і час ад часу абнюхвала анк. Калі Маўглі дайшоў да апошніх слоў Кобры, Багіра замуркала ў знак згоды.

— Значыцца, Белы Каптур сказаў праўду?—здзівіўся Маўглі.

— Я нарадзілася ў царскіх клетках у Удэйпуры, і здаецца, ведаю людзей. Шмат хто з іх гатоў зрабіць тры забойствы за ноч дзеля такога чырвонага камня.

— Але ад камня гэтая штука робіцца толькі цяжэйшай. Мой бліскучы ножык куды лепшы. А вось глядзі: чырвоны камень нават есці нельга. Завошта тут забіваць?

— Ідзі выспіся, Маўглі. Ты жыў сярод людзей і ўсё-ж такі...

— Успомніў ужо! Людзі забіваюць не таму, што палююць. Яны забіваюць дзеля пацехі і таму, што ім няма чаго рабіць. Для чаго-ж зроблена гэтая вастраканечная штука?

Багіра крыха расплюшчыла вочы—ёй вельмі хацелася спаць—і хітра падміргнула.

— Людзі зрабілі гэтую штуку для таго, каб утыркаць яе ў галаву сыноў Хаці, каб лілася кроў. Я гэта бачыла на вуліцах Ідэйпура перад нашымі клеткамі. Гэтая штука пакаштавала крыві вельмі многіх Хаці.

— Навошта яны ўтыркаюць яе ў галовы сланоў?

— Каб навучыць іх Чалавечаму Закону. Не маючы ні кіпцюроў, ні зубоў, людзі майструюць гэтыя штукі, ды робяць яшчэ і горшыя справы.

— Заўсёды кроў, калі наблізішся нават да рэчаў, зробленых чалавекам!—з агідай сказаў Маўглі, ды і цяжкі анк ужо абрыдаў яму.—Каб я ведаў, ніколі не ўзяў-бы гэтай штукі. Тады я бачыў кроў Месуі на рэмнях, а цяпер бачу кроў Хаці. Я больш не хачу да яе дакранацца. Глядзі!

Анк, бліскаючы як агонь, паляцеў і ўпіўся ў зямлю між дрэў.

— Цяпер мае рукі ачысціліся ад смерці,—сказаў Маўглі, пераціраючы рукі свежай вільготнай зямлёй. Але яна—старое, белае, бяззубае стварэнне.

— Белае ці шэрае, смерць ці жыццё, а я іду спаць, Братка. Я не магу паляваць усю ноч, а потым скавытаць увесь дзень, як робяць іншыя.

Багіра пайшла ў сваё паляўнічае логава, мілі на дзве ў бок, а Маўглі ўскараскаўся на дрэва, звязаў тры ці чатыры ліяны і праз момант ужо спаў, калыхаючыся ў гамаку на вышыні пятнаццаці метраў. Хоць ён і не адчуваў агіды да дзённага святла, як яго сябры, але разам з імі стараўся як мага менш заставацца на сонцы.

Гоманка ўсялякіх жыхароў на дрэвах разбудзіла яго пад вечар. Яму сніліся прыгожыя каменьчыкі, што ён бачыў у пячоры.

— Зірну прынамсі яшчэ раз на гэтую штуку,— прамармытаў ён і спрытна спусціўся па ліянах на зямлю.

Багіра была ўжо пад дрэвам. Маўглі чуў, як яна сапла ў змроку.

— Дзе востраканечная штука?—крыкнуў Маўглі.

— Яе забраў Чалавек. Во яго след.

— Паглядзім, ці праўду сказаў Каптур. Калі востраканечная штука—смерць, дык гэты чалавек памрэ. Пойдзем за ім!

— Падмацуйся спачатку, — параіла Багіра. — На пусты жывот вока дрэнна бачыць. Людзі—целяпні. У Джунглях вільготна, і сляды добра адбіліся.

Яны злавілі першую, якая трапілася, дзічыну, але толькі праз тры гадзіны адчулі сябе сытымі як мае быць, напіліся і пайшлі, схіліўшыся, па следу. Жыхары Джунгляў ведаюць, што абедаць са спешкай нядобра.

— Няўжо-ж ты думаеш, што востраканечная штука павернецца ў руцэ чалавека і заб'е яго?— пытаўся Маўглі.

— Гэта мы ўбачым,—сказала Багіра, не падымаючы галавы.—След—аднаногі (яна хацела сказаць, што гэта след аднаго чалавека), і ад цяжару той штукі пяткі яго глыбока ўціснуліся ў зямлю.

— Так, гэта ясна, як летняя маланка,—сказаў Маўглі, і яны хутка пабеглі па плямах месяцавага святла, не спускаючы вачэй са слядоў ад пары голых ног.

— Цяпер ён шпарка бяжыць,—заўважыў Маўглі.— Канцы ног рассунуліся ў бакі. Але чаму след тут заварочваецца?

— Пачакай!—сказала Багіра і зрабіла велізарны, адмысловы скачок (калі след робіцца невыразным, яго трэба пераскочыць, каб не заблытаць сваімі ўласнымі слядамі).

Там яна павярнулася да Маўглі і крыкнула:

— Тут ідзе насустрач другі след! У гэтага следу нага маленькая і пальцы павернуты ў сярэдзіну.

Маўглі падбег і прыгледзеўся.

— Гэта нага паляўніка-гонда,—сказаў ён.—Глядзі! Вось ён валачыў свой лук па траве. Дык вось чаму першы след так раптоўна звярнуўся ў бок: Вялікі хаваўся ад Малога.



— Верна,—згадзілася Багіра.—Ну, а цяпер, каб не блытаць слядоў, кожны з нас хай возьме асобны след. Я буду Вялікая Нага, а ты—Малая Нага.

Багіра кінулася па першаму следу, а Маўглі схіліўся над следам малога ляснога дзікуна.

— Такім чынам,—казала Багіра, ідучы па следу крок за крокам,—я, Вялікая Нага, тут заварочваю ў бок. Цяпер я хаваюся за камень і ціха стаю, баючыся крануць нагой. Крыкні свой след, Братка!

— А я—Малая Нага, падыходжу да камня,—адказаў Маўглі.—Цяпер я саджуся ля камня, апіраючыся на правую руку і кладу свой лук паміж ног. Я чакаю доўга, бо тут мая нага глыбока ўціснулася...

— І я таксама...—казала Багіра, хаваючыся за камнем.—Я чакаю, абапершыся канцом востраканечнай штукі аб камень. Яна саслізнулася—во на камні шрам.—Раскажы свой след, Братка!

— Тут абламалася некалькі галінак і вялікі сук,—мармытаў Маўглі.—Што-ж мне цяпер сказаць? А, разумею! Я, Малая Нага, іду прэч смела, з шумам і тупатам, так што Вялікая Нага чуе мяне...

І Маўглі крок за крокам пачаў аддаляцца ад камня, пакуль не дайшоў да невялікага водаспада. Адсюль ён крыкнуў Багіры:

— Я адыходжу далёка... туды, дзе шум вады заглушае мой шум... і тут чакаю. А які ў цябе след, Вялікая Нага?

Пантэра кідалася ва ўсе бакі, шукаючы следу Вялікай Нагі ад скалы, і, нарэшце, крыкнула:

— Я высоўваюся з-за камня на каленах і валаку востраканечную штуку. Не заўважыўшы нікога, я пачынаю бегчы. Я, Вялікая Нага, бягу шпарка. След выразны. Няхай кожны з нас бяжыць па свайму следу. Я пабегла!

Кожны з іх кінуўся па сваіх слядах, і на некаторы час у Джунглях зрабілася ціха.

— Дзе ты, Малая Нага?—крыкнула Багіра.

Голас Маўглі пачуўся за пяцьдзесят крокаў.

— Ага!—прамармытала Багіра.—Цяпер сляды бягуць побач і паступова зближаюцца...

Так яны прабеглі яшчэ з поўмілі, і нарэшце, Маўглі, галава якога была вышэй ад зямлі, як галава Багіры,—першы ўбачыў збліжэнне.

— Яны сустрэліся! Добрага Палявання! Вось тут Малая Нага абаперся каленам на камень, а вунь ляжыць Вялікая Нага!

За дзесяць крокаў, на крушні дробных каменняў, ляжала цела мясцовага селяніна. Тонкая, з пер'ем, гондаўская страла прабіла яму грудзі наскрозь.

— Як бачыш, Кобра не такое ўжо зышоўшае з розуму стварэнне, як ты думаў, Братка!—усміхнулася Багіра.—Прынамсі адна смерць ужо ёсць.

— Пойдзем далей. Але дзе-ж слановы крывасмок—Чырвоная Калючка?

— Мусіць, у Маленькай Нагі. Цяпер зноў след пайшоў аднаногі.

След лёгкага чалавека, які бег са значным цяжарам на левым плячы, ішоў па сухой траве і для пільнага вока нашых следапытаў быў такім выразным, нібы яго выпалілі гарачым жалезам.

Абодва маўчалі, пакуль след не прывёў іх да пагаслага вогнішча ў лагчыне.

— Зноў!—крыкнула Багіра, спыніўшыся на месцы, як скамянелая.

Зморшчанае цела маленькага гонда ляжала, утыркнуўшыся ў попел. Багіра пытліва паглядзела на Маўглі.

— Гэта зроблена бамбукавым кіем,—прамовіў Маўглі, зірнуўшы на мёртвае цела.—Я сам ужываў яго, калі пасвіў буйвалаў Чалавечай Зграі. Дзед Кобр, як



я цяпер шкадую, што здзекваўся з цябе! Дзед Кобр, відаць, добра ведае гэтую пароду. Ды і я павінен быў-бы лепш ведаць яе. Але-ж ці не казаў я, што людзі забіваюць дзеля пацехі?

— Так, яны зрабілі забойства дзеля чырвоных і сініх каменьчыкаў,—адказала Багіра.—Я-ж ведаю, я жыла ў каралеўскіх клетках у Удэйпуры.

— Раз, два, тры, чатыры сляды!—казаў Маўглі, схіліўшыся над попелам. -Чатыры сляды людзей з падкаванымі нагамі. У абутку яны ходзяць не так шпарка, як гонды. Але што дрэннае зрабіў ім маленькі лясны жыхар? Глядзі, яны гутарылі ўпяцёх перад тым, як забіць яго. Багіра, пойдзем назад! У мяне баліць сэрца. Яно скоча ўва мне, нібы гняздо івалгі на канцы галінкі.

— Кепскі-ж з цябе паляўнік, калі кідаеш дзічыну

на палове дарогі! Хадзем! Гэтыя восем падкованых недалёка адышліся.

Цэлую гадзіну яны не сказалі аніводнага слова, ідучы па следу чатырох чалавек у абутку. Быў поўдзень. Сонца пякло.

— Я чую дым!—сказала Багіра.

— Людзі больш здольныя есці, як бегчы,—адказаў Маўглі, шнырачы сярод калючых кустоў.

Раптам Багіра, якая бегла крыху наперадзе, крыкнула:

— А во Чалавек, якому болей ужо не прыдзецца ні есці, ні бегчы!

Цела ў стракатым убранні ляжала пад кустом, а вакол была рассыпаная мука.



— Гэта зноў зроблена бамбуком,—сказаў Маўглі.— Глядзі, вунь гэты белы пыл ядуць людзі. Яны адабралі ежу ў таго чалавека, які нёс яе, а яго самога аддалі на здабычу Каршуну-Чылю.

— Гэта ўжо трэці!—сказала Багіра.

— Абавязкова занясу Дзеду Кобру тлустых жаб і накармлю яго!—мармытаў сам сабе Маўглі.—Слановы крывасмок—сама Смерць! Але я ўсё яшчэ не разумею, у чым справа...



— Ідзем далей!—сказала Багіра.

Не прайшлі яны і поўмілі, як пачулі кругана Ко, які спяваў хаўтурную песню на верхавіне тамарыска, пад якім ляжалі тры трупы. Ад вогнішча яшчэ ішоў дымок; над ім на жалезнай блясе ляжаў абгарэлы кавалак цеста. А побач яскравіўся на сонцы бірузова-рубінавы анк.

— Спрытна працуе гэтая штука!—прамовіла Багіра.—Але ўсё скончылася. Толькі не разумею, як памерлі гэтыя. На іх няма ніякага знаку.

Кожны жыхар Джунгляў не горш ад доктара ведае атрутныя расліны і ягады. Маўглі панюхаў дым, узяў у рот кавалак абгарэлага цеста і зараз-жа выплюнуў.

— Яблык Смерці!—крыкнуў ён.—Чалавек, што забіў гонда, падрыхтаваў атруту для гэтых трох, а яны забілі яго самога.

— А што будзе цяпер?—сказала Пантэра.— Няўжо-ж і нам з табой прыдзецца забіць адзін аднаго праз гэтага чырвонавокага забойцу?

— Няўжо-ж ён можа гаварыць? Няўжо-ж я пакрыўдзіў яго, калі кінуў прэч?—прашаптаў Маўглі.— Але паміж нас нічога такога не будзе, бо нам не патрэбна тое, чаго жадаюць людзі. Але-ж калі пакінуць гэтую штуку тут, яна будзе забіваць людзей аднаго за адным без перапынку,—вось як арэхі сыпяцца ў буру. Я не люблю людзей, але ў мяне зусім няма жадання, каб яны паміралі пашасцёра за ноч.

— А што нам да таго? Яны-ж толькі людзі. Яны забівалі адзін аднаго і адчувалі сябе вельмі добра,—сказала Багіра.—А той малы лясны жыхар добра паляваў!

— Шчаняты яны і больш нічога! А шчанё гатоў утапіцца, каб укусіць свой цень у вадзе,—разважаў Маўглі.—Але-ж ва ўсім гэтым вінаваты я. Ніколі цяпер не буду прыносіць у Джунглі чужых рэчаў, хоць-бы яны былі прыгажэйшыя за кветкі. А гэта,— і Маўглі асцярожна ўзяў анк,—пойдзе назад да Дзеда Кобра. Але спачатку паспім, толькі не тут. Ды трэба яшчэ закапаць гэтую штуку, а то яна

ўцячэ і заб'е яшчэ шасцёра. Выкапай яму пад гэтым дрэвам!

— Але-ж я кажу табе, Братка, што гэта не крывасмок вінаваты, — бурчэла Багіра, прымаючыся за працу. — Уся справа ў людзях!

— Усёроўна! — адказаў Маўглі. — Капай яму глыбей. Калі мы выспімся, я аднясу гэтую штуку назад.



Праз дзве ночы, калі Белая Кобра, пакрыўджаная, абрабаваная і адзінокая, сумавала ў цёмным склепе, з дзіры ў сцяне вылецеў бірузовы анк і бразнуўся на груды залатых манет.

— Дзед Кобр! — пачуўся па-за сцяной голас Маўглі: — Знайдзі сабе маладога і дужага памочніка з твайго племя. Няхай ён паможа табе сцерагчы царскі скарб, каб ніводзін чалавек не вышаў адсюль жывым.

— Ага! Значыцца, гэтая штука вярнулася! Я-ж казала, што гэта Смерць! Але якім чынам ты выратаваўся?—спыталася Старая Кобра, з замілаваннем абвінаючыся вакол халоднага анка.

— Клянуся Быком, што выкупіў мяне, я не ведаю... Гэтая штука зрабіла шэсць забойстваў за адну ноч! Больш не выпускай яе адсюль...





# РУДЫЯ САБАКІ

Гатовы мы біцца за белыя ночы,
За нашы бадзёрыя, пільныя вочы;
За час палявання ў празрыстым
тумане,
За гульні і скокі на светлай паляне;
За матку старую, шчанят маладых,
За логава ўтульнае ў пушчах лясных;
За досвіткі росныя, начныя пахі,
За нашу здабычу, і радасць, і жахі.
Да смерці за ўсё гэта будзем стаяць,
Пакуль яшчэ здольныя зубы кусаць.

Пасля таго, як вёска Маўглі зарасла Джунглямі, для яго пачалося вельмі прыемнае жыццё. Ён цешыўся, што пакваітаўся, як мае быць, з ворагамі. Усе жыхары Джунгляў былі яго прыяцелямі, бо ўсе Джунглі яго баяліся.

Пра тое, што ён бачыў, чуў і рабіў, бадзяючыся са сваімі чатырма таварышамі, ці без іх, ад аднаго племя да другога,—можна было-б напісаць шмат апавяданняў, такіх самых доўгіх, як і гэтае.

Так вам і не давядзецца прачытаць, як ён сустрэўся, а потым выратаваўся ад Шалёнага Слана з Мандлы, які забіў адзінаццаць пар быкоў, што вязлі адзінаццаць вазоў са срэбнымі грашыма ў дзяржаўны банк Індыі, і параскідаў бліскучыя манеты, рупіі, па пыльнай дарозе;

як ён цэлую доўгую ноч біўся з кракадзілам Джакалай у Балотах Поўначы і зламаў, нарэшце, свой нож аб спінныя рагавіцы страшыдлы;



як ён знайшоў новы доўгі нож, які вісеў на шыі чалавека, забітага дзікім вепрам, і як ён прасачыў гэтага вепра і забіў яго ў адплату за нож;

як ён у часе Вялікай Галадухі трапіў у гурт аленяў, якія нястрымна несліся наперад, і як яны ледзь не растапталі яго насмерць;

як ён выратаваў Маўклівага Слана Хаці, які ледзь не трапіў у яміну з вострым колам на дне;

як ён, сам Маўглі, трапіў раз у дасціпна замаскаваную пастку для леапардаў, адкуль яго выратаваў Хаці, які разнёс ушчэнт тоўстыя бярвенні;

як ён даіў дзікіх буйваліц на балоце, як ён... Ну, ды калі расказваць, то лепш пра што-небудзь адно.

Бацька Воўк і Маці Ваўчыха памерлі. Маўглі прыкаціў да ўваходу вялізны камень і праспяваў над трупамі Песню Смерці. Балу састарэўся і аслаб. Нават Багіра, жылы якой былі, як сталь, і мускулы, як жалеза, нават яна здавалася не такой спрытнай у бойцы.

Акела з шэрага зрабіўся белым. Рэбры вытыркаліся з яго бакоў і хадзіў ён, як драўляны. Маўглі забіваў для яго здабычу.

Затое маладыя ваўкі, дзеці распушчанай Сіанійскай Зграі, жылі добра і павялічваліся. І калі сярод іх набралося дзесятка чатыры пяцігадовых, Акела сказаў ім, што яны павінны аб'яднацца выконваць Закон, пад кіраўніцтвам адзінага начальніка, як належыць Вольнаму Племю.



Маўглі не прымаў удзелу ў гэтай справе, і казаў што ён ужо пакаштаваў кіслых пладоў і ведаў дрэва, на якім яны растуць. Але калі Фао, сын Фаона (бацька яго быў галоўным выведнікам дзічыны ў часе кіравання Акелы), паводле Закону Джунгляў у бойцы заваяваў пасаду правадыра, і калі стары кліч і старыя песні зноў пачуліся пад зоркамі,—Маўглі ўспомніў мінулае і зноў пачаў наведваць Скалу Рады. Садзіўся ён звычайна побач з Акелам, крыху вышэй ад Фао, і калі ён гаварыў, уся Зграя ўважліва слухала і не перапыняла яго.

Гэта былі добрыя дні палявання і салодкага сну.

Ніхто не адважваўся савацца ў Джунглі, якія належалі Племю Маўглі, як звалі гэтую зграю. Маладыя ваўкі гадаваліся моцнымі, тлустымі, і на Скалу Рады маткі прыносілі шмат дзяцей для агляду. Маўглі заўсёды прысутнічаў на аглядзе, бо яшчэ памятаў тую ноч, калі і ён сам быў прыняты ў Зграю. Ад працяглага клічу: „Глядзіце, добра глядзіце, о ваўкі!“ яго сэрца і цяпер пачынала мацней стукаць.

Наогул-жа ён больш бадзяўся па далёкіх Джунглях і ўсюды стараўся прыгледзецца, памацаць, пакаштаваць, абнюхаць усё новае, што яму траплялася.

Аднаго разу, пад вечар, ішоў ён паціху да Акелы і нёс яму палову аленя. Яго чатыры браты ішлі за ім і весела скакалі па дарозе ды куляліся. Раптам ён пачуў крык, якога не чуў з нядобрых часоў Шэр-Хана. Такі крык, які ў Джунглях завецца „фіэл“, звычайна выдае шакал, калі ён палюе па слядах тыгра. І такі самы крык раздаецца, калі набліжаецца які-небудзь страшны забойца.

Калі-б можна было ўявіць сябе злучэнне гукаў, якія выказваюць нянавісць, радасць, жах, роспач і здзек, дык гэта быў-бы „фіэл“, які цяпер узняўся, задрыжаў і сціх над Вайнгунгай.

Чацвёра ваўкоў натапырыліся і зарыкалі. Маўглі схапіўся за нож і таксама спыніўся і скамянеў.

— Ніякі Паласаты не адважыўся-б тут паляваць!—сказаў ён нарэшце.

— Гэта не крык Паласатага, — сказаў Шэры Брат.—Гэта кліч вялікага бою. Слухай.

Зноў пачуўся крык, падобны ні то да плачу, ні то да смеху, быццам у шакала былі чалавечыя вусны.



Маўглі стралой панёсся да Скалы Рады, выпераджаючы ваўкоў, што спяшаліся туды. Фао і Акела сядзелі на Скале, а пад ёю мітусіліся ўсе іншыя ваўкі Зграі. Маткі з дзецьмі спяшаліся ў свае логавы, бо калі па Джунглі разносіцца „фіэл“, слабым жывёлам не месца на волі.

У цемры чулася толькі бульканне Вайнгунгі ды шум вячэрняга ветру ў верхавінах дрэў. Раптам з-за ракі данёсся голас ваўка з чужой Зграі:

— Дхол! Дхол! Дхол!...

Праз некалькі хвілін пачуўся тупат стомленых ног і паказаўся хударлявы воўк. Са скуры яго сцякала вада, бок быў скрываўлены і правая пярэдняя нага пакалечаная. Вакол рота была белая пена. Ён, запыхаўшыся, падбег да Скалы і лёг ля ног Маўглі.

— Добрага Паляваньня! Якой Зграі?—важна спытаўся Фао!

— Добрага Паляваньня! Я—Вантола,—быў адказ. Ён хацеў сказаць, што ён Воўк-Самотнік, які самастойна змагаецца за сябе, сваю ваўчыху і сваіх дзяцей. „Вантола“ азначае „адшчапенец“, які жыве „на волшыбе“.

— Хто наступае?—спытаўся Фао.

— Дхолы, Дхолы, забойцы з Дэкана! Яны прыбеглі на поўнач з поўдня і кажуць, што спустошылі ўвесь Дэкан, што ўсіх забілі па дарозе. Калі гэты месяц быў яшчэ малады, са мной было чацвёра—мая ваўчыха і трое шчанят. Яна навучала іх паляваць у траве, хавацца ў засадзе ад аленяў, як робім мы ўсе, жыхары раўнін. У поўначы яшчэ чуў, як усе яны вылі, патрапіўшы на след дзічыны, а раніцою знайшоў іх усіх мёртвымі. А іх было чацвёра, Вольнае Племя! Іх было чацвёра на маладзік! Тады я пагнаўся за Дхоламі, каб заплаціць доўг крыві.

— Колькі іх?—спытаўся Маўглі, а Зграя глуха зарыкала.

— Не ведаю. Трох я забіў, а рэшта кінуліся на мяне і пагналі, як аленя. І я ўцякаў ад іх, бег на трох нагах, Вольнае Племя. Паглядзіце!

Ён працягнуў сваю скрываўленую нагу, чорную ад крыві. Горла яго было пакусанае, бок быў пакрыты страшнымі ранамі.

— Падмацуйся!—сказаў Акела і адсунуўся ад аленяціны, што прынёс яму Маўглі.

Вантола прагна накінуўся на мяса.

— Я аддзякую за гэта,—сказаў ён, сцішыўшы першы голад.—Дайце мне крыху ачуняць, Вольнае Племя, і я таксама буду біцца. Апусцела маё логава якое на маладзік было поўнае, і я не выплаціў яшчэ свайго крывавага доўгу.

Фао пачуў, як тоўстыя косці трашчаць пад зубамі госця, і задаволена буркнуў.

— Нам спатрэбяцца гэтыя сківіцы. А ці ідуць з Дхоламі шчаняты?

— Не, не! Усё дарослыя сабакі свайго племя, дужыя рудыя паляўнікі.

Гэта азначала, што Дхолы, дзікія сабакі Дэканскага плоскаўзвышша, ідуць з боем, а ваўкі добра ведалі, што нават тыгр саступае дарогу Дхолам. Яны рухаюцца проста па Джунглях і раздзіраюць на шматкі ўсіх, хто сустрэнецца па дарозе. Хоць яны напалову меншыя і дурнейшыя за ваўкоў, але вельмі дужыя і шматлікія. Яны лічаць сябе зграяй толькі тады, калі іх збярэцца не менш за сотню, а ў ваўкоў ужо сорак лічыцца вялікай зграяй.

У часе сваіх вандраванняў Маўглі падыходзіў і да стэпавых узвышшаў Дэкана, і не раз бачыў, як гэтыя сабакі спалі ці гулялі, або чухаліся ў лагчынах, дзе яны робяць сабе логавы. Ён ненавідзеў і гідзіўся іх за тое, што яны пахнуць не так, як Вольнае Племя, за тое, што яны не жывуць у пячорах, а больш за тое, што ў іх расце поўсць паміж пальцаў у той час, як ногі ў яго і ў яго сяброў былі чыстыя. Але ён ведаў ад Хаці, якая страшная і небяспечная зграя Дхолаў. Сам Хаці саступае ім дарогу, і пакуль іх усіх не пазабіваюць ці пакуль не знікне ўся дзічына, яны ня-

ўхільна ідуць і ідуць наперад, усё знішчаючы на сваім шляху.

Акела таксама ведаў Дхолаў і, звярнуўшыся да Маўглі, спакойна сказаў:

— Гэта будзе добрае паляванне і... апошняе для мяне. Але лепш памерці разам з усёй Зграяй, як аднаму. А ты, Браток, як Чалавек, будзеш жыць яшчэ многа дзён і начэй. Ідзі на поўнач і заляг там. І калі застанецца жывым пасля Дхолаў хоць адзін воўк, ён прынясе табе весткі пра вялікі бой.

— Значыцца, мне трэба пайсці ў балота, лавіць рыбак і спаць на дрэвах, ці прасіць дапамогі ў Бандар-Лога ды есці арэхі ў той час, як мая Зграя будзе біцца ўнізе?—сурова сказаў Маўглі.

— Гэта будзе бойка насмерць,—сказаў Акела.— Ты-ж ніколі не сустракаўся з Дхоламі, Рудымі Забойцамі. Нават Паласаты...

— Аоуа! Аоуа!—насмешліва сказаў Маўглі.—Я забіў аднаго разу паласатую малпу... Слухайце-ж цяпер, што я скажу вам усім! Быў у мяне Воўк Бацька і была Ваўчыха Маці, і быў яшчэ стары-стары сівы воўк (не вельмі разумны: ён цяпер белы), які замясціў для мяне маці і бацьку. Таму я... і ён узмоцніў голас,—я кажу, што калі прыдуць Дхолы, то Маўглі і Вольнае Племя—адзіны народ для гэтага палявання! І клянуся Быком, што выкупіў мяне, Быком, як Багіра заплаціла за мяне ў тыя дні, якія Зграя цяпер не памятае,—я кажу, і хай дрэвы і рака слухаюць і ўпомняць, калі я забудуся!—я кажу, што вось гэты мой нож будзе зубам для Зграі, а ён не тупы! Я сказаў сваё слова!

— Ты не ведаеш Дхолаў, о Чалавек з мовай ваўка!—ускрыкнуў Вантола. — Я хацеў-бы толькі заплаціць ім мой доўг крыві раней, як яны раздзяруць мяне на шматкі. Яны паволі рухаюцца наперад, але праз пару дзён мая сіла вернецца да мяне і я пачну плаціць свой доўг крыві. А вам, Вольнае Племя, мая парада: ідзіце на поўнач, ешце меней, пакуль Дхолы пройдуць. У гэтае паляванне не будзе сну.

— Слухай ты, Самотнік!— крыкнуў Маўглі са смехам.—Выходзіць, што Вольнае Племя павінна пайсці на поўнач і жывіцца яшчаркамі і пацукамі, каб не сустрэцца з Дхоламі? А Дхол будзе нішчыць нашу дзічыну, пакуль мы будзем хавацца на поўначы і пакуль яму самому не прыйдзе ў галаву пакінуць нашу зямлю? Ды яны нават і не сабакі, а шчаняты! Поўсць у іх рыжая, бруха жоўтае і ў іх родзіцца па шэсць і нават па восем шчанят, нібы ў якога-небудзь маленькага пацука Чыкая. Яны не жывуць у логавах, як мы, а між пальцаў у іх растуць валасы! Вядома нам, Вольнаму Племю, трэба ўцякаць ад іх і прасіць ласкі ў паўночных пляменняў, каб яны кінулі нам вантробы здохлай скаціны! О, Вольнае Племя! Памятайце, што мы—гаспадары Джунгляў. Гэта будзе адмысловае паляванне. За ўсю Зграю, за кожнага з нашых таварышоў, за логава, за малое, слабенькае шчаня! На бой! На бой! На бой!

Зграя адказала аглушальным брэхам, які загрукатаў уначы, як трэск зламанага дрэва:

— Прымем бой!!

— Заставайцеся тут,—сказаў Маўглі сваім чатыром братам.—Нам патрэбны кожны лішні зуб. Фао і Акела

хай падрыхтуюць усё да бою. Я пайду лічыць сабак.

— Ды гэта-ж пэўная смерць?—закрычаў Вантола.— Што можа зрабіць гэты Безвалосы супроць Рудых Сабак? Нават Паласаты, як вы ведаеце...

— Ды ты, як я бачу, сапраўдны Самотнік!—крыкнуў у адказ Маўглі.—Але мы пагаворым, калі Дхолы будуць пазабіваныя. Добрага Палявання вам усім!

Ён пабег у цемру, не гледзячы сабе пад ногі, і праз некалькі часу заблытаўся нагамі ў нечым мяккім і паваліўся на... груду кольцаў Каа! Пітон ляжаў у засадзе ля сценкі, па якой алені хадзілі на вадапой.

— Кссшш!—гнеўна крыкнуў Каа.—Што гэта за парадкі такія—таптаць народ і псаваць начное паляванне, і акурат тады, калі дзічына так добра ідзе?

— Выбачай!—сказаў Маўглі, устаўшы на ногі.— Ды я-ж цябе і шукаў, Плоскагаловы! Але кожны раз, калі мы сустракаемся, ты робішся даўжэй і шырэй на цэлую маю руку. Нікога няма ў Джунглях лепшага за цябе, о мудры, стары, дужы і харошы Каа!

— Але куды-ж вядзе цябе след?—сказаў Каа лагодней.—Яшчэ месяца не мінула, як Чалавек з нажом шпурляў у мяне каменнем і лаяў рознымі дрэннымі словамі, нібы тую малую дрэўную кошку. І ўсё гэта толькі за тое, што я заснуў на палянцы.

— Так, і распудзіў усю дзічыну. Кожны алень, якога я выганяў, уцякаў, як шалёны, убачыўшы вось гэтага Плоскагаловага. А ён быў надта глухі, каб пачуць лай, свіст і адпаўзці ў бок,—спакойна казаў Маўглі, сядаючы на стракатыя кольцы змяінага тулава.

— А цяпер гэты самы Чалавечак прыходзіць да гэтага самага Плоскагаловага з лісліўымі словамі, называе яго і мудрым, і дужым, і прыгожым, а гэты самы Плоскагаловы верыць таму Чалавеку, што шпурляе каменні, і яшчэ гэты самы Плоскагаловы нават нарыхтоўвае яму ўтульнае месцейка, вось гэтак... Ну, што, добра цяпер табе сядзець? Ці магла-б Багіра зрабіць табе такі добры ложак?

Каа, як заўсёды, зрабіў з свайго цела нібы мяккі гамак для Маўглі. Хлопчык намацаў у цемры шыю Каа, палажыў галаву яго сабе на плячо і расказаў пра апошнія падзеі ў Джунглях.

— Можа я і мудры,—сказаў Каа,—але-ж я і глухі, бо не чуў „фіэл“. Цяпер я разумею, чаму траваедныя сёння такія неспакойныя. Колькі іх, Дхолаў?

— Я іх яшчэ не бачыў, бо адразу-ж пабег да цябе. Вось будзе выдатнае паляванне, Каа!—і Маўглі аж закруціўся ад радасці.—Мала хто з нас убачыць наступны месяц!

— Ты таксама прымаеш у гэтым удзел? Памятай, што ты Чалавек,—і памятай, што Зграя выгнала цябе. Хай сабе ваўкі змагаюцца з сабакамі. Ты — Чалавек!

— Леташнія арэхі сёлета ператварыліся ў чорную зямлю,—сказаў Маўглі:—Гэта праўда, што я—Чалавек. Але ў гэтую ноч я абвясціў, што я—Воўк. Я запрасіў у сведкі раку і дрэвы. Я сын Вольнага Племя, Каа, да таго часу, пакуль Дхолы не загінуць.

— Вольны Народ!—насмешліва сказаў Каа.—Вольныя Злодзеі! І ты звязаў сябе Вузлом Смерці дзеля мёртвых Ваўкоў? Нядобрае гэтае паляванне!

— Я даў слова. Дрэвы ведаюць, рэчка ведае. Пакуль Дхолы не знікнуць, слова мае застанецца.

— Нгшш! Гэта змяняе ўсе сляды. Я думаў быў узяць цябе з сабою ў Паўночныя Балоты, але Слова, нават Слова маленькага, голага, безвалосага Чалавечка— застанецца Словам. Дык вось я, Каа, кажу...

— Падумай, Плоскагаловы, добра, перш чым увязацца ў гэты Клубок Смерці. Мне ад цябе слова не трэба, бо я і так ведаю...

— Хай будзе так,—сказаў Каа.—Слова я не даю. Але што-ж ты думаеш рабіць, калі Дхолы прыдуць?

— Яны павінны пераплысці Вайнгунгу. Я хацеў сустрэць іх на мялізне. Са мной будзе нож, а ззаду ад мяне—Зграя. Мы можам пагнаць іх уніз па рацэ і крыху ахаладзіць ім глоткі.

— Дхолы не зварочваюць з свайго шляху, і глоткі ў іх заўсёды гарачыя,—адказаў Каа.—А калі скончыцца гэтае паляванне, дык не будзе ўжо ні Чалавечага Дзіцяці, ні воўчых шчанят, а будуць толькі сухія косці.

— Алала! Што-ж, паміраць, дык паміраць! Затое-ж і паляванне будзе! Лепшага плана я не мог выдумаць: я яшчэ малады, і мала бачыў Дажджоў. Можа ў цябе ёсць лепшы план, Каа?

— Я бачыў сотню і яшчэ сотню дажджоў. Мой след быў вялікі яшчэ да таго часу, як у Хаці выраслі малочныя зубы. Клянуся Першым Яйкам, я старэйшы за многія дрэвы і бачыў усё, што рабілася ў Джунглях.

— Але-ж гэта новае паляванне!—сказаў Маўглі.— Ніколі яшчэ Дхолы не перасякалі нашага следу.

— Усё, што ёсць, ужо было. Усё, што будзе— гэта забыты год, які вярнуўся. Пасядзі ціха, пакуль я ўспомню ўсе мае мінулыя гады.

Маўглі доўга ляжаў на звілінах змяінага цела і бавіўся з нажом, пакуль Каа, прыціснуўшыся да зямлі, абдумваў усё тое, што ён бачыў і што ён ведаў з таго дня, калі вылупіўся з яйка. Бляск знік у яго вачах, і яны зрабіліся цьмяныя, як апалы. Час ад часу ён торгаў галавой направа і налева, нібы паляваў ува сне. Маўглі, нарэшце, задрамаў. Ён ведаў, што самае лепшае падмацаванне перад паляваннем гэта сон, таму прывучыў сябе засыпаць у абы які час дня і ночы.

Але вось Маўглі адчуў, што Каа робіцца буйнейшым і шырэйшым пад яго целам. Вялізны Пітон надзьмуваўся з сіпеннем, падобным да таго гуку, які бывае, калі вымаюць шаблю з металічнай похвы.

— Я бачыў усе мёртвыя гады,—сказаў Каа.— І ўсялякія дрэвы і старых сланоў, і скалы, якія яшчэ былі голыя і востраканечныя, пакуль неараслі мохам.—Ты яшчэ жывы, Чалавечае Дзіцянё?

— Зусім нядаўна яшчэ ўзышоў месяц,—адказаў Маўглі.—Я не разумею.

— Шшш! Я зноў Каа. Я разумею, што прайшло не дужа часу. Цяпер мы пойдзем да ракі, Чалавек, і я пакажу табе, што можна зрабіць з Дхоламі.

Ён выпрастаўся, хутка папоўз да Вайнгунгі і апусціўся ў ваду вышэй ад Скалы Згоды. Маўглі таксама кінуўся ў ваду і паплыў.

— Не, ты не паспееш за мной. Я паплыву шпарка. Лепш сядай мне на спіну, Маленькі Братка.

Маўглі ахапіў праваю рукою шыю Каа, левую прыціснуў да свайго цела і выцягнуў ногі. І Каа паплыў так, як ён адзін умеў плысці. Струмені вады гурчэлі і пеніліся вакол шыі Маўглі, а ногі яго калыхаліся то ў адзін, то ў другі бок.

За мілю ад Скалы Згоды Вайнгунга звужвалася і шпарка неслася па цясніне між мармуравымі кручамі ў сорак метраў вышыні. Тут вада вырываецца, як з-пад млына. Але Маўглі нічога гэтага не баяўся. Ён толькі пазіраў па баках ды моршчыў нос ад нейкага кіславата-салодкага паху, падобнага да паху мурашніка ў гарачы дзень. Нарэшце Каа два разы абкруціўся вакол падводнай скалы і спыніўся, пасадзіўшы Маўглі на сваю спіну.

— Гэта Месца Смерці!—сказаў Маўглі.—Навошта мы прыйшлі сюды?

— Яны спяць,—адказаў Каа.—Цяпер слухай, што я табе скажу. Хаці не саступае Паласатаму. Але і Хаці і Паласаты—абодва саступаюць дарогу Дхолам. А Дхолы, як кажуць, не саступаюць дарогі нікому. Каму-ж саступае Маленькі Народ Скал? Скажы мне, Уладар Джунгляў?

— Вось гэтыя?—прашаптаў Маўглі.—Але ідзем адсюль. Гэта Месца Смерці!

— Прыглядзься добра—яны спяць! Як і тады, калі я быў не даўжэй за тваю руку...

Спрадвеку ў выпетраных скалах цясніны Вайнгунгі жыў Маленькі Народ Скал—завіхастыя, лютыя чорныя пчолы Індыі. Маўглі добра ведаў, што ўсе звяры абмінаюць гэтае месца прынамсі за поўмілі. Ужо шмат стагоддзяў пчолы жылі тут у шчылінах і запэц-

калі белы мармур гнілым мёдам. Глыбока і высока будавалі яны свае чорныя каморкі ў сярэдзіне скал, і ні чалавек, ні звер, ні агонь, ні вада не чапалі іх ніколі.

На абодва бакі цясніны віселі нейкія махровыя кутасы, і Маўглі мімаволі схаваўся ў ваду, калі разгледзеў, што гэта былі нізкі пчол. І зноў нейкія камлыгі, нібы спарахнелыя пні на гладкім камяні—гэта былі старыя соты мінулых гадоў, ці новыя пчаліныя гарады. Яны былі ўсюды, і на гладкай стромкай сцяне, і ў кожнай шчыліне, і ў западзінах, і ў гушчары дрэў і ліян, што прыляпіліся да скалы. Часам чуўся нейкі шум, потым сярдзітае гудзенне—гэта адламаўся кавалак сотаў і ляцеў уніз, чапляючыся за галлё.

На адным беразе ракі была маленькая, метры са два, пясчаная мялізна, і на ёй уздымалася цэлая гара адкідаў, якія збіраліся тут на працягу стагоддзяў. Тут валяліся мёртвыя пчолы, трутні, старыя соты, крыллі матылёў і жукоў, якія заляцелі сюды па мёд. Цяпер усё гэта ператварылася ў горную зямлю. Ад усяго гэтага і ішоў той востры пах, які папярэджваў кожную жывую істоту, што тут жыве небяспечны Маленькі Народ.

Каа паплыў далей і падплыў да пясчанай мялізны, адкуль пачыналася цясніна.

— Вось здабыча гэтага года. Глядзі!

На беразе ляжалі шкілеты двух маладых аленяў і буйвала. Размяшчэнне касцей сведчыла, што ні воўк, ні шакал не дакраналіся да іх.

— Яны перайшлі мяжу, яны не ведалі,—казаў Маўглі,—і Маленькі Народ забіў іх. Пойдзем пакуль яны не прачнуліся!

— Яны не прачнуцца да святла,—адказаў Каа.— Цяпер я раскажу табе гісторыю: многа, многа дажджоў назад прыбег сюды з поўдня адзін загнаны алень, які не ведаў Джунгляў. За ім гналася Воўчая Зграя. Ашалелы алень скокнуў зверху, а Зграя кінулася за ім. Сонца стаяла высока, пчолы былі злыя. Многія з ваўкоў кінуліся ў Вайнгунгу, але загінулі ад пчол, не даляцеўшы да вады. Рэшта загінула наверсе, на скалах. Выратаваўся адзін алень.

— Якім чынам?—здзівіўся Маўглі.

— Ён прыбег першы і кінуўся ў ваду раней, як Маленькі Народ паспеў разабрацца, у чым справа. А калі яны нарыхтаваліся забіваць, ён ужо быў далёка. А калі з'явілася Зграя, дык Маленькі Народ быў ужо падрыхтаваны і загубіў іх усіх.

— Дык алень застаўся жывы?—ціха паўтарыў Маўглі.

— Прынамсі ў той час ён не памёр, хоць ніхто не чакаў яго ў вадзе Вайнгунгі, каб падаць дапамогу, як будзе чакаць Чалавечка стары, тоўсты, жоўты, глухі Плоскагаловы, калі за табой будуць гнацца хоць усе Дхолы Дэкана. Што ты на гэта скажаш?

Галава Каа ляжала на мокрым плячы Маўглі і язык яго хістаўся каля самага вуха хлопчыка. Доўга маўчаў Маўглі і, нарэшце, прашаптаў:

— Гэта значыць торгаць за вусы самую смерць... Але-ж сапраўды, Каа, ты мудрэйшы ва ўсіх Джунглях!

— Шмат хто так кажа. Дык вось, калі Дхолы пагоняцца за табой...

— Яны напэўна пагоняцца Го! го! У мяне знойдуцца пад языком калючкі, каб запусціць ім пад скуры!



— Калі яны пагоняцца за табой, сляпыя ад злосці, дык тыя, што не загінуць наверсе, кінуцца ў ваду ці тут, ці ніжэй. А Вайнгунга—галодная рака. Ім ніхто не дапаможа, як табе, і іх панясе да мялізны каля Сіанійскіх пячор, а там твая Зграя перахопіць іх.

— Агаі! Эоуэуа! Лепшага не выдумаць да самых дажджоў! Я мяркую не толькі пабегаць ды паскакаць. Я хачу паказацца перад Дхоламі так, каб яны не адсталі ад мяне ні на крок.

— Ці бачыў ты скалы наверсе, з зямлі?

— Не, я ніколі не быў там.

— Дык ідзі і паглядзі. Гнілая зямля, уся ў ямінах. Калі няўдала паставіш нагу—будзе канец паляванню. Заставайся тут, а я перадам тваёй Зграі, дзе ім чакаць Дхолаў. Раблю я гэта дзеля цябе, бо сам я не прыходжуся сваяком ніякім ваўкам.

Калі ўжо Каа не палюбіць каго-небудзь, дык здолее падкусіць так, як ніхто ў Джунглях. Толькі можа адна Багіра магла-б параўнацца з ім у гэтай справе.

Ён паплыў уніз па рацэ і супроць Скалы знайшоў Фао і Акелу, якія прыслухоўваліся да начных гукаў.

— Шшш, Сабакі!—весела крыкнуў ён.—Дхолы прыйдуць уніз па рацэ. Калі вы не баіцеся, вы можаце забіваць іх на мялізнах.

— Калі яны прыйдуць?—спытаўся Фао.

— А дзе маё Чалавечае Дзіцянё? - дадаў Акела.

— Яны прыйдуць, калі прыйдуць,—адказаў Каа,— пачакайце і ўбачыце. А што да твайго Чалавечага Дзіцяці, ад якога ты ўзяў слова і паставіў яго перад Смерцю, дык ён са мной, і калі ён яшчэ не мярцвяк, то гэта не па тваёй заслузе, аблезлы пёс! Чакайце тут Дхолаў і дзякуйце за тое, што Чалавечае Дзіцянё і я змагаемся на вашым баку.

Каа зноў кінуўся ў раку, вярнуўся ў цясніну і зірнуў угару на лінію скал. Там мільганула галава Маўглі, потым пачуўся свіст, услед за гэтым у ваду плюхнулася цела і праз хвіліну хлопчык зноў адпачываў у абдымках Каа.

— Дрэннае месца для бегу там наверсе,—сказаў Маўглі.—Усюды хмызняк ды глыбокія ровы, а ў іх паўнютка Маленькага Народу. Па берагах гэтых роваў я палажыў некалькі вялікіх каменняў. Калі я пабягу, я скіну іх нагамі, і раззлаваны Маленькі Народ хмарай падымецца за мной.

— Гэта чалавечыя хітрыкі, — сказаў Каа. — Ты вельмі мудры, але Маленькае Племя і так заўсёды лютае.

— Не, у змроку ўсе крыллі адпачываюць. А я пагуляю з Дхоламі ў змроку, бо ўдзень яны лепш палююць. Цяпер яны бягуць па крывавых слядах Вантолы.

— Чыль не кідае мёртвага быка, а Дхолы—крывавага следу,—сказаў Каа.

— У такім разе, я ім зраблю новы крывавы след,—след іх уласнай крыві. Ты пачакай тут, Каа, пакуль я прыбягу з Дхоламі.

— А што калі яны заб'юць цябе ў Джунглях, ці заб'е Маленькі Народ раней, як ты кінешся ў ваду?

— Калі прыйдзе заўтра, мы будзем заўтра і забіваць,—адказаў Маўглі лясной прыказкай і дадаў:— Калі я памру, прыйдзе час праспяваць Песню Смерці. Добрага Палявання, Каа!

Хлопчык адпусціў шыю Пітона, і панёсся ўніз па цясніне, кіруючы да далёкай мялізны. Там ён знайшоў ціхі плёс, вышаў на бераг і гучна засмяяўся ад задавальнення. Больш за ўсё на свеце любіў Маўглі, як ён казаў, „торгаць Смерць за вусы“ і паказваць усім, што ён Уладар Джungляў.

Не адзін раз ён з Балу рабаваў пчаліныя гнёзды на дрэвах і ведаў, што пчолы цярпець не могуць паху дзікага часнаку. Ён нарваў сабе пук гэтай расліны і пайшоў па крываваму следу Вантолы, што ішоў на поўдзень ад логава міль на пяць.

— Я быў Маўглі-Жабянё,—казаў ён сам сабе, усміхаючыся,—учора я сказаў, што я Маўглі. Цяпер мне трэба будзе зрабіцца Маўглі-Малпай, пасля таго Маўглі-Аленем і, нарэшце, Маўглі-Чалавекам. Го!— і ён пакратаў рукою свой доўгі нож.

След Вантолы, адзначаны крывавымі плямамі, ішоў густым; за дзве мілі да Пчаліных Скал гэты лес пачынаў радзець. Ад апошняга дрэва да хмызняку на Пчаліных Скалах ішла адкрытая мясцовасць, дзе наўрад ці мог-бы схавацца нават воўк. Гэты раён і абследваў Маўглі.

У лесе ён прыглядаўся да кожнага дрэва, да кожнай галіны, прыкідваў на вока адлегласць між галінамі суседніх дрэў, выбіраў дрэвы, якія стаялі бліжэй адно ад аднаго і вялі ў бок Пчаліных Скал. Часам ён узлазіў на дрэва і рабіў спробы пераскочыць з аднаго на другое. Так ён дайшоў да адкрытага месца між лесам і Пчалінымі Скаламі. Тут ён старанна даследваў кожны крок, кожны ўзгорак і калдобіну, кожны камень на сваім шляху.

Тады ён вярнуўся ў лес, на след Вантолы, і абсталяваўся на дрэве метры на два ад зямлі. Замацаваўшы пучок часнаку ў развіліне, ён пачаў вастрыць свой нож аб падэшву нагі і сачыць за следам.

А поўдні, калі сонца пачало моцна прыпякаць, Маўглі пачуў тупат ног і адчуў агідны пах зграі Дхолаў, якія ішлі па следу Вантолы. Зверху Дхолы здаваліся зусім малымі, але Маўглі ведаў, якія моцныя іхнія лапы і сківіцы. Наперадзе, абнюхваючы след, бег правадыр Зграі. Калі яго вострая рудая морда апынулася пад галінай, на якой сядзеў Маўглі, той крыкнуў:

— Добрага Палявання!

Звер падняў галаву, і ўся зграя спынілася—усе гэтыя дзесяткі сабак з нізка апушчанымі хвастамі, шырокімі плячыма, слабымі спінамі і скрываўленымі зяпамі. Наогул яны досыць маўклівыя звери і лі-

чацца грубымі нават сярод іншых звяроў. Іх было не менш, як дзвесце.

Маўглі заўважыў, што важакі прагна нюхаюць сляды Вантолы і імкнуцца павесці зграю далей. Гэтага нельга было дапусціць, бо Маўглі патрэбна было затрымаць іх да змроку.

— Хто дазволіў вам прыйсці сюды?—спытаўся Маўглі.

— Усе Джунглі — нашы Джунглі! — быў адказ, і Дхолы выскалілі свае белыя зубы.

Маўглі засмяяўся і пачаў сакатаць, як Чыкай, дэканскі пацук-скакун. Дхолы зразумелі, што іх раўнаюць з Чыкаем і назвалі Маўглі „дрэўнай малпай".

Тады Маўглі спусціў голую нагу і пачаў перабіраць пальцамі акурат над галавой важака. Гэтага было ўжо досыць, каб выклікаць шалёную ярасць сабак. Тыя, у каго паміж пальцаў расце поўсць, вельмі не любяць, каб ім пра гэта напаміналі! Важак падскочыў, але Маўглі паспеў падняць нагу і ласкава сказаў:

— Сабака, рудая сабака, ідзі назад у Дэкан і жары





яшчарак! Ідзі да свайго брата Чыкая! Сабакі, сабакі Рудыя, рудыя сабакі! У вас паміж пальцаў поўсць!

І ён зноў падражніў іх пальцамі ног.

— Спускайся ўніз, бо мы ўсёроўна заморым цябе голадам, Безвалосая Малпа!—зараўла зграя.

Маўглі толькі гэтага і жадаў. Ён разлёгся на суку, прыціснуўся шчакой да кары і пачаў выкрыкваць усё, што толькі мог прыгадаць пра іх манеры, пра іхнія звычаі, пра смак і іхніх шчанят. Няма на свеце больш абразлівых і куслівых слоў, як тыя, што сыпаліся на галовы Дхолаў. Нездарма Маўглі казаў Каа, што ў яго пад языком знойдзецца досыць калючак, каб раз'юшыць Дхолаў.

Ад маўчання Дхолы перайшлі да рыкання, рыканне перайшло ў скавытанне, а скавытанне ў хрыпатае шалёнае выццё. Яны спрабавалі былі адказваць на яго здзекі, але гэта было ўсёроўна, што шчаняці адказваць раз'юшанаму Каа.

Маўглі моцна прыціснуўся да сука і абкруціў яго нагамі, а правую руку ўвесь час трымаў нагатове. Важак увесь час падскокваў уверх, і часам досыць высока, але Маўглі быў асцярожны. Нарэшце, калі Дхол падскокнуў бадай што на два метры, Маўглі ўхапіў яго за карак.

Галіна сагнулася і затрашчала, Маўглі ледзь не зваліўся на зямлю, але не выпусціў сабакі. Замацаваўшыся, ён пачаў падымаць Дхола ўсё вышэй, а той баўтаўся ў паветры, нібы здохлы шакал. Тымчасам левай рукой Маўглі дастаў свой нож і... адрэзаў важаку хвост! А самога яго кінуў на зямлю.

Больш Маўглі нічога не трэба было. Ён ведаў, што цяпер ужо Дхолы но пойдуць па следу Вантолы і не пакінуць гэтага месца, пакуль не заб'юць Маўгл ці покуль ён не заб'е іх. Яны расселіся шэрагамі вакол дрэва, а Маўглі падняўся вышэй, прымасціўся ў развіліне і спакойна заснуў.

Праз тры ці чатыры гадзіны ён прачнуўся, агледзеў зграю—усе былі на месцы. Дхолы маўчалі, ці хрыпата ўскрыквалі, і сухімі, жорсткімі, як сталь, вачыма глядзелі на Маўглі. Сонца было ўжо нізка. Праз поўгадзіны Маленькі Народ Скал павінен скончыць сваю дзённую працу,—а Дхолы дрэнныя ваякі ў змроку.

— Мне зусім непатрэбныя такія старанныя вартаўнікі,—сказаў ён, устаўшы на сук,—але я прыму гэта пад увагу. А хваста гэтаму пажыральніку яшчарак я ўсёроўна не аддам. Ты, здаецца, незадаволены, Пёс?

— Я вырву тваё сэрца!—завыў важак, кусаючы дрэва.

— Не, ты толькі падумай, мудры пацук Дэкана: колькі цяпер развядзецца бязхвостых шчанят з чырвонай куксай, якая будзе балець у гарачым пяску? Ідзі дахаты, Пёс, і крычы, што гэта зрабіла Малпа. Не хочаш? Ну, тады ідзіце ўсе за мной, і я вас зраблю разумнейшымі.

Маўглі спрытна, як малпа, пераскочыў на суседняе дрэва, потым на наступнае. Зграя ішла за ім, падняўшы ўгару галодныя раз'юшаныя морды. Час ад часу ён прыкідваўся, нібы валіцца з дрэва, і тады сабакі збіваліся ў кучу, штурхаліся, грызліся, каб не прамінуць здабычы. Цікава было-б паглядзець, як па дрэвах ідзе хлопчык з бліскучым нажом, а па зямлі гурт чырвоных, як полымя, звяроў. Дабраўшыся да апошняга дрэва, Маўглі пачаў церці сваё цела часнаком, а звяры насмешліва завылі:

— Малпа з мовай ваўка, ці нё думаеш ты знішчыць свой пах і затуманіць свой след? Не, мы пойдзем за табой да смерці!

— На табе твой хвост!—крыкнуў Маўглі і кінуў назад хвост.

Увага сабак накіравалася на хвост. Пачуўшы пах крыві, яны падаліся крыху назад, затрымаліся... А ў гэты момант Маўглі слізгануў на зямлю і паляцеў да Пчаліных Скал, крыкнуўшы Дхолам:

— А цяпер бяжыце за мной, да смерці!

Завылі сабакі і кінуліся за Маўглі сваім характэрным з прыскокамі, бегам, не надта шпаркім, але безупынным, упартым, які знясільвае кожнага звера.

Маўглі ведаў, што яны бегаюць не так шпарка, як ваўкі, таму і рызыкнуў бегчы дзве мілі на вачах у ворага. Яны былі ўпэўненыя, што дагоняць хлопчыка, але ён быў упэўнены, што выканае свой план. Самае галоўнае было—каб не астынуў іхні запал, каб яны не завярнуліся ў другі бок.

Маўглі бег роўнымі, прудкімі крокамі, а за пяць крокаў ад яго бег бязхвосты важак. Уся-ж зграя, сляпая, шалёная ад злосці, расцягнулася прыблізна на чвэрць мілі. Маўглі не імкнуўся павялічыць адлегласць між сабой і ворагамі і захоўваў свае сілы для апошняга бегу па Пчаліных Скалах.

Пчолы паснулі досыць рана, бо познія кветкі ўжо адкрасаваліся. Але як толькі Маўглі ступіў на Скалы, яму здалося, нібы ўся зямля загула. І ён паімчаўся так, як ніколі не бегаў у сваім жыцці. Па дарозе ён сапхнуў падрыхтаваныя камні ў шчыліны. У глыбіні пачуўся гул нібы рэў мора, і ў паветры пацямнела...

Маўглі ўбачыў Вайнгунгу, а ў ёй высунутую галаву Каа. Бязхвосты важак ужо нарыхтаваўся ўчапіцца за плечы Маўглі. У гэты момант хлопчык мільгануў у паветры і плюхнуўся ў ваду нагамі ўніз. Каа зараз-жа падхапіў яго і падтрымаў сваімі кольцамі. На целе Маўглі не было аніводнага ўкусу: пах часнаку затрымаў пчол на тыя некалькі секунд, у якія ён пранёсся па скалах.

А з абрыва ляцелі ўніз вялізныя камлыгі пчол. Калі такая камлыга далятала да вады, пчолы разляталіся, і ў вадзе заставаўся мёртвы Дхол, якога зараз-жа вада нясла ўніз па рацэ. Наверсе чулася

жудаснае выццё, якое заглушалася іншым рэвам—шумам крылляў Маленькага Народу Скал.

Некаторыя з Дхолаў трапілі ў шчыліны, якія злучаліся з падземнымі пячорамі і там біліся сярод сотаў. Часам хто-небудзь з іх, аблеплены пчоламі, каціўся адтуль праз якую-небудзь дзіру проста ў раку. Некаторыя-ж, падскочыўшы, траплялі нават на дрэва, і загінулі там таксама, як і ўсюды. Але галоўная маса сабак кінулася ў раку. А Вайнгунга, як казаў Каа, была галодная рака!

Каа моцна трымаў хлопчыка, пакуль той не аддыхаўся.

— Нам нельга тут заставацца,—сказаў ён.—Маленькі Народ увесь прачнуўся і надта раз'юшаны.

Маўглі паплыў уніз па рацэ, сціскаючы ў руцэ свой нож і часта хаваючыся ў ваду ад пчол.

— Цішэй, цішэй!—казаў Каа.—Адзін зуб, апрача зуба Кобры, не можа забіць цэлыя сотні. Многа Дхолаў кінулася ў ваду раней, як напаў на іх Маленькі Народ. Яны засталіся жывыя.

— Тым больш работы засталося для майго нажа. Фай! Які неадчэпны гэты Маленькі Народ!

Маўглі зноў даў нырца. І рабіць гэта ён павінен быў безупынна, бо над вадою насілася шмат раззлаваных пчол, якія джгалі ўсё, што ім траплялася. Толькі шкарупіны скуры Каа не баяліся ўкусаў.

— Табе прыдзецца яшчэ паляваць усю ноч,—сказаў Каа.—Чуеш, як яны выюць?

Бадай што палова Дхолаў сцямілі, у якую бяду іх уцягнулі, і яны паспелі завярнуцца ў бок і кінуцца ў раку ў тым месцы, дзе цясніна пашыралася. Іхнія

пагрозы „дрэўнай малпе“ змяшаліся з рэвам тых Дхолаў, якіх апанавалі пчолы. Яны ведалі, што на беразе іх чакае смерць, таму паплылі далей уніз па рацэ. Пчолы і тут не



пакінулі іх і не дазвалялі ім выйсці на бераг. І Дхолы павінны былі плысці далей і далей, як і прадбачыў Каа.

Маўглі бачыў сабак наперадзе і чуў, як бязхвосты важак падбадзёрваў сваю зграю і ўгаварваў трымацца і перабіць усіх Сіанійскіх ваўкоў.

— Нехта забівае ззаду!—раптам закрычаў адзін з Дхолаў.—Вада ў крыві!

Гэта Маўглі даў нырца, падплыў пад задняга Дхола, пацягнуў яго ўніз і там закалоў нажом.

Дхолы хацелі былі завярнуцца да берагу, але вада несла іх далей, а Маленькі Народ не дапускаў іх на бераг.

Тымчасам наперадзе пачуўся баявы кліч Сіанійскай Зграі.

Маўглі зноў нырнуў, і праз хвіліну зноў выплыў напаверх мёртвы Дхол, і зноў сярод сабак пачуўся рэў. Адны крычалі, што лепш было-б на беразе; другія патрабавалі, каб важак адвёў іх назад у Дэкан; трэція выклікалі Маўглі паказацца і ўступіць у бойку.

— Ну, цяпер усё залежыць ад тваіх братоў,—сказаў Каа.—Маленькі Народ вяртаецца назад спаць. Я таксама вярнуся, бо ваўкам я не дапамагаю.

На беразе паказаўся воўк на трох нагах. Ён то падскокваў, то прыціскаўся да зямлі, то выгінаў спіну, нібы гуляў са сваімі гігантамі. Гэта быў Вантола, Самотнік, які сачыў за Дхоламі. А іх несла вада, змораных, абцяжараных мокрай скурай. У бяссільнай злосці глядзелі яны на палаючыя вочы свайго ворага, які рухаўся побач з імі.

— Нядобрае паляванне!—сумна прамовіў адзін з іх.

— Не, вельмі добрае!—крыкнуў Маўглі, апынуўшыся побач з ім, і ўсадзіў яму нож.

— Гэта ты, Чалавечае Дзіцянё?—спытаўся Вантола.

— Пытайся ў мёртвых, Самотнік,—адказаў Маўглі.— Ці не бачыў ты, як іх несла вада? Я адрэзаў хвост іхняму правадыру, я зляваў іх у пастку, я забіваў іх,

але засталося іх досыць і на тваю долю. Можа падагнаць іх да цябе?

— Я пачакаю,—адказаў Вантола.—Яшчэ ўся ноч наперадзе. А крыкі Сіанійскай Зграі чуліся ўсё бліжэй і бліжэй. Ужо выразна чуваць былі словы: „Будзем біцца за Зграю—за ўсю Зграю!“ Нарэшце, вада прыгнала Дхолаў на мялізны каля Сіанійскіх лагавішчаў.

Тут толькі зразумелі яны сваю памылку. Ім трэба было, не гледзячы ні на што, выйсці на бераг за поўмілі вышэй, каб уступіць у бойку з ваўкамі на беразе А цяпер было позна...

Па ўсім беразе блішчэлі гарачыя вочы. Суцэльны „фіэл“ не сцішыўся ні на хвіліну.

— Завярніся і хапай!—крыкнуў важак Дхолаў.

Уся зграя рынулася на бераг, узбаламуціўшы неглыбокую ваду,—і пачаўся доўгі бой. Ён шумеў, то цішэй, то мацней і ўнізе, на мокрым пяску, і ўверсе, сярод дрэў і кустоў, і на палянках, пакрытых травою.

Нават і цяпер яшчэ Дхолаў было ў два разы больш, як ваўкоў. Але ваўкі біліся за свае логавы, за свае сем'і. Не толькі дужыя, грудастыя самцы, але і „лахіні“ (ваўчыцы) прынялі ўдзел у бойцы. Нават маладое ваўчанё кідалася на ворага і торгала яго за бакі.

Воўк, як вядома, хапае за горла ці за бок, а Дхолы больш кусаюць знізу. Пакуль Дхолы выходзілі з вады. перавага была ў ваўкоў. А калі ўсе Дхолы вышлі на бераг, ваўкам зрабілася горай.

Маўглі ішоў за Дхоламі ззаду і яшчэ ў вадзе шмат іх палажыў. Нядрэнна біўся ён і на беразе, але і яму прышлося-б дрэнна, калі-б на дапамогу не прабіліся

чатыры Браты. Шэры Брат прысеў наперадзе і бараніў яго жывот, а іншыя тры засланілі бакі і спіну.

Суцэльная маса байцоў пасоўвалася то ўправа, то ўлева, або паволі рухалася навакол. У адным месцы стваралася жывая грудка і адтуль узлятала ўверх некалькі скалечаных сабак, якія зноў кідаліся ўніз; у другім месцы воўк круціўся з трыма Дхоламі на спіне; там натоўп выціскаў уверх гадавалага шчаня, які быў забіты яшчэ



ў самым пачатку бойкі, а яго ашалелая маці ляскала сківіцамі, імкнучыся выратаваць яго. А то ў самай гушчы, забыўшы ўсё на свеце, воўк з Дхолам скакалі адзін перад адным, выбіраючы месца, куды-б учапіцца, пакуль іх абодвух не закручваў вір бойкі.

Адзін раз Маўглі ўбачыў Акелу; па баках яго віселі два Дхолы, а трэцяга ён трымаў за карак сваім амаль бяззубым ротам. Мільгануў Фао, які ўхапіў за горла Дхола і кінуў ваўкам-аднагодкам, каб яны скончылі яго. У самым цэнтры, вакол Маўглі стварылася поўная мешаніна; толькі і чуваць былі ўдары, лясканне зубоў, тупат, сковыт, хрыпы.

Усю ноч ішла неаслабная бойка і толькі пад раніцу пачала сцішацца. Дхолы стаміліся і не адважваліся так заядла нападаць як раней. Але і адступаць яны яшчэ не збіраліся. Змарыліся і ваўкі, а Маўглі

толькі калоў тых, хто трапляўся пад руку. Толькі шчаняты зрабіліся больш смелымі. Наогул-жа можна было крыху і адпачыць.

— Хутка ад дзічыны застануцца адны толькі косці,—прашаптаў Шэры Брат. Прынамсі з дзесяціх ран цякла ў яго кроў.



— Але і косці трэба яшчэ раструшчыць!—адказаў Маўглі.—Аоу! Вось як мы б'ёмся ў Джунглях!

Скрываўлены нож бліснуў, паляцеў і ўпіўся ў бок Дхола, на якога насядаў воўк.

— Не лезь! Гэта мая здабыча!—крыкнуў воўк.

— Няўжо-ж тваё бруха яшчэ пустое, Самотнік?—засмяяўся Маўглі.

Вантола быў так змардаваны, што ледзь ціскаў Дхола, а той і зусім нічога не мог зрабіць ваўку.

— Клянуся Быком, што выкупіў мяне,—гэта бязхвосты!

І сапраўды гэта быў руды важак.

— Вось бачыш, як неразумна забіваць „лахіні“ і шчанят, не забіўшы гаспадара,—звярнуўся Маўглі да важака Дхолаў.—А цяпер, відаць, гаспадар і заб‘е цябе.

Вантола тымчасам паціху сціскаў сківіцы... Дхол задрыжаў, галава яго схілілася да зямлі—і ён сціх. А Вантола ў знямозе паваліўся на яго.

— Доўг крыві заплочаны!—сказаў Маўглі.—Праспявай песню, Вантола!

— Косць храснула!—закрычаў ва ўсё горла Фао, сын Фаона.—Яны ўцякаюць! Біце іх, о біце, паляўнікі Вольнага Племя!

Адзін за адным пачалі ўцякаць Дхолы з акрываўленых пяскоў да ракі, ці ў пушчу лесу, уверх ці ўніз па рацэ—у залежнасці ад таго, куды шлях быў вальней.

— Доўг! Доўг!—крычаў Маўглі. Аддавайце доўг! Яны забілі Адзінокага Ваўка! Хай-жа аніводзін з іх не выратуецца!

Схапіўшы нож ён кінуўся да ракі, каб перапыніць адступленне тым Дхолам, якія захацелі-б кінуцца ў ваду. Тут з-пад кучы трупаў высунулася галава і пярэднія лапы Акелы. Маўглі апусціўся на калены каля Адзінокага Ваўка.

— Ці не казаў я табе, што гэта будзе мой апошні бой?—прашаптаў Акела.—Добрае было паляванне! Ты не паранены, Братка?

— Не. Я забіў шмат.

— Так. А я паміраю і хацеў-бы... хацеў-бы памерці каля цябе, Братка.

Маўглі палажыў скрываўленую галаву сабе на калены і абняў пакусаную шыю.

— Шмат дзён прайшло з тых часоў, калі быў яшчэ жывы Шэр-Хан, а голае Чалавечае Дзіцянё капашылася на Скале Рады,—закірхаў Акела.



— Не, не, я Воўк! Я адной крыві з тваім Племем!—крыкнуў Маўглі.—Я не хачу быць Чалавекам!

— Ты—Чалавек, Братка. Ты Чалавек, бо без цябе Зграя ўцякла-б ад Дхолаў. Калісьці ты выратаваў мне жыццё, а сёння выратаваў Зграю, як калісьці я выратаваў цябе. Ты памятаеш? Цяпер усе даўгі заплачаны. Ідзі да свайго Племя, кажу я табе, любы мой. Паляванне скончылася. Ідзі да свайго Племя.

— Я не пайду, я буду паляваць адзін у Джунглях. Так я сказаў!

— Пасля лета прыходзяць дажджы, а пасля дажджоў надыходзіць вясна. Ідзі, пакуль цябе не прагналі.

— Хто прагоніць мяне?

— Маўглі прагоніць Маўглі. Ідзі да свайго народу. Ідзі да людзей!

— Калі Маўглі прагоніць Маўглі—я пайду.

— Больш табе няма чаго рабіць тут,—казаў далей Акела.—Цяпер я звярнуся да тых, хто адной крыві са мной. Можа, Братка, ты паставіш мяне на ногі? Я-ж таксама правадыр Вольнага Племя!

Маўглі паціху падняў Акелу і далікатна абняў яго абодвума рукамі. Адзінокі Воўк глыбока ўздыхнуў і пачаў Песню Смерці, якую павінен спяваць кожны правадыр Зграі перад смерцю. Голас яго паступова ўзмацняўся, падымаўся ўсё вышэй і вышэй, нарэшце, загрымеў на той бок ракі. Калі прагучэлі апошнія словы—„Добрага Палявання!“—Акела адсунуўся ад Маўглі, падскочыў уверх і паваліўся мёртвы на забітага ім свайго апошняга ворага. Маўглі сеў, утыркнуў галаву ў калены і задумаўся. Бязлітасныя „лахіні“ тымчасам дагналі і дабілі апошніх Дхолаў, крыкі паступова сціхлі і ваўкі, кульгаючы, сабраліся лічыць мёртвых. Пятнаццаць байцоў і шэсць „лахіні“ ляжалі мёртвыя ля ракі, а з рэшты ніводзін не застаўся без ран.

Маўглі сядзеў нерухома да раніцы. Раптам ён пачуў, як вільготная морда Фао дакранулася да яго рукі, Маўглі адсунуўся і паказаў яму на цела Акелы.

— Добрага Палявання!—звярнуўся Фао да Акелы, нібы да жывога, а потым крыкнуў праз свае скрываўленае плячо:—Выйце, сабакі! У сёнешнюю ноч памёр Воўк.

Але ніводнай сабакі ўжо не было. З усіх двухсот Дхолаў, Рудых Сабак Дэкана, якія задаюцца тым, што ніхто ў Джунглях не можа стаць супроць іх,—не засталося аніводнага, які вярнуўся ў Дэкан і расказаў пра жудасную бойку...





# КЛІЧ ВЯСНЫ

Чалавек ідзе ад нас... Да людзей
ідзе ён з Джунгляў.
Той ідзе ад нас далёка, хто для
нас быў родны брат.
Слухай, Лясное Племя! Слухайце,
усе зверы Джунгляў:
Ці здаралася вам бачыць, каб вада
цякла назад?
Чалавек ідзе к людзям... Паглядзі,
ён плача ў Джунглях!
Той, прад кім дрыжалі Джунглі,
чый смяротны быў удар...
Чалавек ідзе к людзям, хоць яго
любілі Джунглі.
Мусіць, братам быць не можа той,
хто лічыцца Ўладар.

**Праз год пасля вялікага бою з Дхоламі і пасля смерці Акелы Маўглі было каля семнаццаці гадоў. Выглядаў ён нават старэйшым, бо жыццё на свежым**

паветры, добрае харчаванне, купанне і фізічныя практыкаванні надалі яму росту і моцы. Ён мог поўгадзіны вісець на суку, учапіўшыся за яго адной рукой і наглядаючы за паветранымі шляхамі, што праклалі малпы ў верхавінах дрэў. Ён мог спыніць і паваліць аленя ў часе бегу, ухапіўшы яго за галаву. Ён мог нават паваліць вялізнага сіняга вепра, што жыў у Балотах Поўначы.

Жыхары Джунгляў, якія раней баяліся яго розуму, цяпер пачалі ўжо баяцца яго моцы, і калі ён спакойна ішоў сабе куды-небудзь, дык аднаго ціхага слова аб яго набліжэнні было досыць, каб перад ім ачысціліся ўсе лясныя сцежкі. Але выраз вачэй у яго заўсёды быў спакойны. Нават калі ён забіваў дзічыну, вочы яго ніколі не блішчэлі так, як вочы Багіры,—і гэтага Багіра аніяк не магла зразумець. Яна неяк спыталася Маўглі пра гэта, і хлопчык са смехам адказаў:

— Калі я выпушчу здабычу, я злую. Калі я два дні галадаю,—я вельмі злы. Няўжо-ж мае вочы нічога не кажуць аб гэтым?

— Не,—адказала Багіра,—яны нічога не гавораць. Ці палюеш ты, ці ясі, або купаешся,—яны заўсёды аднолькавыя, нібы камні, якія не змяняюцца ні ў дождж, ні ў гарачыню.

Маўглі паглядзеў на пантэру, і яна, як заўсёды, адвярнула галаву ў бок. Багіра адчувала ў ім гаспадара.

Яны ляжалі на спадзе высокага берагу Вайнгунгі. Белыя палосы ранішняга туману распасцерліся ўнізе. Узышло сонца, туман захваляваўся, і касыя праменні ляглі на сухую траву, дзе адпачывалі Маўглі і Багіра.

Гэта было ў канцы халоднага сезону. Лісце на дрэвах завяла, і пры кожным подыху ветра чуўся сухі шолах. Багіра пільна сачыла за адным лісцікам, што шалёна круціўся ў паветранай хвалі, потым лягла на спіну, і пачала лапамі біць гэты лісцік над сваёй галавой.

— Год заварачваецца,—прамовіла яна.—Джунглі ідуць наперад. Блізіцца час Новых Песень. Гэта ліст ведае.

— Трава сохне,—сказаў Маўглі, вырваўшы пук травы.—Нават Вока Вясны (вясковая чырвоная кветка, якая расце ў траве і мае форму трубы),—нават Чырвоная Краска зачынілася і... Багіра! Ці прыстойна Чорнай Пантэры качацца на спіне і біць лапамі паветра, нібы якая дрэўная кошка!

— Аух!—адгукнулася Багіра,—відаць думаючы пра нешта іншае.

— Я кажу, ці прыстойна для Чорнай Пантэры разяваць гэткім манерам ляпу, чмыхаць, зазываць і качацца? Памятай: мы з табой Уладары Джунгляў.

— Але, яно так; я чую, Чалавечае Дзіцянё...

Багіра насмешна ўскочыла і страсанула пыл з сваіх калматых бакоў (яна якраз ліняла, змяняла свае зімняе ўбранне).

— Вядома, мы—Уладары Джунгляў. Хто такі дужы, як Маўглі? Хто такі мудры?

Багіра нейк асабліва прамовіла гэтыя словы, і Маўглі недаверліва зірнуў на яе,—ці не здзекуецца з яго Чорная Пантэра, бо ўсюды ў Джунглях поўна слоў, гук якіх—адно, а сэнс—зусім другое.

— Я сказала, што мы безумоўна Уладары Джунгляў,—паўтарыла Багіра.—Што-ж тут такога! Я не

ведала, што Чалавечае Дзіцянё не ляжыць ужо на зямлі, а недзе лятае.

Маўглі сядзеў, абапершыся локцямі ў калены, і глядзеў праз даліну на ўзышоўшае сонца. У лесе нейкая птушка няпэўным, хрыпатым голасам вывучала першыя ноты сваёй веснавой песні. Не гледзячы на тое, што гэтае ціўканне было толькі яшчэ слабым намёкам на тую поўнагучную песню, якую праспявае гэтая самая птушка пазней,—Багіра ўсё-ж такі пачула яе.

— Я кажу, што блізіцца час Новых Песень,— прамармытала Багіра, махаючы хвастом.

— Я чую,—адказаў Маўглі.—Багіра, чаго ты дрыжыш усім целам? Сонца-ж грэе горача.

— Я слухаю Ферао, чырвонага дзятла,—адказала Багіра.—Ён не забыўся сваёй песні. Трэба і мне ўспомніць сваю.

І Пантэра пачала муркаць сабе пад нос песеньку, час ад часу пазіраючы ў лес.

— Але-ж ніякай дзічыны тут не чуваць,—заўважыў ёй Маўглі.

— Ці ты аглух, Браток! Гэта-ж не паляўнічая, а веснавая песня, якую я стараюся ўспомніць.

— Ах, я і забыўся! Я буду ведаць, калі прыйдзе час Новых Песень: тады ты і іншае ўцячэце і пакініце мяне аднаго,—з прыкрасцю сказаў Маўглі.

— Але-ж, Браток, мы не заўсёды...

— А я кажу: так!—гнеўна сказаў Маўглі.—Вы ўцякаеце, а я, Уладар Джунгляў, павінен хадзіць адзін. Ці не так было летась, калі я хацеў набраць цукровага трысця з палёў Чалавечай Зграі? Я паслаў ганца—

цябе я паслаў!—да Хаці з загадам, каб ён прыйшоў да мяне ўначы і нарваў мне хобатам травы.

— Ён прыйшоў праз дзве ночы,—адказала Багіра, туляючыся.—Але-ж гэтай салодкай травы, якая табе так падабаецца, ён нарваў столькі, што яе не з'ела-б ніякае Чалавечае Дзіцянё за ўвесь час дажджоў.

— Але ён не прыйшоў у тую ноч, калі я яго клікаў! Не ён трубіў сабе, роў ды бегаў па далінах пры святле месяца! След яго быў, нібы сляды трох сланоў, бо ён не хацеў хавацца сярод дрэў. Ён скакаў пры святле месяца перад хатамі Чалавечай Зграі. Я бачыў яго, але ён не хацеў падысці да мяне. А я-ж—Уладар Джунгляў!

— Гэта быў час Новых Песень,—пакорна казала Багіра.—Можа ты, Братка, не гукнуў яго ў тую пару Ўладарным Словам? Слухай Ферао!

Гнеў Маўглі ўжо прайшоў. Ён паваліўся на спіну, падлажыў рукі пад галаву і сплюшчыў вочы.

— Не ведаю, мне ўсёроўна,—прамовіў ён млява.— У мяне нешта ные ў сярэдзіне. Падлажы мне штонебудзь пад галаву.

Пантэра лягла і ўздыхнула: ёй не даваў спакою спеў Ферао, які рыхтаваўся да веснавой пары Новых Песень.

У Джунглях пара года пераходзіць з аднае ў другую неяк непрыметна, нібы іх толькі дзве—дажджлівая і сухая. Але, прыгледзеўшыся бліжэй, можна заўважыць, што ўсе чатыры пары года змяняюцца правільным парадкам. Лепш ад усіх—вясна, бо ёй не даводзіцца пакрываць голых палёў новай травой і кветкамі; яна толькі гоніць і здымае засохлыя рас-

ліны і лісце мінулага года, а новая зяляніна ўжо сама вырасла. Вясна толькі дае зямлі новую свежасць жыццё і робіць гэта так добра, што нідзе ў свеце няма такой вясны, як у Джунглях.

Пад канец зімы ўсе Джунглі адчуваюць сябе нібы зморанымі, і нават пахі ў душным паветры здаюцца лянымі, старымі, нікому непатрэбнымі. Растлумачыць словамі гэта цяжка, але так адчуваецца.

І вось прыходзіць дзень, калі на выгляд, здаецца, нічога не змянілася, а між тым усе пахі новыя і чароўныя, вусы драпежнікаў дрыжаць да самых каранёў, і зімовая поўсць адвальваецца ад іхніх бакоў кучмамі. Выпадае дождж ык—усе дрэвы, кусты бамбук, і мох і трава раптам прачынаюцца і пачынаюць расці так буйна, што, здаецца, шум росту маглo-б пачуць чалавечае вуха. А пад гэтым шумам дзень у дзень чуецца глухое і глыбокае гудзенне. Гэта і ёсць Кліч Вясны.

Да гэтага года Маўглі заўсёды адчуваў асалоду ў часе надыходу вясны. Ён першы заўважваў Вока Вясны ў густой траве і першыя градкі вясновых хмарак, прыгажэйшыя за ўсё ў Джунглях. Голас яго можна было пачуць у кожным гушчары вільготных кветак, дзе ён або прымаў удзел у агульных спевах жаб, або дражніўся з маленькімі савамі, што віселі ўніз галавой і вухкалі ў светлыя ночы. Як і ўсё яго Племя, ён у гэтую пару бадзяўся ўсюды і бегаў дзеля забавы на трыццаць, сорак і пяцьдзесят міль за ноч, а раніцою вяртаўся, запыхаўшыся, але вясёлы, з пукамі якіх-небудзь незвычайных красак.

Чацвёра не ішлі за ім у такія часы: яны спявалі з іншымі ваўкамі ў розных месцах. У жыхароў Джунгляў шмат работы ўвесну, і Маўглі чуў, як яны безупынна скавычуць, рохкаюць, пасвістваюць кожны на свой манер. Увесну ў іх нават інакшыя галасы, таму яны і называюць вясну Парою Новых Песень.

Але ў гэтую весну, як Маўглі казаў Багіры, ён адчуваў у сабе нешта новае „ў сярэдзіне". Як толькі на парастках бамбука з'явіліся рудыя плямінкі, ён пачаў чакаць змены пахаў. Раніцою Мор-Паўлін, у бірузовым, бронзавым і залатым убранні, абвясціў прыход вясны ўсяму туманнаму лесу. Маўглі таксама хацеў крыкнуць, але словы захраслі ў яго горле, і ён адчуў ва ўсім сваім целе, ад пальцаў ног да валос на галаве, нешта няёмкае, непрыемнае. Ён нават агледзеў сябе з галавы да ног, ці няма дзе калючкі!

Мор абвясціў аб новых пахах, іншыя птушкі падхапілі кліч, і са скал Вайнгунгі пачуўся хрыпаты крык Багіры, падобны ні то на крык арла, ні то на іржанне каня. Уверсе на свежых галінах пачулася кігіканне і тузаніна Бандар-Логаў, а Маўглі стаяў, грудзі яго сціскаліся, і ён не мог узняць свайго голасу. На дрэвах смяяліся Бандар-Логі, а Мор распусціў свой пышны хвост, скакаў на ўзгорку і крычаў:

— Пахі змяніліся! Добрагв Палявання, Братка! Дзе-ж твой адказ?

— Братка, Добрага Палявання!—засвісцеў каршун Чыль і, праляцеўшы каля самога носа Маўглі, спусціўся са сваёй жонкай на зямлю.

Лінуў лёгкі веснавы дождж,—яго завуць „слановым дажджом", Ён прайшоў паласой у поўмілі

шырынёй, пакінуў пасля сябе мокрае, бліскучае лісце і знік у раскатах грому і падвойнай вясёлцы. Веснавы шум трохі прыпыніўся, але хутка зноў закрычалі ўсе Джунглі—усе, апрача Маўглі.

— Я еў добрую страву,—казаў ён сам сабе,— піў добрую ваду. У мяне не гарыць і не шчыпіць у горле, як было тады, калі я пакаштаваў карэньчыка з сінімі плямінкамі, што параіла мне чарапаха Оо. Але на сэрцы ў мяне цяжка і я без жаднай прычыны няветлівы і з Багірай, і з маім Племем, і з іншымі жыхарамі Джунгляў. Мне чамусьці то холадна, то горача. Гу! Гу! Час пусціцца ў бег. Сёння ўначы я перабяруся праз горы і прабягуся да Балот Поўначы і назад. Я разбэсціўся на лёгкім паляванні. Са мной пойдуць Чацвёра, бо яны растаўсцелі, як белыя чарвякі.

Ён паклікаў ваўкоў, але ніводзін з Чатырох не адгукнуўся. Яны пайшлі далёка, спяваючы Песні Вясны, разам з іншымі ваўкамі зграі. У веснавую пару жыхары Джунгляў не глядзяць ні на дзень, ні на ноч. Маўглі гукнуў яшчэ раз, але ў адказ пачулася толькі насмешлівае „мяў“ маленькай стракатай дрэўнай кошкі, якая бегала па суках, шукаючы птушыныя гнёзды. Маўглі аж затросся ад злосці і напалову выцягнуў свой нож. Потым нахмурыўся, задраў нос і з важным выглядам пайшоў па схілу гары. Але ніхто не глядзеў на яго, ніводная душа з яго племя не звярнулася да яго з запытаннем—усе былі надта занятыя сваімі справамі.

— Так,—казаў сам сабе Маўглі.—А калі прыбяжыць Чырвоны Дхол з Дэкана, ці заскоча Чырво-

ная Кветка сярод бамбука, тады ўсе Джунглі з плачам кінуцца да Маўглі і пачнуць называць яго рознымі пачэснымі імёнамі. А цяпер, толькі таму, што зачырванелася Вока Вясны, што Мору ўзбрыло ў галаву пахвастацца сваімі голымі нагамі ў недарэчных скоках,—з гэтай прычыны Джунглі звар'яцелі, як той Табакі... Клянуся Быком, што выкупіў мяне. Уладар я Джунгляў, ці не? Маўчаць! Вы што тут робіце?

Пара маладых ваўкоў выбегла на палянку, каб пабіцца. Закон Джунгляў забараняе біцца ў такіх месцах, дзе бойку можа ўбачыць Зграя. Поўсць на іхніх шыях натапырылася, як дрот, і абодва прыселі, каб люта скокнуць адзін на аднаго.

Маўглі кінуўся да іх, ухапіў кожнага за карак і збіраўся быў кінуць іх вобземлю, як рабіў ён гэта ў часе паляўнічых гульняў. Але абодва скокнулі на яго і паваліді на зямлю. А потым, не сказаўшы ні слова, сашчапіліся між сабой і пакаціліся па зямлі ў заўзятай бойцы.

Маўглі ўскочыў на ногі, выскаліў зубы і выхапіў нож, каб забіць ваўкоў толькі за тое, што яны хочуць пабіцца, хоць паводле Закону кожны воўк мае права біцца. Ён пачаў скакаць вакол ваўкоў, рыхтуючы ўдар нажом, але раптам адчуў слабасць—і ножываліўся з яго рук.

— Я, мабыць, з'еў атруты,—прамармытаў ён.— З таго часу, як я разагнаў Раду Чырвонай Кветкай, з таго часу як я забіў Шэр-Хана, нікому з ваўкоў не даводзілася паваліць мяне на зямлю. А гэтыя два зусім яшчэ маладыя паляўнікі! Мая сіла пакінула

мяне, і я, відаць, памру... О, Маўглі, чаму ты не заб'еш іх абодвух?

Ваўкі біліся, пакуль адзін з іх не пачаў уцякаць. Маўглі застаўся адзін на зрытай і скрываўленай палянцы. Ён глядзеў то на свой нож, то на свае рукі і ногі, і нейкая незнаёмая яму туга залівала яго, як паводак залівае берагі.

У гэты вечар ён еў мала, каб не страціць лёгкасць у часе бегу, і ўвесь час заставаўся адзін—усе Джунглі або распявалі, або займаліся калатнёй. Ноч была белая, як яе называюць. Здавалася, што ўсе расліны за дзень падраслі, як за месяц. Галінка, якая ўчора яшчэ была пажоўклая, цяпер так і пырскнула сокам, калі Маўглі зламаў яе. Цёплы мох загусцеўся пад яго нагамі, трава ўжо не рэзала скуры, і ўсе гукі Джунгляў зліліся ў адзін гул—Новай Песні Вясны. Гэтыя гукі выходзілі адусюль, праціскаліся між дрэвам і ліянай, прасяваліся праз мільёны лісцяў..

І хоць сумны быў Маўглі, але ён таксама заспяваў—і ў нястрымным захапленні пусціўся бегчы. Гэта быў не бег, а нейкі палёт, бо Маўглі імчаўся па схіле ўзвышша, якое ішло праз пушчы Джунгляў да Паўночных Балот. Прудкая зямля заглушала тупат ног. Звычайны чалавек не раз спатыкнуўся-б і паваліўся ў змроку, але спрактыкаваныя ногі Маўглі няслі яго нібы над зямлёй. Калі па дарозе трапляўся спарахнелы пень ці затулены камень, Маўглі абмінаў яго не прыпыняючы бегу і нібы не заўважаючы іх. Калі яму надакучвала бегчы па зямлі, ён чапляўся за ліяну і, як малпа, узлятаў на верхавіну дрэва

і адтуль выбіраў сабе шлях да паветраных тэрасах, а потым зноў спускаўся на зямлю.

Па дарозе трапляліся яму вузкія цясніны з мокрымі скаламі, дзе цяжка было дыхаць ад душнага паху начных кветак і ліян; цёмныя алеі, дзе святло месяца лажылася на зямлю роўнымі паласамі і квадратамі, нібы мазаічная падлога, гушчары маладога парасніку, які чапляўся за Маўглі нібы лапамі; і камяністыя ўзгоркі, дзе даводзілася пераскокваць з каменя на камень пад норамі спалоханых лісак. Здалёк пачулася шморганне іклаў дзіка, які вастрыў іх аб дрэва, а потым паказаўся і сам звер; ён скроб чырвоную кару, а з морды капала белая пена, і вочы гарэлі як вугаллі.

Збоку пачуўся стук рагоў і сопат, і міма Маўглі прабеглі двое Самбгураў, якія люта біліся паміж сабой, апусціўшы скрываўленыя галовы. Ля ракі ён патрапіў на Джакалу-кракадзіла, які роў, як бык. А ў другім месцы Маўглі трапіў нагою ў клубок пераплеценых кобраў—Атрутнага Племя; але пакуль яны паспелі выпрастацца для нападу, ён быў ужо далёка, мільгануў на бліскучых каменнях і зноў схаваўся ў глыбіню Джунгляў.

Так бег Маўглі наперад, час ад часу выгукаючы кліч, ці спяваючы песню. Пах кветак паказваў яму што ён набліжаецца да Балот, а Балоты гэтыя ляжалі вельмі далёка ад месца яго палявання.

Звычайны чалавек зараз-жа загруз-бы ў багне, але Маўглі спрытна паскакаў па купінках і вышаў на сярэдзіну балот, спудзіўшы чараду качак; ён усеўся на парослы мохам пень, які вытыркаўся з чорнай вады.

Усё балота прачнулася, бо ўвесну ў Птушынага Племя вельмі чулы сон. А некаторыя нават не спяць, а цэлымі чарадамі рухаюцца над балотам усю ноч. Ніхто, вядома, не звярнуў увагі на Маўглі, які сядзеў сярод высокага чаротніку, напяваў песні без слоў ды шукаў стрэмкі ў загрубелых падэшвах ног.



Здавалася, яго дрэнны настрой застаўся там, у родных Джунглях, і ён пачаў быў гучную песню, але раптам адчуў, што журба зноў, і яшчэ больш, ахапляе яго. А тут яшчэ месяц схаваўся—і на гэты раз Маўглі ахапіў страх.

— І тут тое самае!—сказаў ён з прыкрасцю.—За мной гоніцца!

І ён нават азірнуўся, каб паглядзець ці не стаіць „Яно“ за ім. Але нікога не было.

На балотах таксама ішоў начны шум, але ні птушка, ні звер не звярталі ўвагі на Маўглі—і ён усё больш і больш адчуваў сябе адзінокім.

— Я пад'еў атруты!—прамармытаў ён з жахам.— Мусіць неяк наеўся, і вось цяпер зрабіўся слабым. Я, Маўглі, пабаяўся двух ваўкоў! Акела і нават Фао справіліся-б з імі, прагналі-б іх, а Маўглі пабаяўся! Гэта ёсць пэўная адзнака, што я з'еў атруты. Але што ім да таго, жыхарам Джунгляў? Яны пяюць, выюць, б'юцца і бегаюць гуртам пры святле месяца, а ў гэты час я—гай-май!—паміраю ў балотах ад атруты.

І яму зрабілася так шкада сябе, што ён ледзь не заплакаў.

— А потым,—казаў ён далей,—яны знойдуць мяне ў чорнай вадзе. Не, я пайду лепш у свае ўласныя Джунглі і памру на Скале Рады! Багіра, якую я люблю, можа пасядзіць каля майго трупа, калі толькі не пабяжыць раўсці ў даліну; а потым Чыль з'есць мяне, як ён з'еў Акелу.

І гарачая слязіна капнула на калены Маўглі; ён нават адчуў нейкую своеасаблівую асалоду ў тым, што ён такі гаротны.

— Як каршун Чыль еў Акелу,—паўтарыў ён,— у ноч, калі я ратаваў Зграю ад Рудых Сабак...

Ён крыху памаўчаў, успамінаючы апошнія словы Адзінокага Ваўка.

— Перад смерцю Акела нагаварыў мне ўсялякіх недарэчнасцей. Мусіць таму, што перад смерцю думкі блытаюцца. Ён казаў... Але ўсё-ж я сын Джунгляў!

Ён усхваляваўся ад успамінаў пра бойку па мялізнах Вайнгунгі і крыкнуў апошнія словы так гучна,

што буйваліца, што ляжала ў чаротніку, ускочыла на ногі і зараўла:

— Чалавек!?

— Уф!—прамовіў Міза, дзікі буйвал, які ляжаў у суседняй лужыне.—Гэта не Чалавек, гэта толькі Безвалосы Воўк Сіанійскай Зграі. У такія ночы ён бегае ўзад і ўперад.

— А я думала, што гэта Чалавек,—сказала буйваліца, апусціўшы галаву, і шчыплючы траву.

— Не, кажу я табе! О, Маўглі, можа пагражае якая небяспека?—замыкаў Міза.

— О, Маўглі, можа ёсць якая небяспека! —перадражніў яго Маўглі.—Аб гэтым толькі і думае Міза,— ці ёсць небяспека. Пра самога-ж Маўглі, які кідаецца па Джунглях уначы, вы зусім не думаеце.

— Як ён зычна крычыць! —сказала карова.

— Так крычаць усе,—з пагардай сказаў Міза,— хто, нарваўшы травы, не ведае, як яе есці.

— Нават за меншую дзёрзкасць, —прастагнаў Маўглі,—за меншае грубіянства не далей, як у мінулыя дажджы, я выгнаў Мізу з яго лужыны і павалок праз Балота на вяроўцы з травы!

Ён працягнуў было руку па сцябло чарота, але зараз-жа і апусціў яе. Міза жвакаў сабе сваю жвачку, высокая трава калыхалася ў тым месцы, дзе пасвілася буйваліца.

— Не хачу паміраць тут!—гнеўна сказаў Маўглі.— Міза, сваяк Джакалы і свінні, яшчэ высмяе мяне. Пойдзем за балота, паглядзім, што будзе. Ніколі яшчэ я не бегаў такога веснавога бегу—і горача, і холадна разам. Ну, уставай, Маўглі!

Маўглі не мог устрымацца ад спакусы падкрасціся да Мізы і паласкатаць яго канцом нажа. Вялізны бык вырваўся з твані з грукатам гарматнага стрэлу. Маўглі аж пакаціўся ад смеху.

— Раскажы, Міза, як аднаго разу Безвалосы Воўк Сіанійскай Зграі выратаваў цябе,—казаў ён.

— Воўк? Ты?—зароў бык, тупаючы нагамі.—Усе Джунглі ведаюць, што ты быў пастухом хатняй жывёлы, такім самым падшыванцам, як і тыя, што бегаюць і поркаюцца ў пылу за палянай! Які паляўнік надумаўся-б падкрасціся змяёй і дзеля паскуднага шакалавага жарту асароміць мяне перад маёй каровай? Ідзі на цвёрдую зямлю і тады я... я пакажу табе!

Морда ў Мізы пакрылася пенай, у яго быў бадай што самы задзірысты характар у Джунглях.

Маўглі паглядзеў, як той соп і злаваў, і вочы яго зусім не змянялі свайго выразу. Нарэшце, калі шум крыху сцішыўся і можна было пачуць словы, Маўглі спытаўся:

— Якая Чалавечая Зграя жыве ў балотах, Міза? Гэта для мяне новыя Джунглі.

— Ідзі на Поўнач!—крыкнуў раз'ятраны бык, бо Маўглі досыць значна кальнуў яго нажом.—Што гэта за жарты вясковага падпаска? Ідзі раскажы тым, у вёсцы, за балотам.

— Чалавечая Зграя не любіць лясных казак. Не думаю я таксама, Міза, што з-за нейкай там драпінкі на тваёй скуры нам варта было-б сварыцца. Але я пайду зірну на гэтую вёску. Ціха, я пайду. Не кожную ноч Уладар Джунгляў прыходзіць пасвіць цябе.

Маўглі ступіў на зыбкі бераг балота, добра ведаючы, што Міза не адважыцца напасці на яго тут, а потым са смехам пабег прэч, уяўляючы сабе, як злуе буйвал.

— Не зусім яшчэ знікла мая сіла!—пацяшаў сябе Маўглі.—Можа атрута не дайшла да касцей. А вунь сядзіць зорачка!

Ён закрыў твар рукою і паглядзеў праз пальцы.

— Клянуся Быком, што выкупіў мяне, гэта Чырвоная Кветка! Чырвоная Кветка, ля якой я ляжаў перад тым, як з'явіўся першы раз у Сіанійскую Зграю. А цяпер я спыняю свой бег...

Балота канчалася шырокай раўнінай, на якой і мігацеў аганёк. Даўно ўжо Маўглі не цікавіўся справамі людзей, але ў гэтую ноч мільгаценне Чырвонай Кветкі зацікавіла яго, як новая гульня.

— Я пайду пагляджу, ці змянілася за гэты час Чалавечая Зграя. Маўглі пайшоў па мокрай роснай траве і апынуўся перад хатай, дзе гарэў агонь. Хата была на канцы вёскі. Некалькі сабак пачалі брахаць, але Маўглі завыў паваўчынаму, і яны спалохаліся і змоўклі.

— Хай будзе, што будзе!—прашаптаў ён,—і навошта прыйшоў я да лагавішчаў Чалавечай Зграі?

Ён дакрануўся рукой да рота, успомніўшы, як некалькі гадоў назад ударылі яго камнем людзі з другой Чалавечай Зграі.

Расчыніліся дзверы хаты, вышла жанчына і пачала ўглядацца ў цемру. У хаце пачуўся плач дзіцяці; жанчына азірнулася і сказала:

— Спі! Гэта шакал разбудзіў сабак. Зараз будзе дзень.

Маўглі, седзячы ў траве, задрыжаў, як у трасцы. Ён добра ведаў гэты голас, але, каб упэўніцца, ціханька гукнуў:

— Месуа! О, Месуа!—і сам здзівіўся, што ўспомніў чалавечыя словы.

— Хто гэта?—спыталася яна дрыжачым голасам.

— Ці ты забылася?—сказаў Маўглі.

— Калі гэта ты, скажы, якім імем я цябе называла.

Яна прычыніла дзверы і прыціснула рукі да сваіх грудзей.

— Нату! Оге Нату!—назваў Маўглі імя, якое дала яму Месуа, калі ён першы раз з'явіўся ў Чалавечую Зграю.

— Ідзі-ж сюды, сын мой!—крыкнула Месуа.

Маўглі ўвайшоў і паглядзеў на Месуа, на тую жанчыну, якая была такая ласкавая да яго і якую ён выратаваў ад Чалавечай Зграі многа гадоў назад. Яна пастарэла, валасы яе пасівелі, але вочы і голас не змяніліся. Яна забылася, што даўно ўжо не бачыла Маўглі, і ёй здавалася што ён такі самы, якім яна бачыла яго ў апошні раз. Калі-ж яна ўбачыла яго, такога вялікага і непадобнага да ранейшага, то нават схілілася да яго ног.

— Сын мой!.. Але не, гэта не сын мой. Гэта лясны бог! Агай!

У чырвоным святле газнічкі, высокі, складны, прыгожы, з чорнымі валасамі па плячах, з бліскучым нажом на шыі і белым жасмінавым вянком на галаве і голы— Маўглі сапраўды нагадваў бога з лясной легенды.

Дзіця ў пасцелі ўскочыла і закрычала ад страху. Месуа пачала супакойваць яго, а Маўглі моўчкі стаяў

і разглядаў збан з вадой і гаршкі, скрынкі са збожжам і іншыя рэчы чалавечага жылля, якія ён так добра памятаў.

— Ты што хочаш, есці ці піць?—спытала Месуа.— Тут усё тваё. Ты-ж нам выратаваў жыццё. Але-ж ці той ты, каго я называла Нату,—ці ты здань Джунгляў?



— Я Нату,—адказаў Маўглі.—Я ўбачыў гэты агонь і пайшоў сюды. Я не ведаў, што ты тут.

— Пасля таго, як мы прыйшлі ў Канхівару, муж пайшоў да ангельцаў, і яны забаранілі паліць нас. Ты памятаеш гэта?

— Вядома памятаю.

— Тады мы вярнуліся назад, на свае старое месца. Але вёска знікла, і мы нічога не маглі знайсці там.

— Так, я гэта ведаю,—сказаў Маўглі—вочы яго блiснулі.

— Пасля таго муж мой наняўся тут работнікам, працаваў добра, і мы набылі кавалачак зямлі. Цяпер мы жывем бядней, як тады, але нам многа не трэба.

— А дзе чалавек, які капаў зямлю і які так баяўся ў тую ноч?

— Ён памёр год назад.

— А гэта хто?—і Маўглі паказаў на дзіця.

— Гэта сын мой, які нарадзіўся два гады назад. Калі ты бог, падаруй яму ласку Джунгляў, каб не было яму небяспекі сярод твайго... твайго народу, як у тую ноч.



Яна падняла дзіця і яно, забыўшыся на свой страх, пацягнулася да нажа, што вісеў на грудзях у Маўглі. Маўглі далікатна адсунуў яго ручку.

— Калі ты Нату, якога панёс тыгр, то гэта твой малодшы брат. Пацалуй яго, як старэйшы брат.

— Гай! Май! Я нічога не ведаю. Я яму не брат. О, маці, маці, як цяжка мне на сэрцы!

Ён задрыжаў і пасадзіў дзіця. Месуа завіхалася каля гаршкоў і казала:

— Гэта таму, што ты бег па балотах усю ноч.

Ты, мусіць, схапіў трасцу. Я раскладу агонь і напаю цябе цёплым малаком. Здымі свой жасмінавы вянок, бо пах яго занадта моцны для кожнага маленькага памяшкання.

Маўглі сеў і закрыў твар рукамі. Галава яго кружылася, нейкія дрыжыкі прабягалі па целе і было млосна, нібы ён сапраўды з'еў атруты. Ён прагна піў гарачае малако, а Месуа глядзела на яго, час ад часу пляскала па плячы і ўсё яшчэ не магла вырашыць, ці сапраўды гэта яе сын Нату, ці нейкі таемны жыхар лясоў, або дух які. Але радасна было ёй бачыць яго.

— Сын,—прамовіла яна, нарэшце, з нейкім гонарам,—ці казаў табе хто-небудзь, што ты прыгажэй ад усіх?

— А?—спытаўся Маўглі, не разумеючы ў чым справа. Месуа ціха і радасна засмяялася. Яна была задаволеная і тым, што ён зірнуў на яе.

— Значыцца, я першая? Гэта добра. Хоць рэдка здараецца, каб маці казала сыну такія словы. Ты вёльмі прыгожы! Я ніколі яшчэ не бачыла такога мужчыны.

Маўглі азірнуўся і пачаў разглядаць сябе з усіх бакоў. Месуа засмяялася так гучна, што і Маўглі зарагатаў, не разумеючы ў чым справа. А дзіця бегала каля іх і таксама смяялася.

— Не, ты не павінен смяяцца з свайго брата!—сказала Месуа, злавіўшы дзіця і прыціскаючы яго да грудзей.—Калі ты будзеш хоць на палову такі прыгожы, як ён, мы ажэнім цябе з малодшай дачкой раджы, і ты будзеш ездзіць на вялікіх сланах.

Маўглі наўрад ці разумеў трэцюю частку слоў з гэтай гутаркі. Ён прабег шэсцьдзесят кілометраў і цяпер, пасля гарачага малака, адчуваў сябе зусім млявым. Ён скруціўся на лаве і праз хвіліну моцна заснуў. Месуа адкінула з твара яго валасы і пакрыла яго плашчом.

Ён праспаў усю ноч і ўвесь наступны дзень, бо інстынктам адчуваў, што тут няма яму ніякай небяспекі. Прачнуўшыся, ён так скокнуў, што затрэслася ўся хата. Яму прыснілася пастка, і цяпер, ухапіўшы нож, ён азіраўся соннымі вачыма, каб уступіць у бойку з ворагам.

Месуа смяялася. Яна паставіла перад ім вячэру— грубыя перапечкі, спечаныя на дымным агні і трошкі рысу і кіслых пладоў тамарыска. Для яго гэта быў толькі падвячорак перад вячэрнім паляваннем.

Пах балотнай травы выклікаў у ім і голад і непакой. Ён хацеў скончыць свой веснавы бег, але дзіця настойліва хацела сядзець у яго на руках, а Месуа дамагалася прычасаць яго чорна-сінія валасы. Яна напявала розныя дзіцячыя песенькі і то называла Маўглі сваім сынам, то прасіла падараваць дзіцяці крыху лясной сілы.

Раптам Маўглі пачуў за дзвярыма добра знаёмы яму гук, а Месуа скамянела ад жаху. Праз дзверы прасунулася велізарная воўчая лапа і пачулася выццё Шэрага Брата. У гэтым выцці чулася і трывога за Маўглі, і радасць, і каянне.

— Выйдзі і пачакай! Ты не прыйшоў тады, калі я клікаў цябе!—сказаў Маўглі на лясной мове, не павярнуўшы галавы, і шэрая лапа зараз-жа знікла.

— Не прыводзь... не прыводзь сюды тваіх... тваіх слуг!—ускрыкнула Месуа.—Я... мы заўсёды жылі ў згодзе з Джунглямі.

— Згода і застаецца,—сказаў Маўглі, устаўшы.— Успомні ноч, калі вы ішлі ў Канхівар. І спераду і ззаду былі дзесяткі такога народу, і яны ахоўвалі вас. Ну, я іду, маці!

Месуа пакорна адсунулася ў бок. Яна цяпер ужо думала, што гэта сапраўды лясны бог. Але як толькі ён дакрануўся рукою да дзвярэй, матчына сэрца не вытрымала: яна ахапіла рукамі шыю Маўглі і зашаптала:

— Вярніся! Сын ты, ці не сын—вярніся, бо я люблю цябе. Глядзі, ён таксама шкадуе!

Дзіця заплакала, убачыўшы, што чалавек з бліскучым нажом выходзіць.

— Вяртайся-ж,—паўтарала Месуа.—І дзень і ноч гэтыя дзверы будуць заўсёды адчыненыя для цябе.

Нешта падступіла к горлу Маўглі, і ён з намаганнем прамовіў:

— Я прыду абавязкова!

Калі ён вышаў за дзверы, Шэры Брат кінуўся да яго лашчыцца. Але Маўглі адпхнуў яго і сказаў:

— Я маю супроць цябе маленькі кліч, Шэры Брат. Чаму вы не прыйшлі да мяне ўсе Чацвёра, калі я клікаў вас так даўно?

— Даўно? Да гэта-ж было ў мінулую ноч! Я... мы спявалі ў Джунглях, бо прыйшла пара Новых Песен. Ці ты не памятаеш?

— Так, так.

— І як толькі песні праспявалі,—горача казаў Шэры Брат.—Я пакінуў усіх і пабег па твайму следу. Але-ж ты, Братка, што нарабіў: ты еў і спаў з Чалавечай Зграяй!

— Калі-б вы прыйшлі, калі я вас клікаў, то гэтага ніколі не здарылася-б,—сказаў Маўглі, паскорыўшы крокі.

— А што цяпер будзе?—спытаўся Шэры Брат.

Маўглі хацеў быў адказаць, але на сцежцы паказался дзяўчына ў белым адзенні. Шэры Брат зараз-жа знік, а Маўглі ціха адступіў і схаваўся ў маісе. Дзяўчына так блізка прайшла каля яго, што ён мог-бы дакрануцца да яе рукамі. Ён мільгануў перад ёй і зараз-жа схаваўся за каласамі. Дзяўчына ўскрыкнула, думаючы, што гэта нейкі дух і хуценька пайшла наперад. Тады Маўглі рассунуў сцяблы рукамі і доўга глядзеў ёй услед, пакуль яна не знікла з вачэй.

— Што-ж ты думаеш цяпер рабіць?—зноў спытаўся воўк, падбегшы.

— Не ведаю,—адказаў Маўглі і ўздыхнуў.—Але чаму-ж вы не прыйшлі, калі я клікаў вас?

— Мы заўсёды ідзем з табой,—прамармытаў Шэры Брат і пачаў лізаць яму ногі. Мы ідзем заўсёды, толькі... толькі не ў час Новых Песень.

— І пойдзеце за мной у Чалавечую Зграю?—прашаптаў Маўглі.

— Ці не пайшоў я з табою ў тую ноч, калі наша Зграя выгнала цябе? Хто разбудзіў цябе, калі ты спаў у полі?

— Так. Ну, а калі прышлося-б яшчэ?

— Ці не прыйшоў я за табой у гэтую ноч?

— Ну, а калі яшчэ прыдзецца, і яшчэ, і яшчэ, Шэры Брат?

Шэры Брат памаўчаў, а потым прамармытаў:

— Праўду сказала Чорная Пантэра.

— Што яна сказала?

— Чалавек ідзе да Чалавека, нарэшце. Яшчэ маці, Ракша, казала...



— Тое самае казаў і Акела ў час бойкі з Дхоламі,—прамармытаў Маўглі.

— Тое самае казаў і Каа, а ён мудрэйшы за нас усіх.

— А што, скажаш ты, Шэры Брат?

— Яны раз прагналі цябе, лаялі і разбілі каменем табе рот. Яны паслалі Бульдэа, каб ён забіў цябе. Яны хацелі цябе кінуць у Чырвоную Кветку. Ты сам казаў, што яны—злая, дурная Зграя. Ты, а не я, ператварыў іхнюю вёску ў Джунглі. Ты, а не я, склаў супроць Чалавечай Зграі песню, больш жорсткую, як наша песня супроць Рудых Сабак.

— Я пытаюся, што ты скажаш?

Некаторы час Шэры Брат бег побач моўчкі, а потым сказаў з націскам.

— Чалавечае Дзіцянё, Уладар Джунгляў, сын Ракшы і мой брат па логаву! Хоць я і забыўся на кароткі час увесну, але твае словы—мае словы, твае логава — маё логава, твой след—мой след, твая зда-

быча—мая здабыча і твой смяротны бой—мой смяротны бой. Я кажу за ўсіх Трох! Калі-ж ты скажаш гэта Джунглям?

— Так. Чакаць няма чаго. Ідзі наперад, склікай усіх на Скалу Рады, і я раскажу ім усё... Толькі можа яны не прыйдуць? Пэўна яны забыліся на мяне ў часе Новых Песень.

— А ты сам нічога не забываеш?—агрызнуўся Шэры Брат і паімчаўся наперад.

Каб гэта быў іншы час, усе Джунглі прыбеглі-б да Скалы Рады, а цяпер звяры сапраўды былі занятыя паляваннем, бойкамі і пяяннем. Шэры Брат бегаў усюды і крычаў:

— Уладар Джунгляў ідзе назад да Чалавека! Ідзіце на Скалу Рады!

А шчаслівы народ толькі адказаў:

— Ён вернецца ў летнюю спякоту! Дажджы заганяць яго ў логава! Пабегай і паспявай з намі, Шэры Брат!

— Але-ж Уладар Джунгляў ідзе назад да Чалавека!—настойваў Шэры Брат.

— Аоуа! Ці пара Новых Песень зробіцца ад гэтага горшай?—адказвалі яму.

І калі Маўглі з сумам узышоў на даўно вядомую яму Скалу Рады, на тую скалу, дзе калісьці прымалі яго ў Зграю, ён знайшоў там толькі чатырох братоў, амаль сляпога ад старасці Балу ды вялізнага халоднага Каа, які абкруціўся вакол каменя, на якім калісьці ляжаў Акела.

— Значыцца, твой след канчаецца тут, Чалавечак?—прамовіў Каа, калі Маўглі кінуўся на зямлю тварам

на рукі.—Клікні твой кліч: мы адной крыві, ты і я—Чалавек і Змяя.

— Чаму мяне не разадралі тады Рудыя Сабакі?—прастагнаў Маўглі. Сіла мая адышла ад мяне, але гэта не атрута. І ўдзень і ўноч я чую падвойныя крокі па маім сляду. Павярну галаву—і мне здаецца, нібы нехта хаваецца ад мяне. Пабягу да дрэва паглядзець—



там нікога няма. Я крычу—ніхто не адгукаецца, а мне здаецца, што ён чуе і хавае адказ... Я кладуся спаць і сон не супакойвае мяне. Я бягу веснавым бегам—і таксама не ўспакойваюся. Я купаюся і не адчуваю прахалоды. Чырвоная Кветка ў маёй крыві! Косці мае, як вада. Я не ведаю, што са мной робіцца.

— Навошта словы?—прамовіў Балу, ледзь паварочваючы галаву да Маўглі.—Акела ля ракі сказаў,

што Маўглі прагоніць Маўглі назад да Чалавечай Зграі. Я казаў тое самае, але хто цяпер слухае Балу? Багіра! Але дзе-ж Багіра ў гэтую ноч? Яна таксама ведае. Гэта—Закон!

— Яшчэ калі мы сустрэліся ля Халодных Пячор я ведаў гэта,—сказаў Каа.—Чалавек нарэшце ідзе да Чалавека, хоць-бы Джунглі яго і не праганялі.

Чацвёра збянтэжана пазіралі адзін на аднаго і на Маўглі.

— Значыцца, Джунглі не праганяюць мяне?—прашаптаў Маўглі.

Шэры Брат і Трое люта завылі:

— Пакуль мы жывыя, ніхто не адважыцца!..

Але Балу перапыніў іх:

— Я навучыў цябе Закону і я павінен цяпер казаць табе. Хоць я не бачу перад сабою скал, затое я бачу далечыню. О, Жабянё, ідзі сваім следам! Ідзі ў логава да сваёй Зграі, да сваіх братоў па крыві. І калі спатрэбіцца табе нага, ці зуб, ці вока або лятучае слова, то памятай, Уладар Джунгляў, што Джунглі—твае!

— Сярэднія Джунглі таксама твае,—дадаў Каа.—А ў ім жыве неслабы народ.

— Гай! Май! Браты мае!—крыкнуў Маўглі з плачам.—Я не ведаю, што са мной. Я не хачу ісці, але нейкая сіла цягне мяне за ногі. Як мне разлучыцца з гэтымі нагамі?

— Не бядуй, Братка!—сказаў Балу.—Няма нічога ганебнага ў тваім новым паляванні. Калі мы з'ядаем мёд, мы пакідаем пусты сот.

— Скінуўшы скуру, мы не ўлазім у яе зноў,—дадаў Каа.—Гэта—Закон.

— Слухай, любы мой!—зноў пачаў Балу.—Няма такога слова, якое магло-б утрымаць цябе. Хто можа пытацца Ўладара Джунгляў? Я бачыў цябе, калі ты з'явіўся сюды першы раз і гуляў вунь тэм з белымі каменьчыкамі. І Багіра, што выкупіла цябе за быка, таксама бачыла цябе. З усіх, што тады былі, засталіся толькі мы двое. Ракша, маці твая, памерла разам з бацькам. Старая воўчая зграя даўно павымірала. Ты ведаеш куды дзеўся



Шэр-Хан. А Акела загінуў сярод Дхолаў, ад якіх загінула-б і другая Сіанійская Зграя, каб не твая мудрасць і сіла. Засталіся толькі старыя косці. Не Чалавечае Дзіцянё пакідае Зграю сваю, а Ўладар Джунгляў змяняе свой след. Хто можа пытацца Чалавека пра яго шлях?

— Але Багіра, і Бык, што выкупіў мяне?—казаў Маўглі.

— Я не хачу...

Словы яго перапыніў гучны трэск і рэў у пушчы.—

І адтуль выскачыла Багіра, лёгкая, дужая і страшная, як заўсёды.

— Вось чаму я не з'яўлялася,—сказала яна і паказала скрываўленую лапу.—Гэта было доўгае паляванне, але цяпер ён ляжыць мёртвы ў кустах, двухгадовы бык, які вызваляе цябе, Братка! Усе даўгі выплачаны. А што да ўсяго іншага, дык маё слова аднолькавае са словамі Балы.

І яна пачала лізаць ногі Маўглі. Потым паскакала прэч, крыкнуўшы:

— Памятай, што Багіра любіла цябе!

Спусціўшыся з узгорка, яна прыпынілася і зноў крыкнула:

— Добрага Палявання табе на новым сляду, Уладар Джунгляў! Памятай, што Багіра любіла цябе!

— Ты чуў?—спытаўся Балу.—Больш няма чаго казаць. Цяпер ідзі. Але перш падыдзі да мяне, о мае мудрае Жабянё!

— Так, цяжка скідваць скуру!—уздыхнуў Каа, пакуль Маўглі са слязьмі абнімаў сляпога мядзведзя і прыціснуўся да яго грудзей, а стары Балу імкнуўся лізнуць яму ногі.

Шэры Брат панюхаў перадранішні ветрык і сказаў:

— Зоркі пабялелі. Дзе будзе наша логава сёння? Бо з гэтага часу мы ідзем па новых слядах...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта апошняе з апавяданняў пра Маўглі.





# ЗМЕСТ



---


Рэдактар *Давідовіч* Карэктар *Нёйфах*
Тэхрэдактар *Лапідус*

Здана ў друкарню 1-VIII—34 г. Падпісана да друку 25-X-34 г. Аб'ём 16¹|₂ друкаваных аркушоў. Папера 62×94¹|¹₆. Знакаў у друкаван. аркушы 35.400. Тыраж 6.000 экз. Заказ № 1088
Уп. Галоўлітбела №а 1254.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Энгельса, 2.

